Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

ПРАЦЫ БЕЛАРУСКАГА НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧАГА ІНСТЫТУТУ СЕЛЬСКАЕ і ЛЯСНОЕ ГАСПАДАРКІ імя Ў. І. ЛЕНІНА пры СНК БССР

Т. IX АДДЗЕЛ С.-Г. ЭКАНОМІІ і АГРАРНАЙ ПАЛІТЫКІ Вып. 4

С. А. ЖДАНОВІЧ

# ДА ПЫТАНЬНЯ АБ УМОВАХ РАЗЬВІЦЬЦЯ РЫНКОВАЕ СЬВІНАГАДОЎЛІ Ў БЕЛАРУСІ



ТРУДЫ БЕЛОРУССКОГО НАУЧНО-ИССЛЕДОВАТЕЛЬСКОГО ИНСТИТУТА СЕЛЬСКОГО и ЛЕСНОГО ХОЗЯЙСТВА имени В. И. ЛЕНИНА при СНК БССР

С. А. ЖДАНОВИЧ

К ВОПРОСУ ОБ УСЛОВИЯХ РАЗВИТИЯ РЫНОЧНОГО СВИНОВОДСТВА В БЕЛОРУССИИ

BULLETIN OF THE WHITE RUTHENIAN LENIN'S INSTITUTE OF SCIENTIFIC RESEARCH OF AGRICULTURE AND FORESTRY AT THE SOVIET OF PEOPLE'S COMMISSARIES OF WRSSR.

S. A. ZDANOWICZ

TO THE QUESTION OF MARKET-SWINE-BREEDING'S DEVELOPMENT CONDITIONSIN WHITE RUTHENIA (BIELARUŚ)

МЕНСК — MINSK

1929 г.

## ПРАДМОВА.

Тэма «Умовы разьвіцьця рынкавае сьвінагадоўлі на Беларусі» зьяўляецца вельмі шырокай і ні ў якім разе нельга лічыць, што дадзеная праца яе вычэрпвае. Значэньне яе, як папярэдняе працы, заключаецца галоўным чынам у тым, каб на прыкладзе аналізу організацыйна-вытворчых і рынкавых умоў разьвіцьця аднае з галін с/г ў адным раёне, па-першае, раскласьці той комплекс пытаньняў, які зьвязан з аналізам умоў разьвіцьця кожнае галіны с/г ва ўсялякім раёне; па-другое, пастарацца знайсьці шляхі і спосабы разьвязваньня пастаўленых пытаньняў. Дзякуючы гэтаму памылкі гэтае працы практычна ня могуць быць асабліва шкоднымі. Але магчыма, што яны дадуць повад дзеля плённай дыскусіі.

Праца выканана пры бліжэйшым удзеле і кіраўніцтве Пам. Загадч. Габінэту с/г каньюнктуры пры Навукова-Дасьледч. Ін-ту с/г Эканоміі ў Маскве Ів. Н. Жырковіча. Зьбіраньне і распрацоўка матар'ялаў зроблены мною супольна са студэнткаю Беларускае с/г Акадэміі Р. З. Міханоўскаю. Вялікае садзейнічаньне організацыі і правядзеньню дадзенага дасьледваньня было аказана Дырэктарам Беларускага Навукова-Дасьледч. Ін-ту Сельскае і Лясное гаспадаркі ім. Леніна Г. І. Гарэцкім. Усім ім я выказваю глыбокую ўдзячнасьць.

**С. Ждановіч.**

Жнівень 1923 г.
Масква.

# I. Характарыстыка раёну абсьледаваньня.

## 1) Раён лёкалізацыі рынкавае сьвінагадоўлі на Беларусі перад вайною.

Перад вайною на Беларусі рынкавая сьвінагадоўля была лёкалізавана галоўным чынам у Гарадзеншчыне, у заходніх паветах Менскае (Новаградзкім, Менскім і Слуцкім) і часткова ў паўднёвых паветах Віленскае губ. [1]). У Беларускім Палесьсі, на поўдзень ад адзначанага раёну, рынкавая сьвінагадоўля не была разьвітаю. У сучасны момант таксама найбольш разьвітая рынкавая сьвінагадоўля ў Менска-Слуцкім раёне БССР.

У гэтай працы я буду імкнуцца: па-першае, даць адказ на пытаньне, чаму разьвіцьцё рынкавае сьвінагадоўлі на Беларусі, як перад вайною, гэтак і зараз, лёкалізавалася ў азначаным раёне, па-другое, прааналізаваць дынаміку гэтага разьвіцьця. Пры чым, гэты аналіз будзе грунтавацца часткова на эмпірычных матар'ялах, ужо апублікаваных як перад вайною гэтак і цяпер, а часткова на матар'ялах, якія былі сабраны мною шляхам экспэдыцыйнага абсьледваньня ў Случчыне, у кастрычніку 1927 г. Сучаснае ў значнай меры зьяўляецца вынікам мінулага, з гэтай прычыны веданьне мінулага можа дапамагчы разуменьню сучаснага і наадварот.

Рынкавая сьвінагадоўля адносна слаба зьвязана з іншымі галінамі сельска-гаспадарчае прамысловасьці, дзеля гэтага яе можна прыраўнаваць да такіх галін перапрацоўкі сельска-гаспадарчых прадуктаў, як вінаробства і піваробства. Але ў працілегласьць піваробству,— сьвінагадоўля мае, ужываючы тэрмін Вэбэра, адносна вышэйшы матар'яльны індэкс. З гэтай прычыны штандарт падобнага роду галінаў будзе мацней цягацець да пунктаў сыравіны, у дадзеным выпадку да месца знаходжаньня асноўных кармоў, чымся да рынкаў збыту прадуктаў.

Сьвіньня, як апарат дзеля перапрацоўкі кармоў, характарызуецца кароткім і проста складзеным страўным каналам. З гэтай прычыны лепш за ўсё яна можа выкарыстаць толькі той корм, у якім ёсьць шмат пажыўнае матэрыі ў форме лёгкай дзеля ўспрыйманьня.

Збожжа і бульба зьяўляюцца лепшымі харчамі для сьвіньні. У сусьветнай сельскай гаспадарцы можна выразна выдзеліць двое асноўных раёнаў разьвіцьця рынкавае сьвінагадоўлі. Па-першае, так званая кукурузавая зона Злучаных Штатаў Паўночнае Амэрыкі, якая ў адносінах разьвіцьця сьвінагадоўлі ўтварае найбольшы і багацейшы ў сьвеце сельска-гаспадарчы раён [2]). На другім месцы, у адносінах

---

[1]) Гл. С. Ждановіч і А. Ярашчук. „Характарыстыка сельскае гаспадаркі Беларусі на падставе дадзеных аб чыгуначнай і вадзяной перавозках". Менск, 1926 г. Манаграмы № 40 і 41.

[2]) „Кукурузавая зона ўтварае, у адносінах да кукурузава-сьвіное вытворчасьці, найбольшы і багацейшы ў сьвеце сельска-гаспадарчы раён. Кукурузава-сьвіная вытворчасьць, побач з культураю пшаніцы і бавоўны ды сталёваю прамысловасьцю, зьяўляецца аднэю з асноўных, кіраўнічых галін вытворчасьці ў Злучаных Штатах.

разьвіцьця рынкавае сьвінагадоўлі, трэба паставіць раён моцнага пашырэньня культуры бульбы, які ахапляе Нямеччыну, Польшчу і Заходнія часткі Беларусі ды Украйны. З другога боку, нязначная сувязь сьвінагадоўлі з іншымі галінамі сельскае гаспадаркі дазваляе базіраваць яе разьвіцьцё амаль выключна на купляных кармох, пераносячы вытворчасьць прадуктаў сьвінагадоўлі амаль у самы пункт іхняга збыту (сьвінагадоўля Даніі).

Апрача таго, сьвінагадоўля, за выключэньнем напоўдзікае лесапашавае, зьяўляецца працаёмістай галіною гаспадаркі, дзеля гэтага штандарт яе будзе цягацець ня толькі да месцу таннага корму, але і да месцаў таннай рабочае сілы.

Наяўнасьць у пэўным раёне лішку або недахопу рабочае сілы, якія вызначаюць кошт гэтае рабочае сілы, асабліва-ж наяўнасьць пэўных харчоў, а яшчэ больш іхніх цэнаў, ня ёсьць наяўнасьць ужо дадзеных вялічынь, якія не падлягаюць далейшаму аналізу. Усе гэтыя велічыні, таксама як і сьвінагадоўля, зьяўляюцца выводнымі і знаходзяцца ва ўзаемнай сувязі з самою сьвінагадоўляй. Але на розных ступенях дасьледаваньня неабходна некаторыя велічыні, зьвязаныя паміж сабою функцыянальна, прыймаць як дадзеныя.

Раён рынкавае сьвінагадоўлі Беларусі характарызаваўся наяўнасьцю лішкаў бульбы і збожжа [1]). Заходняя частка Беларусі, асабліва Гарадзеншчына, характарызавалася таксама самымі таннымі цэнамі на рабочую сілу і дарагою цаною на зямлю. Напрыклад, плата пешаму работніку на сваіх харчох (сярэдняя з 3-х пэрыядаў) за 1891—1900 г. г. была ў капейках: Гарадзеншчына—37 к., Віленшчына—43 к., Меншчына— 46 к., Магілеўшчына—47 к., Віцебшчына—51 к., Смаленшчына—57 к. і нячорназемная паласа Эўрапейскае Расеі—57 к. У агульнай форме можна адказаць, што танныя цэны на рабочую сілу абумоўліваліся аграрнаю перанасялёнасьцю гэтага раёну. Але разуменьне аграрнае перанасялёнасьці зьяўляецца складаным і яго неабходна раскласьці на больш простыя элемэнты. Кошт рабочае сілы ў дадзеным месцы і ў дадзены час вызначаецца яе адноснаю абмежаванасьцю, або, іначай кажучы, суадносінамі попыту і прапаноў на рабочую сілу. Факт танных цэнаў на рабочую сілу гаворыць аб яе адносным лішку, г. зн., што рабочае сілы больш, чымся ёсьць для яе працы. Гэты стасунак, як і ўсялякі стасунак, залежыць ад велічыні, як лічніку, гэтак і зьместу. У дадзеным выпадку, лічнік г. зн. запасы рабочае сілы вызначаліся вялікай гушчынёю насельніцтва. Зьмест жа стасунку, ці то магчымасьці працы вызначаліся працоўнай ёмістасьцю індустрыі і промыслаў у гэтым раёне, а таксама ўласна сельскае гаспадаркі.

Індустрыя была разьвіта слаба. Промыслы таксама. Асабліва слаба былі разьвіты промыслы, трэба думаць, у Гарадзеншчыне, як малалеснай губэрні, бо промыслы на Беларусі былі ў большасьці зьвязаны з лесараспрацоўкамі і апрацоўкай дрэва.

Моцная дыфэрэнцыяцыя земляўладаньня, г. зн. наяўнасьць, вялікай колькасьці буйных прыватна-ўласьніцкіх гаспадарак—з аднаго боку, і малазямельных і беззямельных—з другога боку, сьціскалі пра-

---

Кукуруза і сьвіньні знаходзяцца ў самай шчыльнай сувязі з тае прычыны, што фактычна 40 проц. кукурузы выкарыстоўваецца на кармленьне сьвіней. На мапе Зл. Шт. раёны разьвіцьця сьвінагадоўлі і кукурузы супадаюць".

H. A. Wallace—Forecas ting Corn and Hog Prices. Chapter XVIII.

The Problem Af business forecasting. 1924.

[1]) Гл. памянёную працу Ждановіча і Ярашчука. Мапаграмы 1, 2, 3, 8, 9, 15, 17, 19.

цоўную ёмістасьць сельскае гаспадаркі. Па процанту бязконных Гарадзеншчына ізноў-жа стаяла на першым месцы. (25—30 проц.).

«Община» з яе перадзелам, які паслабляў дыфэрэнцыяцыю вёскі, на Беларусі адсутнічала. З другога боку, адсутнасьць «общины» спрыяла рацыянальнай інтэнсіфікацыі сельскае гаспадаркі на Беларусі і і разьвіцьцю прадпрыёмных здольнасьцяў у сялян. Гэтаму таксама спрыяла вялікая колькасьць рацыянальна наладжаных прыватнаўласьніцкіх гаспадарак. Такім чынам, наяўнасьць буйных прыватнаўласьніцкіх гаспадарак была аднэю з прычын, вызначаўшых танныя цэны на рабочую сілу, а з другога боку, гэтыя танныя цэны, у сваю чаргу, рабілі ўстойлівымі буйныя прыватнаўласьніцкія гаспадаркі. Устойлівасьць гэтых гаспадарак часткова знаходзілася ў сувязі таксама і з тым фактам, што амаль усе буйныя земляўласьнікі Беларусі былі па нацыянальнасьці палякі. «Калі параўняць мабілізацыю зямельнае ўласнасьці ў беларускіх і літоўска-беларускіх губэрнях з гэткім самым зьявішчам па ўсёй Расеі, дык агульны вынік параўнаньня прывядзе да наступнага: як агульнае правіла па ўсіх 77 губэрнях Эўрапейскае Расеі, панскае земляўладаньне з 1862 да 1911 году зьменшылася на палавіну. На Беларусі-ж і Літве—толькі, прыблізна, на $^1/_4$» [1]). Пры чым, самаю ўстойліваю панская гаспадарка была ў Гарадзеншчыне. «Такім чынам найбольшая стрыманасьць у паступленьні зямлі на рынак назіраецца ў Віленскай і асабліва ў Гарадзенскай губэрнях. Гэта губэрні з найбольш устойлівым польскім элементам» [2]).

Адносны лішак працоўнае сілы выкідаў з Беларусі штогодня вялізную строму перасяленцаў у Сібыр і эмігрантаў у Амэрыку; кошт рабочае сілы ён зьніжаў, а кошт карыстаньня зямлёй гнаў угару. Цэны на зямлю да 90-х гадоў у Віленшчыне, і асабліва ў Гарадзеншчыне, былі, прыблізна, у два разы большыя, чымся ў іншых губэрнях Беларусі [3]).

Таннасьць абы-якога з сродкаў вытворчасьці зьяўляецца перадумовай больш шырокага выкарыстоўваньня гэтага сродку. Па прынцыпу субстытуцыі дарагі фактар вытворчасьці замяняецца танейшым. У дадзеным выпадку сялянская гаспадарка на Беларусі, асабліва ў заходняй яе частцы, павялічвала працоўную ёмістасьць свае гаспадаркі, уводзючы інтэнсіўныя галіны.

Неразьвітасьць промыслаў, якія ў адносінах да сельскае гаспадаркі звычайна граюць рэакцыйную ролю затрымліваньня [4]) апрача зьніжваньня цэнаў на рабочую сілу, мела яшчэ тое значэньне, што сельская гаспадарка Гарадзеншчыны не магла ісьці па шляху натуральна-спажывецкае гаспадаркі, задавольваючы сваю патрэбнасьць у грошах з промыслаў, як гэта, па ўсёй праўдападобнасьці, часткова мела месца ў Магілеўшчыне, дзе значна былі разьвіты промыслы. Сялянская гаспадарка Гарадзеншчыны і Заходняе часткі Меншчыны, за выключэньнем Палесься, павінна была быць ня толькі інтэнсіўнаю, але і грашоваю, а значыць і рынкаваю. Адзіная акалічнасьць павялічвала неабходнасьць сялянскіх гаспадарках азначанага раёну быць грашовымі. На поўдні, побач з рынкава-сьвінагадоўчым раёнам

[1]) Гл. проф. М. В. Довнар-Запольского: „Народное хозяйство Белоруссии". Минск. 1926 г. стар. 38.

[2]) Там-жа стар. 34.

[3]) Там-жа стар. 37.

[4]) Гл. Сельска-Гаспадарчую пустэчу пад самаю Масквой у працы Г. І. Гарэцкага „Экономическое влияние Москвы на организацию сельского хозяйства области". Москва. 1927 г.

Беларусі, знаходзіцца Палесьсе з вядомымі Пінскімі ды Мазырскімі балотамі. На Палесьсі шмат забалочаных лугоў, якія раней у значнай сваёй частцы належалі абшарнікам. Зразумела, што выкарыстоўваць гэтыя лугі можна было толькі з вялікім накладам працы, дзякуючы чаму спосаб выкарыстоўваньня, пры дапамозе нанятай рабочае сілы, выключаўся. Выключалася таксама арэнда іх з часьці, бо абшарнік, ня маючы па блізасьці ад сваіх балоцістых лугоў значных кавалкаў ральлі, а значыць і ня маючы магчымасьці арганізаваць блізка каля лугу палявую гаспдарку, ня мог скарыстаць атрыманае з часьці сена іначай, як прадаўшы яго. Прадаваць-жа, вядома, было больш сэнсу на карню, г. зн. аддаваць свой луг у арэнду за грошы, што, як сьведчаць сяляне, шырака і практыкавалася. Сяляне Слуцкага, Наваградзкага і іншых паветаў бралі ў арэнду такія лугі ў Пінскім, Мазырскім паветах, часта за сто з гакам вёрст ад дому. Касілі і прыбіралі ўлетку. Вазілі-ж зімою, калі балаты замярзалі.

Плацёж гэтай арэнды павялічваў у сялянскай гаспадарцы патрэбнасьць на грошы. Усё большае і большае прасачваньне грошай у гаспадарку рэформавала да-званьня самаго гаспадара, узмацняючы ў ім рысы прадпрыёмцы. Больш падрабязна на значэньні гэтага моманту я спынюся ў другім месцы.

Але сказаць, што сельская гаспадарка Беларусі, асабліва заходняй яе часткі, мела перадумовы для інтэнсіфікацыі яшчэ недастаткова. Неабходна далей вызначыць ступень і якасную характарыстыку абавязковае для дадзенага раёну інтэнсіўнасьці. Выходзячы з прыродных умоў і становішча рынку, гэтая задача можа быць разьвязана па спосабу выключэньня (на значэньне гэтага спосабу аналізу па аналёгіі з мэтадам ізаляцыі мне паказаў Г. І. Гарэцкі). Калі прыняць пад увагу, што мы можам пацьвярджаць толькі адносную рацыянальнасьць абы-якое формы сельска-гаспадарчага прадпрыёмства, тады мэтад выключэньня застанецца адзіным пры довадзе, што пэўная форма гаспадаркі ў дадзеным месцы і ў дадзены час зьяўляецца адносна найбольш рацыянальнай. Зразумела, разьвязваньне гэтай задачы прымушае мяркаваць наперад, што ўжо дадзена нейкая сыстэматыка форм сельска-гаспадарчых прадпрыёмстваў. У дадзеным выпадку я бяру за аснову сыстэмы Людагоўскага, які, мне здаецца, найбольш удала даў і азначэньне самае сыстэмы сельскае гаспадаркі.

Відавочна, што для Беларусі ў цэлым, дзякуючы як прыродным умовам, гэтак і рынкаваму становішчу, выключаны былі магчымасьці крайніх форм, з аднаго боку — вольная гаспадарка, а з другога— пашавая і пераложная сыстэмы. Выганавая і травяная сыстэмы, якія прыстасоўваюцца да спэцыфічных прыродных умоў, відавочна, таксама не маглі мець месца. Магчымымі застаюцца збожжавая, палепшана-збожжавая і плодазьменная сыстэмы. Прыглядзімся цяпер бліжэй да магчымасьцяў кожнае з гэтых 3-х сыстэм, якія фактычна ў тэй ці іншай меры ўжываюцца на Беларусі. Тыповы плодазьмен пры наяўнасьці цераспалоснага землякарыстаньня наўрад ці можа мець колькі-небудзь значнае пашырэньне, але з другога боку і чыста збожжавую сыстэму, для большасьці раёнаў Беларусі, трэба лічыць ужо ў значнай меры перажыткам мінулага. Прыродныя ўмовы і рынкавае становішча Беларусі выключаюць яе, як рацыянальную форму гаспадаркі для дадзенага раёну. Перш за ўсё, яна ня можа задаволіць вялізнае, дзякуючы адносна малой урадлівасьці глебы, патрэбы гною ў гаспадарцы. Нельга пры ёй таксама выкарыстоўваць лішкі таннае рабочае сілы. Гэтыя запатрабаваньні гаспадаркі маглі быць задаволены, па-першае, шляхам разьвіцьця прадукцыйнае жывё-

лагадоўлі, а па другое,—працаёмістых культур і скарачэньнем папару. Гэтым шляхам і пайшла сельская гаспадарка Беларусі. Але, дзякуючы, галоўным чынам, прыродным умовам, тып земляробства, гэтак і прадукцыйнае жывёлагадоўлі ў розных мясцох сформаваліся па-рознаму. Паўночны ўсход пайшоў па шляху разьвіцьця культуры лёну, малочнае гаспадаркі і, зьвязанага з ёю, палявога пасеву траў. Недахоп бульбы і збожжа выключалі магчымасьці разьвіцьця рынкавае сьвінагадоўлі. Паўднёвы захад Беларусі, наадварот, пайшоў па шляху разьвіцьця, галоўным чынам, культуры бульбы і мясное жывёлагадоўлі [1]). Гэты шлях разьвіцьця быў зьвязан, па-першае, з тым, што гадоўля лёну, дзякуючы, галоўным чынам, прыродным умовам, выключалася ў паўднёва-заходняй частцы Беларусі, а лёгкія, пясчаныя і супясчаныя глебы, наадварот, спрыялі разьвіцьцю культуры бульбы. Асаблівасьць у складзе зямельнае плошчы ў гэтым раёне, а менавіта,—збытак балацістых лугоў, якія даюць значныя запасы грубога балотнага сена, штурхалі гадоўлю быдла ў напрамку яе экстэнсіўнага пашырэньня. У выніку атрымліваліся вялікія запасы гною, які зьявіўся базаю дзеля разьвіцьця бульбы і павялічэньня збору збожжавых, дзе глебавыя ўмовы гэтае дазвалялі. Разьвіцьцё бульбы знаходзіцца ў самай моцнай сувязі таксама з разьвіцьцём бравэрніцтва, якое было зрупавана ў буйных прыватнаўласьніцкіх гаспадарках. Няўхільнасьць такіх харчоў, як бульба і брага, павялічвала патрэбу ў саломе, як кармовым прадукце, і гэтым узмацнялася пазіцыя збожжавых, асабліва жыта. З другога боку, гэтыя кармы ўзмацнялі пазіцыю мясного напрамку гадоўлі быдла. У Гарадзеншчыне і Заходняй частцы Меншчыны (раён рынкавае сьвінагадоўлі) разьвіцьцё малочнае гадоўлі быдла ў сялянскай гаспадарцы затрымлівалася тым, што гэты раён, з параўнальна добрымі глебамі, зьяўляецца найбольш развораным, дзякуючы чаму тутака вастрэй за ўсё стаіць крызіс пашы. Наяўнасьць-жа добрае пашы звычайна зьяўляецца ўмоваю, якая вырашае разьвіцьцё малочнае гаспадаркі. У памянёным раёне добрыя прыродныя пашы адсутнічаюць, а да арганізаваньня стойлавага летняга кармленьня і штучнае пашы сялянская гаспадарка яшчэ не дарасла, чаму ў значнай меры перашкаджала цераспалоснае землякарыстаньне. Хаця яна ўжо варушылася ў напрамку гэтага арганізаваньня, беручы прыклад з прыватнаўласьніцкіх гаспадарак.

Такім чынам, сьвіньня зьяўлялася лепшым выкарыстальнікам значных запасаў бульбы і збожжа. Сельская гаспадарка гэтага раёну Беларусі ішла тым самым шляхам, што і сельск. гаспадарка Польшчы і Усходняе Прусіі, а менавіта—бульбы, жыта, браварніцтва, сьвінагадоўля і, праз арганізаваньне пашы і летняга падхарчоўваньня, інтэнсіўная малочная гаспадарка [2]). Гэты-ж самы шлях разьвіцьця трэба прызнаць мэтазгодным і на бліжэйшую будучыню для шмат якіх раёнаў Беларусі. Бульба, сьвінагадоўля, на базе шырокага выкарыстоўваньня ўласнай макухі і расейскіх высевак, высока-інтэнсіўная малочная гаспадарка, а таксама гадоўля насеннага і завадзкога матар'ялу дзеля рынку—зьяўляецца задачай бліжэйшае будучыні для адных раёнаў Беларусі і больш дальняй будучыні для другіх.

Калі сельская гаспадарка Польшчы і Ўсходняе Прусіі ў **органі-**

---

[1]) Гл. азначаную працу Ждановіча і Ярашчука.

[2]) Гл. Dr. Fritz Beckmann—„Ostpreussen und Polen“ Berlin 1927. Бринкман „Экономические основы організации сельско-хоз. предприятій“ 1926 г. „Палепшаная 3-х польная гаспадарка зьяўляецца яшчэ і ў цяперашні час у якасьці пераважнае сыстэмы земляробства ў сярэдніх і буйных сялянскіх гаспадарках Нямеччыны“, стр. 218.

**зацыйна-вытворчых адносінах** можа быць прызнана ў пэўным умоўным сэнсе паказальнікам бліжэйшага разьвіцьця сельскае гаспадаркі Случчыны і падобных раёну паўднёва-заходняе часткі Беларусі, дык, з другога боку, организацыйна-вытворчая структура сельскае гаспадаркі Случчыны, сваім чарадом, можа быць прызнана да некаторай ступені паказальнікам бліжэйшага разьвіцьця некаторых іншых раёнаў Беларусі, у першую чаргу, мне здаецца, Магілеўшчыны. Далей будзе паказана таксама, што з абсьледваных гаспадарак на першым месцы, у арганізацыйна-вытворчых адносінах, стаяць гаспадаркі з хутарскім землякарыстаньнем і бліжэйшыя ад рынку, значыцца, ў некаторым сэнсе яны паказваюць напрамак, па якім павінны ісьці іншыя гаспадаркі ў сваіх організацыйна-вытворчых формах.

У аснове гэтых сьцьвярджэньняў ляжыць перадумова, што зьмена форм сельска-гаспадарчых прадпрыёмстваў, як у прасторы, гэтак і ў часе, мае заканамерны характар (разумеючы заканамернасьць, як аднастайнасьць паступовасьці або суіснаваньня). Пры гэтым, адны раёны могуць у большай або ў меншай ступені паўтараць гісторыю разьвіцьця іншых раёнаў [1]). Вядома, поўнае тожсамасьці ня можа быць ня толькі ў разьвіцьці паасобных раёнаў, але і паасобных гаспадарак. У строгім сэнсе, працэс разьвіцьця зьяўляецца непаўторным працэсам. Гутарка можа ісьці толькі аб большай або меншай аналёгіі ў разьвіцьці. Пры чым, аналёгія ў разьвіцьці розных раёнаў будзе тым большая, чым раднейшымі будуць тыпы гаспадарак гэтых раёнаў, г. зн., чым больш маюць гэтыя раёны агульных перадумоў, якія вызначаюць форму сельска-гаспадарчых прадпрыёмстваў.

## 2) Случчына.

Меркаваньні, якія пабудзілі мяне ўзяць Случчыну дзеля абсьледаваньня ўмоў разьвіцьця рынкавае сьвінагадоўлі на Беларусі ў сучасны момант, былі наступныя. Па-першае, у сучасны момант Случчына зьяўляецца тым раёнам БССР, дзе найбольш моцна разьвіта рынкавая сьвінагадоўля; перад вайною Слуцкі павет, б. Менскае губэрні, быў паветам са значным разьвіцьцём рынкавае сьвінагадоўлі, уяўляючы сабою ўсходні край вялікага сьвінагадоўчага раёну, паўднёва-заходняе часткі Беларусі, да пэўнай ступені рэпразантуючы гэты раён. Па-другое, тая акалічнасьць, што ён ляжыць на мяжы сьвінагадоўчага раёну, надае асаблівую цікавасьць дзеля яго абсьледаваньня, з тае прычыны, што мы маем магчымасьць прасачыць пераход ад сьвінагадоўчых гаспадарак да несьвінагадоўчых, а значыцца, шляхам параўнаньня гэтых гаспадарак да некаторай ступені вызначыць і ўмовы лёкалізацыі рынкавае сьвінагадоўлі ў гэтым раёне. Тутака войстрая дыфэрэнцыя глебаў і складу зямельных кавалкаў у межах параўнальна невялікага абшару дазваляе вельмі выразна

---

[1]) Вызначаючы індукцыю, як „абагульненьне з досьледу“, Мілль далей зазначае, „што ў самым вызначэньні індукцыі падразумеваецца некаторы прынцып, некаторае дапушчэньне, якое датычыцца ладу прыроды і парадку сусьвету. Прынцып гэты заключаецца ў тым, што ў прыродзе існуюць падобныя, паралельныя выпадкі—што тое, што адбылося аднойчы, будзе мець месца пры даволі падобных абставінах і другі раз, і ня толькі другі; а і кожны раз, як толькі зноў спаткаюцца тыя самыя абставіны. Менавіта гэтае і падразумеваецца, кажу я, у кожнай індукцыі. І калі мы зьвернемся да супраўднасьці жыцьця, дык знойдзем, што падобнае дапушчэньне мае свае падставы. Сусьвет, на колькі ён вядомы, пабудован такім чынам, што ўсё тое, што праўдзіва ў якім-небудзь адным выпадку, будзе праўдзіва і ва ўсіх выпадках некаторага пэўнага роду; адзіная цяжкасьць тутака ў тым, каб вызначыць,—якога менавіта роду выпадках“. Стар. 245. „Система логики“ 1897 г. Москва.

выявіць уплыў гэтых умоў на організацыю гаспадарак. Дзякуючы гэтым і цэламу шэрагу іншых абставін, Случчына зьяўляецца надзвычайна ўдзячным аб'ектам дзеля вывучэньня шмат якіх організацыйна-вытворчых праблем беларускае сельскае гаспадаркі. Патрэцяе, гэты раён адмежаваны з паўдня Палесьсем, з захаду Польскай мяжою, з поўначы вялікаю адлегласьцю ад Менску, зьяўляецца ў сучасны момант амаль замкнёным раёнам у рынкавых адносінах, адзіным, самым галоўным, рынкам якога будзе Слуцак. Пры чым, сам па сабе Слуцак зьяўляецца мізэрным спажывецкім асяродкам, дзякуючы чаму грузазварот чыгуначнае станцыі Слуцак павінен добра характарызаваць рынкавасьць гэта раёну,асабліва яе дынаміку. Пачацьвертае, у гэтым раёне знаходзіцца гняздо дынамічкі, якую разам з грузазваротам станцыі Слуцак можна выкарыстаць дзеля характарыстыкі дынамікі сельскае гаспадаркі раёну на працягу апошніх 5—6 год.

Па глебам і складу зямельных кавалкаў Случчыну можна падзяліць на дзьве часткі, якія моцна розьняцца паміж сабою. Гэта павінна было выклікаць рознасьць і ва ўсёй будове сельскае гаспадаркі гэтых частак, значыцца, і ў характары сьвінагадоўлі.

Мапаграма № 1.

Схэматычн. глебавая мапа Случчыны.




Характарыстыка глебаў Случчыны (мапаграма № 1) зроблена па дадзеных прафэсара Касаткіна (праф. В. Г. Касаткін «О почвах Белоруссии» Минск, 1923 г.). Глебы, якія распаложаны ў частцы раёну на захад ад Слуцку, на поўдзень ад лініі Капыль—Грозаў і на поўдзень ад лініі Вызна—Пагост, праф. Касаткін характарызуе наступным чынам: «У глебавым пакрове пераважаюць сярэднія і моцна абпадзоленыя сугліністыя глебы, на лёсавідным вуглінку, які падсьці-

лаецца валунавым суглінкам, пяском і храшчавата-вулунаваю супясьсю. Нярэдка заўважаецца глыбокае абпадзольваньне ў глебах на кантакце лёсавіднага суглінку з пародай, якая яго падсьцілае. Па лагчынах рэчак і, часамі, у іншых зьніжваньнях рэльефу прыкмячаюцца тарпяніста-балотавыя і напоўбалотавыя глебы» (стар. 13). Гэта, наогул—глеба з вялікай урадлівасьцю. Пераважна гэты раён дае на рынак значныя лішкі збожжа. У гэтым раёне і лёкалізавалася, галоў-

Мапаграма №2.

Колькасьць прададзеных сьвіней.



ным чынам, рынкавая сьвінагадоўля Случчыны. (Гл. мапаграму № 2). Гэты глебавы масыў абкружан нешырокаю паласою глебаў, якія зьяўляюцца пераходнымі ад вышэй характарызаваных да глебаў тыповага Палесься. «Слаба хвалісты характар рэльефу і пераважаньне супяшчаных і лёгка-суглiністых глебаў, на чырвона-бурым валунавым суглінку, набліжае гэты раён да раней апісаных раёнаў распаўсюджаньня валунавага суглінку. Адылі ад апошніх гэты раён розьніцца значным распаўсюджаньнем слаба-абпадзоленых супяшчаных і лёгка-суглiністых глебаў, якія падсьцілаюцца аднастойным тонкім безвалунавым пяском» (стар. 15). Далей на поўдзень, а нешырокай паласою таксама з усходу, ідуць тыпова палескія глебы,—«раўнінныя раёны, якія характарызуюцца пераважаньнем схавана-падзолістых пяшчаных глебаў і вялікімі плошчамі тарпяністых балотаў» (стар. 15). Характар глебаў у значнай меры вызначае і склад зямное паверхні. Частка Случчыны, з урадлівымі суглiністымі глебамі, зьяўляецца найбольш узворанай і малалеснаю. Гэтая частка і найбольш густа заселена. Наадварот, раёны Палесься і пераходныя к Палесьсю, з малаўрадлівымі пяшчанымі, супяшчанымі і балоцістымі глебамі, зьяўля-

юцца найменш узворанымі, найбольш багатымі лесам і рэдка засялёнымі [1]). Надзвычайная неакрэсьленасьць разуменьняў выгану, нягожае зямлі і, у значнай ступені, розных катэгорыяў сенажаці, робяць ўмоўнымі статыстычныя дадзеныя, якія характарызуюць гэты падзел. Усё-ж трэба лічыць, што паўднёвая частка Случчыны, г. зн., Палесьсе і раёны пераходныя да Палесься, маюць куды больш сенажаці, чымся паўночная частка.

Падобны характар прыродных умоў павінен быў пэўным чынам рабіць уплыў на ўзровень інтэнсіўнасьці, а праз гэтае і на ўвесь арганізацыйна-вытворчы лад гаспадаркі, а, значыцца, і на характар рынкавае сьвінагадоўлі розных частак Случчыны.

Мапаграма № 2 паказвае раён лёкалізацыі рынкавае сьвінагадоўлі ў Случчыне. Мапаграма выяўляе колькасьць сьвіней, купленых у кожнай вёсцы Слуцкай канторай Белмясгандлю і каапэрацыяй Слуцкае вакругі за 1926-27 г. г.

З тае прычыны, што роля прыватніка ў загатоўках сьвіней у гэтым годзе была нязначнай, як будзе паказана далей, а замкнёнасьць раёну амаль цалкам выключала магчымасьць загатовак арганізацыямі іншых месцаў, трэба меркаваць, што гэтыя дадзеныя ахопліваюць больш як 90 проц. сьвіней прададзеных гаспадаркамі на забой. Дадзеныя былі атрыманы шляхам выбаркі з рахункаў, у якіх звычайна адзначаецца адрас прадаўцы, вага прададзенае штукі і цана. Каштоўнасьць гэтых дадзеных, апрача таго, што іх можна падлічыць па самых дробных адміністрацыйных адзінках (вёска, . сельсавет), заключаецца яшчэ і ў тым, што яны проста паказваюць памеры разьвіцьця рынкавае сьвінагадоўлі ў паасобных дробных раёнах. На колькі-ж няправдзівы малюнак часамі могуць даць некаторыя пабочныя паказальнікі ступені разьвіцьця сьвінагадоўлі, як, напрыклад,— процант сьвіней да агульнае лічбы быдла,—добрай ілюстрацыяй можа служыць мапаграма № 15 у памянёнай ужо працы Ярашэвіча, дзе Барысаўскі павет сказаўся самым сьвінагадоўчым, а Слуцкі павет папаў у раён, дзе сьвінагадоўля разьвіта менш за ўсё. Ня кажучы ўжо аб тым, што дакладнага падліку жывёлы на Беларусі пасьля 1917 г. не рабілася (адміністрац. перапіс. 1925 году і харчналагавыя дадзеныя наўрад ці могуць быць прызнаны колькі-небудзь надзейным матар'ялам у сэнсе вычарпальнай дакладнасьці падліку). Апрача таго, ў гэтым падліку найбольш дэфэктным трэба лічыць падлік дробнае жывёлы, як сьвіньні.

Мапаграма паказвае, як і трэба было чакаць, што рынкавая сьвінагадоўля лёкалізавалася, галоўным чынам, у цэнтральнай частцы Случчыны, г. зн. у частцы з самымі ўрадлівымі глебамі (гл. мапу № 1), самай узворанай. Мяжа пяшчаных і балоцістых Палескіх глебаў, расположаных на паўдзень і ўсход ад памянёнага масыву сугліністых глебаў і зьяўляецца па існасьці мяжою разьвіцьця рынкавае сьвінагадоўлі.

У межах-жа гэтага асноўнага рынкава-сьвінагадоўчага раёну, абумоўленага ў сваім прасторавым пашырэньні прыроднымі ўмовамі, выразна выдзяляецца павялічэньне ліку прададзеных сьвіней, па меры набліжэньня да Слуцку—галоўнейшага рынку раёну. Уплыў рынку тутака відавочны, хаця мэханізм гэтага ўплыву зьяўляецца далёка не відавочным. Паколькі сьвінагадоўля базіруецца на ўласных харчох, пастолькі прыцягнальная сіла рынку збыту прадуктаў будзе

---

[1]) Гл. мапагр. №№ 3, 6, 8 у працы Н. К. Ярашэвіча „С. Х. районы Минской губ. и БССР Минск, 1923 г.

нязначнаю, дзеля таго, што ўзрастаньню цэнаў на сьвіньні, дзякуючы зьмяншэньню кошту дастаўкі, па меры набліжэньня да рынку ва ўмовах гужавога транспарту амаль у роўнай меры працістаіць узрастаньне цэнаў на харчовыя прадукты, як збожжа і бульба. Становішча грунтоўным чынам зьмяняецца, калі сьвінагадоўля базіруецца на купленых харчох. Тады спрыяльнае становішча па меры набліжэньня да рынку, дзякуючы зьмяншэньню выпадкаў па рэалізацыі сьвіней, узмацняецца карысьцю, зьвязанаю з купляй харчоў. Гэты момант куплі харчоў, магчыма, і вырашаў справу, дзякуючы чаму так моцна адбіўся ўплыў нават такога нязначнага рынку, як Слуцк. Па меры набліжэньня да рынку, павялічвалася магчымасьць купляць высеўкі. Гаспадары бліжэйшыя ад Слуцку шырока выкарыстоўвалі гэтыя магчымасьці. Вельмі часта свой авёс прадаецца заместа таго, каб скармліваць, а на корм купляюцца высеўкі, цана якіх у паўтара разы меньшая ад цаны аўса. Магчымасьць купляць высеўкі пашырае харчовы базіс рынкавае сьвінагадоўлі, значыцца, павялічвае магчымасьць пашырэньня сьвінагадоўлі ў гаспадарках, у якіх памеры яе абмяжоўваліся запасамі ўласнага збожжа. Апрача таго, па меры набліжэньня да рынку ствараецца ўсё большая магчымасьць разьвіцьця рынкавае сьвінагадоўлі ў гаспадарках, якія ня маюць уласных лішкаў збожжа. Але дзякуючы гэтым абставінам, па меры набліжэньня да рынку, ня толькі растуць памеры рынкавае сьвінагадоўлі, але мяняецца і яго характар. Усё больш і больш грунтуючыся на куплёных харчох, сьвінагадоўля павінна рабіцца ўсё меньш і меньш зьвязанаю з уласным сельска-гаспадарчым прадпрыемствам. Характэрна, што самы Слуцак дае на рынак значную колькасьць сьвіней,—прыблізна каля 300 шт. у год. У Слуцку ёсьць шэраг прадпрыёмстваў, якія цалкам на куплёных харчох выкармліваюць штогодна да 20 шт. сьвіней на рынак. Далей, пры аналізе бюджэтавых дадзеных, мы ўбачым, што, чым бліжэй ад Слуцку знаходзяцца гаспадаркі, тым больш яны купляюць высевак. (Гл. стар. 46).

Паколькі-ж сьвінагадоўля становіцца не дапаможнаю, пабочнаю галіною, якая выкарыстоўвае ўсялякія адкідкі ў гаспадарцы, а ўсё больш і больш базіруецца на куплёных харчох, пастолькі гаспадар павінен рабіцца і робіцца добрым калькулятарам, які пільна ўлічвае прыёмы рацыяналізацыі вытворчасьці. Гэта перш за ўсё павінна выявіцца ў падзяленьні вытворчасьці, калі адна гаспадарка мае завадзкога кныра, другая—гадуе парасят, а трэцяя—займаецца выкармліваньнем. Пад Слуцкам, і ў самым Слуцку, ёсьць ужо шмат гаспадарак, якія спэцыяльна займаюцца гадоўляй завадзкіх парасят. Далей, усё больш і больш звара́чаюць увагу на пароду і характар выкармліваньня. Мясцовыя працаўнікі каапэрацыі, агэнты па загатоўках сьвіней адзначалі, што найбольшая колькасьць завадзкіх сьвіней сустракаецца блізка ад Слуцку і наогул у раёне найбольшага пашырэньня сьвінагадоўлі, як цяпер, гэтак і перад вайною. Наадварот, раёны, распаложаныя далёка ад Слуцку, раёны, дзе найменш пашырана сьвінагадоўля,—маладыя раёны,—якія толькі што ўцягваюцца ў гадоўлю сьвіней, асабліва Палесьсе, даюць больш за ўсё сьвіней простай мясцовай пароды, па тутэйшай назьве «яршоў».

Але найбольшага посьпеху дасягнуць можна, галоўным чынам, шляхам рэорганізацыі характару выкармліваньня. На ніжэйшай стадыі разьвіцьця, на выкармліваньне ідуць у большасьці старыя сьвіньні, выкармліваньне носіць пераважна сальны характар. Але чым вышэй ступень разьвіцьця, тым у маладзейшым узросьце сьвіньні ідуць на выкармліваньне, бо аплата адзінкі харчоў пры такім выкарм-

ліваньні, вышэй. Выкармліваньне набывае ўсё болей і болей характар напоўмясавага і мясавага выкармліваньня. Мяняецца самы тып рынкавае сьвінагадоўлі.

Адным з паказальнікаў гэтае зьмены часткова можа зьяўляецца забойная вага сьвіньні.

Наступная табліца колькасьці прададзеных сьвіней і разьмеркаваньне іх па вялічыні жывое вагі сьцьвярджае таксама да некаторай ступені тое, што было сказана аб разнастайным характары сьвінагадоўлі ў паасобных раёнах Случчыны:

| РАЁНЫ | Колькасьць сьвіней | Колькасьць сьвіней у % % да ўсяе лічбы | | | | | | | | | УСЯГО |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Да 80 к. | 80—100 | 100—120 | 120—140 | 140—160 | 160—180 | 180—200 | 200—220 | Бол. 220 | |
| Слуцкі . . . . . . | 3065 | 2,4 | 13,4 | 26,8 | 24,1 | 16,9 | 8,5 | 4,5 | 1,4 | 1,8 | 100 |
| Грэскі . . . . . . | 969 | 1,8 | 13,3 | 23,2 | 28,4 | 17,5 | 9,3 | 3,7 | 2,0 | 0,8 | 100 |
| Капыльскі . . . . . | 377 | 1,8 | 11,1 | 20,7 | 26,2 | 17,8 | 11,8 | 5,1 | 2,8 | 2,7 | 100 |
| Чырвона-Слабодзкі . . | 601 | 1,7 | 11,6 | 23,8 | 23,3 | 17,1 | 13,0 | 4,7 | 3,5 | 2,3 | 100 |
| Старобінскі . . . . . | 252 | 2,4 | 19,4 | 30,6 | 23,8 | 13,9 | 6,0 | 2,4 | 1,2 | 0,3 | 100 |
| Усяго . . . . | 5264 | 2,1 | 13,1 | 25,9 | 25,7 | 16,1 | 9,2 | 4,2 | 2,0 | 1,7 | 100 |

Найбольшы лік малых сьвіней у Палескай частцы Случчыны—у Старобінскім раёне—напэўна трэба аднесьці на кошт дрэннай якасьці мясцовай пароды сьвіней у дадзеным раёне. Большы-жа процант малых сьвіней каля Слуцку, у параўнаньні з іншымі раёнамі разьвітае сьвінагадоўлі, хутчэй за ўсё тлумачыцца больш маладым узростам забойных сьвіней. Да некаторай ступені гэта сьцьвярджаюць дадзеныя бюджэту. Агэнты па загатоўках сьвіней таксама адзначалі, што сьвіньні, якія прадаюцца каля Слуцку, лягчэйшыя і тлумачылі гэта тым, што іх выкармліваюць у большасьці на высеўках. Наадварот, куды большыя сьвіньні прыбываюць з-пад Капыля ды Грозава, дзе на корм ідзе шмат жытняе мукі.

# II. Характарыстыка організацыйна-вытворчае структуры рынкава сьвінагадоўчых гаспадарак Случчыны.

## 1) Кіравальныя меркаваньні аб спосабу распрацоўкі і аналізу бюджэтавых зьвестак.

З гэтае кароткае характарыстыкі Случчыны можна ўжо бачыць, што цікавей за ўсё было-б прасачыць зьмену організацыі гаспадаркі па двух профілях. Па-першае, у напрамку з поўдню на поўнач, напрыклад, ад Старобіна да Капыля, мажліва было-б прасачыць узмацненьне інтэнсіўнасьці пад уплывам зьмены прыродных умоў. Па-другое, у напрамку з захаду на ўсход, напрыклад ад Семяжава да Слуцку і крыху далей, мажліва было-б прасачыць зьмены ў організацыі гаспадаркі, а значыцца і ў характары сьвінагадоўлі ў залежнасьці ад адлегласьці да мясцовага рынку. Ні сродкі, ні час, не дазвалялі мне зрабіць падобны мікроаналіз. Дадзеную працу хутчэй трэба разглядаць як некаторую папярэднюю гіпотэзу, неабходную дзеля далейшых дасьледваньняў умоў разьвіцьця рынкавае сьвінагадоўлі на Беларусі. З гэтым зьвязана і тая акалічнасьць, што я імкнуўся абмежаваць аналіз мінімальнаю колькасьцю матар'ялу. З самага пачатку меркавалася ўзяць толькі 10—15 апісаньняў бюджэту сялянскіх гаспадарак. Колькасьць-жа ў сваю чаргу вызначала і «якасьць» бюджэтаў, г. зн. характар абсьледваных гаспадарак. У межах падобнае колькасьці матар'ялу больш чым негрунтоўна было-б думаць аб вывучэньні паасобных групаў гаспадарак. Неабходна было абмежавацца аналізам, па-першае, організацыйна-вытворчай структуры гаспадаркі, па-другое, толькі аднае групы гаспадарак, найбольш цікавай з пункту гледжаньня задачы абсьледваньня.

Бюджэты павінны былі, перш за ўсё, служыць дапаможным матар'ялам пры дасьледваньні ўплыву рынкавых коньюнктур на дынаміку рынкавае сьвінагадоўлі, як цяпер, гэтак і перад вайною. (Удзельная вага сьвінагадоўлі, сувязі яе з іншымі галінамі гаспадаркі, характар кармленьня). З гэтага пункту гледжаньня найбольшую цікавасьць для абсьледваньня прадстаўлялі гаспадаркі з выразна выяўленым разьвіцьцём галіны рынкавае сьвінагадоўлі. Дзеля гэтага гаспадаркі былі ўзяты; па-першае, у тым раёне Случчыны, дзе галоўным чынам лёкалізавана рынкавая сьвінагадоўля; па-другое, па гэтай адзнацы вызначаўся і адбор гаспадарак у селішчах. У выніку гэтага абсьледваныя гаспадаркі мала дыфэрэнтаваны, яны набліжаюцца да сярэдніх гаспадарак—асноўнай групы, удзельная вага якое вырашае вытворчасьць прадуктаў сьвінагадоўлі ў дадзеным раёне.

1) Самая галоўная знадворная рознасьць гэтых гаспадарак заключаецца ў тым, што яны ўзяты ў трох пунктах раёну—у 5—8 вёрстах ад Слуцку (Казловіцкі с/с—гаспадаркі № 1, 2, 3, 4, 5), у 20-ці вёрстах (Грозаўскі с. с.—№ 6, 7, 8, 9,) і ў 35-ці вёр. (Семяжаўскі с. с.—№ 10, 11).

Далей, тры з абсьледаваных гаспадарак (№ 1, 2, 3) маюць хутарскую форму землякарыстаньня, іншыя падворна-цераспалосную.

З характарам запатрабаваньняў, якія прад'яўляюцца да бюджэту, і колькасьцю бюджэтаў у значнай меры зьвязан і спосаб іхняе распрацоўкі. Звычайна, найлепшаю лічыцца распрацоўка па спосабу падвойнага рахаўніцтва. Пры гэтым да таго моцна рэклямуецца складаньне галоўнае кнігі, што нібы-та ў гэтым складаньні і заключаецца ўвесь аналіз арганізацыі гаспадаркі. Складаючы асобныя рахункі на паасобныя галіны гаспадаркі, а часта на паасобныя культуры і віды жывёлы, прадстаўнікі бухгальтэрскага аналізу гаспадаркі па мэтаду падвойнага рахаўніцтва, сьвядома або несьвядома, маўкліва або шчыра прызнаючыся, але ўсё-ж выходзяць з перадумовы мажлівасьці падзяленьня гаспадаркі і вылічэньня вытворчых выдаткаў і рэнтабельнасьці паасобных галінаў, культур, бяз сувязі з усяёю гаспадаркай. Хочуць ці ня хочуць прадстаўнікі распрацоўкі бюджэтаў па мэтаду падвойнага рахаўніцтва, але фактычна сальдо паасобных рахункаў галоўнае кнігі яны навязваюць дасьледчыку вывады, якія заўсёды ўмоўныя. Умоўныя яны, па-першае, дзякуючы таму, што гаспадарка прадстаўляе арганічнае адзінства. Значыцца, гутарка можа ісьці толькі аб рэнтабельнасьці гаспадаркі ў цэлым. Палажэньне, якое асабліва моцна падкрэсьлівае Эрэбо. Па-другое, пры вырашэньні пытаньня ў арганізацыі гаспадаркі важны ня столькі сярэднія вытворчыя выдаткі, колькі гранічныя. Рахаўніцтва-ж дае і можа даць толькі сярэднія. Нарэшце, для прадпрыёмцы, у тым ліку і для сельскага гаспадара, па сутнасьці практычна важнаю зьяўляецца толькі папярэдняя калькуляцыя, а не наступная. Апошняя-ж важна ўсяго пастолькі—паколькі яна зьяўляецца дапаможным сродкам для першай, але ажыцьцявіць магчымасьць падобнага выкарыстоўваньня ва ўмовах коньюнктур, якія заўсёды мяняюцца, надзвычайна цяжка. Трэба шукаць спосабы правільнага вылічэньня папярэдніх калькуляцый. Я ня спыняюся на нялічнай колькасьці ўмоўнасьцяй і цяжкасьцяй мэтадалёгічнага і тэхнічнага характару, пры вылічэньні вытворчых выдаткаў і рэнтабельнасьці паасобных галін с. г., зьвязаных з ацэнкаю ня рынкавых прадуктаў, як гной, адкідкі, паша і інш., з разьнясеньнем агульных выдаткаў, ацэнкай зьвязаных прадуктаў (па сутнасьці ўсе прадукты с-г. прадпрыемства зьяўляюцца зьвязанымі) [1]).

Апрача таго, той, хто зьбіраў зьвесткі аб бюджэце сялянскае гаспадаркі, ведае няпэўную правільнасьць шмат якіх дадзеных бюджэту. Асабліва дэфэктным звычайна зьяўляецца падлік разьмеркаваньня працы і цягавае сілы паміж паасобнымі культурамі і відамі жывёлаў, а таксама харчоў апошнім. Тады як гэтыя выдаткі складаюць асноўныя элемэнты вытворчых выдаткаў.

У лепшым выпадку вытворчыя выдаткі і сабекошт паасобных прадуктаў с.-г. могуць мець параўнальнае значэньне, пры супаставе гаспадарак розных групаў, або дапасаваных да розных раёнаў. Але тады неабходна, каб бюджэтны матар'ял быў масавым, чаго фактычна няма і наўрад ці можна ажыцьцявіць. Вельмі часта групы прадстаўлены некалькімі гаспадаркамі, і ўвесь далейшы «аналіз» гэтых груп зводзіцца да пераказваньня сваімі словамі таблічак, якія наогул паказваюць, што ў буйных гаспадарках болей, чымся ў дробных, зямлі,

[1]) Падрабязьней аб гэтым гл. цікавы артыкул von Dr. Hans Zörner: Untersuchungen uber die Bedeutung von Kalkulationen und Produktions rechnungen in der Landwirtschaft Berichte über Landwirtschaft. 1927. Band VI. Heft 4.

жывёлы, інвэнтару, агульнае прадукцыі ды інш. самі сабою відавочныя палажэньні [1]).

Сапраўдныя-ж вывады і практычныя прапановы ні ў якой меры ня зьвязаны з лічбамі, якія прыводзяцца, не вынікаюць з апошніх,— хаця могуць і не супярэчыць ім,— а грунтуюцца на зусім іншых меркаваньнях, так што падрабязьнейшыя, «дакладнейшыя» дадзеныя галоўнае кнігі застаюцца ляжачым цяжарам, непатрэбным баластам.

Я ні ў якай меры ня хочу адмаўляць сказаным бязумоўнае неабходнасьці аналізу арганізацыйна-вытворчае структуры с. г. прадпрыёмстваў рознастайных соцыяльна-экономічных груповак сялянства. Мне толькі здаецца, што параўнаньне гаспадарак рознастайных груп па цэламу шэрагу адзнакаў яшчэ ні ў якой меры не дае аналізу арганізацыі гаспадаркі гэтых груп. Правільней разглядаць параўнаньне, як наступны этап у дасьледаваньні, перад якім павінен быць зроблен аналіз арганізацыйна-вытворчае структуры ў межах кожнае групы. Аналіз-жа арганізацыі гаспадаркі ў межах аднае групы не дапускае неабходнасьці адначасовага аналізаваньня гаспадаркі ўсіх групаў, але, з другога боку, гэта дапускае пераважна дэдукцыйна-конструкцыйны мэтад аналізу.

Пры распрацоўцы і аналізе бюджэтных дадзеных абсьледаваных гаспадарак я грунтаваўся на наступных кіравальных меркаваньнях. Распрацоўка бюджэту павінна даць у сыстэматычным выглядзе асноўныя зьвесткі аб элемэнтах, працэсах і выніках гаспадаркі. Дзеля гэтага, пасьля пільнае праверкі і балансу, зьвесткі з бюджэтаў былі вынесены ў табліцы, якія па сутнасьці прадстаўляюць разгорнуты бюджэт, але толькі па магчымасьці вызвалены ад непатрэбных дэталяў, якімі можна карыстацца пры аналізе арганізацыі гаспадарак непасрэдна з бюджэтавых блянкаў.

Ацэнка прадуктаў і паслугаў была зроблена па мясцовых сярэднягадовых цэнах (галоўным чынам па так званых сьвіраных цэнах ЦСУ, а часткова па цэнах, паказаных гаспадаркамі, у якіх браліся бюджэты). Пакольки я адмовіўся ад вылічэньня рэнтабельнасьці паасобных галінаў гаспадаркі, пастолькі заўсёдная ўмоўнасьць рынкавых цэнаў такіх прадуктаў, як гною, мякіны, саломы, нават малака і бульбы, ня мае істотнага значэньня. Важна было адноснае адзінства ўсіх цэнаў. З гэтае прычыны агульная прадукцыя малака і спажываньне яго ў самой гаспадарцы былі ацэнены па памянёных цэнах ЦСУ (бязумоўна, вялікіх), хаця для некаторых гаспадарак былі рэальна заплочаныя цэны за малако, дадзенае ў арцель.

Мне здавалася больш мэтазгодным накіраваць больш увагі не на бухгальтэрскія тонкасьці, а на аналіз арганізацыі гаспадаркі па сутнасьці. Дзеля гэтага перш за ўсё неабходна зрабіць вычэрпальны падлік усіх акалічнасьцяй, з якімі зьвязана разьвіцьцё паасобнае галіны гаспадаркі, ў гэтым выпадку рынкавае сьвінагадоўлі. Якраз вось з гэтай прычыны для Эрэбо значэньне ладу страўнага каналу ў сьвіньні,—або тое, што авечка рухавая і мае тонкую морду, дзякуючы чаму дзеля разьвіцьця гэтых галінаў жывёлагадоўлі вырашальным зьяўляецца пэўны парадак здабываньня харчоў,—важна так-жа сама, як і ведаць глебу, склад зямное паверхні і суадносіны мясцовых цэнаў. Далей неабходна прыблізна ўзважваць значэньне кожнае з гэтых ака-

[1]) Аб падобных „вывадах" Эрэбо гіронічна заўважыў, што яны даюць новае пацьвярджэньне правільнасьці выслоўя Вільгельма Буша—„Des Wurmes Lange ist Verschieden".

лічнасьцяй. Нельга занадта пераацэньваць мажлівасьці лічбавога вымярэньня гаспадарчых зьяў.

Пры падобных калькуляцыях, зьвесткі аб паасобных гаспадарках маюць значэньне, з аднаго боку, як пасылкі для дэдукцыяў, а з другога боку, яны робяць лягчэйшымі гэтыя калькуляцыйныя разрахункі і ілюструюць іх у прыблізнай колькаснай форме. З прычыны складанасьці акалічнасьцяй, якія вызначаюць арганізацыйную форму с.-г. прадпрыёмстваў, нельга пры аналізе гаспадаркі выкоўваць доўгія ланцугі дэдукцыяў (выслоўе Маршалла), г. зн., выходзячы з нямногіх асноўных передумоў дэдукцыйна конструіраваць адносна найбольш рацыянальнае суадношаньне ўсіх частак гаспадаркі. Прыходзіцца выкоўваць карацейшыя ланцугі дэдукцыяў, для якіх пасылкі прызнаваць дадзенымі, тады як у рэчаіснасьці яны таксама зьяўляюцца залежнымі велічынямі. З гэтай прычыны пры падобных дэдукцыях важна грунтавацца на разьліках рэальнае, а не гіпатэтычнае гаспадаркі, бо іначай дэдукцыйна сконструктаваныя схэмы будучы формальна вернымі, могуць ня мець ніякага дачыненьня да рэальнае гаспадаркі. Грунтуючыся-ж на разьліках рэальнае гаспадаркі, мы тым самым выпраўляем недалічваньне ўсіх вызначальных акалічнасьцяй, якое мела-б месца пры дэдукацыі, выходзячы толькі з нямногіх, асноўных пасылак гіпатэтычнае гаспадаркі [1]).

Далей значэньне бюджэтаў заключаецца ў тым, каб, па-першае, выявіць тыповыя рысы арганізацыйна-вытворчае структуры асноўнае групы с.-г. прадпрыемстваў абсьледаванага раёну, і па-другое, каб паказаць абумоўленасьць дадзенае арганізацыі гаспадарак, а таксама напрамак магчымае зьмены гэтае арганізацыі.

Выяўленьне тыповых характарыстык с.-г. прадпрыемстваў заключаецца ў выяўленьні і характарыстыцы адзнакі, якая кладзецца ў аснову сыстэматыкі, або клясыфікацыі формаў с.-г. прадпрыемстваў [2]).

Перад дасьледчыкам с.-г. паўстае бясконцавая шматвобразнасьць арганізацыйных формаў с.-г. прадпрыёмстваў. Праўда, гэтая шматвобразнасьць не зьяўляецца бязладнаю, а мае пэўную законамернасьць, г. зн. аднастайнасьць суіснаваньня, або пасьлядоўнасьці. Пры клясыфікацыі, або сыстэматыцы формаў с.-г. прыдпрыёмстваў, асноў-

[1]) Часта ня ясна ўяўляюць значэньне таго, што тэорэтычныя схэмы Тюнена і Эрэбо зьяўляюцца, па-першае, абстрактна-дэдукцыйнымі конструкцыямі, а па-другое, што лічбавая вопратка, у якую ўвабраны гэтыя схэмы, мае дваісты характар,—з аднаго боку, як ілюстрацыйны матар'ял, а з другога—як дапаможны матар'ял пры конструкцыі гэтых схэмаў. Дзеля гэтага лічыць, што гэтыя схэмы нельга прыстасаваць да рэальнае гаспадарчае рэчаіснасьці, няправільна.

[2]) Аб лёгічных прыёмах усялякае клясыфікацыі, гл. Мілль „Система логики" 1897 г. кн. IV, главы VII і VIII: „Агульная задача клясыфікацыі можа быць устаноўлена гэтак: прымусіць думаць аб рэчах у такім парадку, які скарэй за ўсё дазволіў-бы нам успамінаць і як найляпей замацаваў-бы ў галаве іхнія законы". (Стар. 57).

„Больш за ўсё адпавядае мэтам навуковае клясыфікацыі, калі прадметы злучаюцца ў групы, адносна якіх можна выказаць найбольшы лік агульных прапаноў і пры гэтым прапаноў больш важных, чым якія можна пацьвярджаць адносна ўсіх іншых групаў, па якім можна было-б разьмеркаваць гэтыя прадметы. Такім чынам, трэба было-б клясыфікаваць прадметы, па магчымасьці, на падставе такіх уласьцівасьцяй, якія зьяўляюцца прычынамі шмат якіх іншых, або па меншай меры складаюць іхнія пэўныя адзнакі. З гэтых апошніх трэба выбіраць такія, якія былі-б самымі надзейнымі і найбольш непасрэднымі адзнакамі і ў той самы час самі прадстаўлялі-б сабою такія ўласьцівасьці, на якіх нам было-б карысьней за ўсё сконцэтраваць нашую ўвагу. Але, на жаль, уласьцівасьці, якія зьяўляюцца прычынамі галоўных асаблівых адзнакаў клясаў, вельмі рэдка маюць здольнасьць у той самы час служыць дзеля пазнаваньня клясы. І заместа прычын, нам у большасьці прыходзіцца выбіраць тыя або іншыя іхнія вынікі,—з тых, што больш за ўсё кідаюцца ў вочы,—такія вынікі, якія могуць служыць адзнакамі як іншых вынікаў, гэтак і самае прычыны". (572-73 стар.).

най характарызавальнай адзнакай зьяўляецца ступень інтэнсыўнасьці [1]). Разуменьнем інтэнсыўнасьці мы ахапляем найбольш агульнае і асноўнае суадносіаньне важнейшых элемэнтаў с.-г. прадпрыемстваў. «Групаваньне формаў прадпрыёмстваў па сыстэмах зьяўляецца, ўсякім разе, у агульным і цэлым, групаваньнем па ступенях інтэнсіўнасьці, таму што паасобныя галіны прадпрыёмства патрабуюць істотна розных накладаў капіталу і працы» [2]). Па-другое, паколькі існуюць транспартавыя выдаткі, пастолькі мясцовая цана с.-г. прадуктаў і сродкаў вытворчасьці будзе законамерна мяняцца па меры аддаленьня ад рынку, у выніку чаго, таксама законамерна будзе мяняцца магчымасьць рознага ўзроўню інтэнсіўнасьці с.-г. прадпрыёмстваў. У аднолькавых-жа рынкавых умовах аналёгічная тэндэнцыя будзе па меры пераходу ад лепшых глебаў да горшых. Тэндэнцыя да росту ўзроўню інтэнсыўнасьці с.-г. прадпрыёмстваў існуе і ў часе. «Калі разглядаць толькі агульную лінію разьвіцьця народнае гаспадаркі, адхіляючыся ад ваганьняў, дык можна вызначыць, што чырвонай ніткай гэтага разьвіцьця зьяўляецца агульны рост разыходжаньня (der Spannung) паміж цэнамі с.-г. прадуктаў,—з аднаго боку, і цэнамі пакупных сродкаў вытворчасьці—з другога. З разьвіцьцём народнае гаспадаркі, цэны пакупных сродкаў вытворчасьці сельскае гаспадаркі ў адносінах да цэнаў с.-г. прадуктаў рэгулярна танеюць. Разам з гэтым павіннаісьці агульнае ўзвышэньне інтэнсыўнасьці сельскае гаспадаркі» [3]).

Значыцца, клясыфікуючы формы с.-г. прадпрыемстваў па ступені інтэнсыўнасьці, мы можам разьмеркаваць іх у рад, які законамерна мяняецца. Пры гэтым гістарычны рад да пэўнай ступені можа паўтараць законамернасьць раду ў прасторы [4]).

Такім чынам, адзнака інтэнсыўнасьці зьяўляецца гэнэтычнаю адзнакай. У гэтым заключаецца практычнае значэньне клясыфікацыі формаў с.-г. прадпрыемстваў па ўзроўню інтэнсыўнасьці.

Паколькі-ж адзнакаю, якая характарызуе сыстэмы с.-г. прадпрыемстваў, зьяўляецца ступень інтэнсыўнасьці, пастолькі аналіз арганізацыі пэўных эмпірычных дадзеных с.-г. прадпрыемстваў, з мэтаю выяўленьня тыповых характарыстык дадзенае злучнасьці гаспадарак, у асноўным зводзіцца да аналізу іхняе інтэнсыўнасьці. Інтэнсыўнасьць зьяўляецца нібы фокусам, на які арыентуецца ўвесь аналіз арганізацыйна-вытворчае структуры гаспадаркі. Але сама па сабе адзнака інтэнсыўнасьці, як абагульняючае колькаснае разуменьне (згодна вызначэньню Людагоўскага—«Колькасная ступень, у якой трацiцца на дадзены абшар зямлі праца і капітал») вельмі мала дае нашаму ўяўленьню аб гаспадарцы. З гэтай прычыны аналіз арганізацыйна-вытворчае структуры гаспадаркі мяркуе характарыстыку нейкіх іншых адзнакаў гаспадаркі, якія выяўляюць форму праяўленьня інтэн-

[1]) Я падкрэсьліваю, што інтэнсіўнасьць зьяўляецца адзнакаю, якая характарызуе арганізацыйна-вытворчы тып с.-г. прадпрыёмстваў, а ня фактарам, як гэта сьцьвярджае праф. Н. П. Макараў (гл. бюлетэнь Навукова-Дасьледчага Інстытуту С.-Г. Эканоміі № 1—2. Масква 1927 г.) „Не выпадкова дзеля гэтага ў шмат якіх дасьледчыкаў, і ў асаблівасьці ў А. Н. Чалінцава, ва ўсіх яго працах, у Эрэбо і Брынкмана, у іхняй схэме фактараў, прагрэсу с.-г. інтэсіўнасьці адводзіцца такое вялікае месца, як *фактару прагрэсу* (падкрэсьлена мною. С. Ж.), паколькі інтэнсіфікацыя забясьпечвае грамадзе павялічэньне масы с.-г. прадуктаў“). (Стар. 177).

Апрача таго, што гэты погляд няверны па сутнасьці, наўрад ці можна яго прыпісваць Эрэбо і Брынкману.

[2]) Брынкман. „Экон. основы орг. с.-х. пред.“ стар. 9.

[3]) Aereboe. Allgemeine landwirtschaftliche Betriebslehre. 1923, стар. 258.

[4]) Гл. там-жа, стар. 255 і наст.

сіўнасьці. Гэтымі вузлавымі момантамі, разам з Людагоўскім, трэба прызнаць: 1) спосаб забясьпечаньня ўрадлівасьці глебы, 2) становішча жывёлагадоўлі і 3) разьмеркаваньне земельнага абшару на гадоўлю кармовых расьлінаў і прадажных. Канкрэтней кажучы, гэта будзе, галоўным чынам, арганізацыя ўгнаеньня, арганізацыя харчаздабываньня і арганізацыя перапрацоўкі, г. зн. асноўныя моманты, якія характарызуюць працэс гаспадараньня; дзякуючы гэтаму, пасьля інтэнсіўнасьці, яны зьяўляюцца найбольш важнымі. Але аналіз арганізацыйна-вытворчае структуры гаспадаркі быў-бы ня поўным, калі-б ён абмяжоўваўся толькі аналізам адзнакаў, якія характарызуюць працэс гаспадараньня. Абавязковы аналіз і вынікаў гаспадараньня.

Аднак, яшчэ мала выявіць толькі тыповыя характарыстыкі дадзенае злучнасьці с.-г. прадпрыемстваў. Неабходна таксама паказаць, у якой меры іхні арганізацыйна-вытворчы лад зьяўляецца прыстасаваным да дадзеных умоў. Або, сьцісьлей кажучы, неабходна высьветліць найбольш праўдападобныя магчымасьці зьмены гэтае арганізацыі гаспадаркі, пры тых абставінах, якія складаюцца.

Адказаць на гэтае пытаньне,—у якой меры арганізацыйна вытворчы лад дадзенае злучнасьці гаспадарак зьяўляецца адносна рацыянальным,—можна двума спосабамі (якія я называю, карыстаючыся тэрмінамі праф. Н. П. Макарава, ужытыя ім на адным з сэмінарскіх заняткаў Навукова-Дасьледч. Ін-ту С.-Г. Эканоміі): 1) Эмпірыка-параўнальным і 2) дэдукцыйна-канструкцыйным.

Першы спосаб у агульным выглядзе прадстаўляе наступнае: раўнуюцца паміж сабою розныя групы гаспадарак; арганізацыйна-вытворчы лад лепшых, г. зн. найбольш прыбытковых гаспадарак, зьяўляецца нібы бліжэйшым ідэалам, на які орыентуюцца іншыя прадпрыёмствы. У дадзеным выпадку розьніца ў пасьпяховасьці паасобных груп гаспадаркі прыпісваецца тым арганізацыйна-вытворчым момантам, якімі розьняцца гэтыя групы гаспадарак.

Перавагі гэтага спосабу: па-першае—у эмпірычнасьці, прынамсі, падліку шматгадовае практыкі саміх гаспадароў; па-другое—у параўнальнай лёгкасьці гэтага спосабу—аналізу, які ў гэтым выпадку зводзіцца амаль выключна да параўнальнага пісаньня. Але, з другога боку, дыфэрэнцыяльнае прыпісваньне таму або іншаму арганізацыйна-вытворчаму моманту розьніцы ў прыбытковасьці паасобных груп гаспадарак мяркуе роўнасьць іншых умоў. Немагчымасьць ажыцьцяўленьня гэтае перадумовы відавочна нават пры багатым статыстычным матар'яле. З гэтай прычыны мы можам прыпісваць розьніцу ў прыбытковасьці паасобных груп гаспадарак толькі цэламу комплексу арганізацыйна-вытворчых момантаў, значыцца, аналіз па сутнасьці застаецца грубым і прыблізным. Дзякуючы складанай узаемасувязі паасобных частак с.-г. прадпрыемства і немажлівасьці эмпірычнага ізаляваньня іх, вырашэньне праблем арганізацыі с.-г. вядзецца пераважна дэдукцыйна-канструкцыйным мэтадам. Але гэты шлях не зьяўляецца лёгкім. Давесьці адносную рацыянальнасьць дадзенае формы с.-г. прадпрыёмства, у параўнаньні з іншымі, дэдукцыйна-канструкцыйным мэтадам, у асноўным, зводзіцца да таго, каб давесьці, што дадзены варыянт арганізацыйнага пляну найбольш адпавядзе ўмовам месца і часу, у параўнаньні з усімі іншымі магчымымі варыянтамі. Да гэтага варыянту арганізацыйнага пляну, які адносна больш за ўсё адпавядае дадзеным умовам месца і часу, мы ідзем шляхам выключэньня іншых магчымых варыянтаў. З гэтага, аднак, ні ў якім разе не вынікае неабходнасьць конструіраваньня нялічанае колькасьці варыянтаў арганізацыйных плянаў, каб пасьля шляхам па-

раўнаньня выключыць найменш адпаведныя. Можна і трэба выкарыстоўваць дасьведчаньне практыкі. Організатар новага сельска-гаспадарчага прадпрыёмства орыентуе, у асноўным, свой організацыйны плян на організацыю сельска-гасп. прадпрыёмстваў, якія ўжо існуюць у гэтым месцы, праэктуючы нанава толькі зьмены паасобных частак гаспадаркі. Такім чынам, бязумоўна выключаюцца ўсе найбольш неадпаведныя формы, дзякуючы чаму лік варыянтаў, з якіх неабходна выбраць адносна найбольш рацыянальны, становіцца параўнальна невялікім. У аснове ўсіх гэтых разважаньняў і дзеяньняў хаваецца перадумова, што ў масе гаспадары вышукваюць організацыйна-вытворчы лад, які прыблізна адпавядае дадзеным умовам. Задача зводзіцца нібы да даарганізоўваньня, да дапрацаваньня дэталяў. Але дзякуючы гэтаму задача ўскладняецца таму, што, чым больш дэталяў мы ўключаем у кола свайго аналізу, тым большым становіцца лік магчымых варыянтаў організацыі гаспадаркі, нават у межах аднаго і таго-ж самага асноўнага тыпу.

Становішча робіцца прасьцейшым, дзякуючы наступнай акалічнасьці. Усе часткі і элемэнты гаспадаркі зьвязаны паміж сабою функцыянальна, але ўсё-ж ёсьць поўная адносная супадлегласьць гэтых частак і элемэнтаў. Перш за ўсё—з вельмі вялікімі ўмоўнасьцямі і абмоўкамі можна прызнаць, што для сялянскай гаспадаркі, асабліва ў сучасных савецкіх умовах, запасы працы гаспадаркі ў значнай меры ёсьць велічыня дадзеная, якая да некаторай ступені і вызначае граніцу працаінтэнсіўнасьці, а гэтым самым укосны і агульны ўзровень інтэнсыўнасьці с.-г. прадпрыёмства. Эрэбо таксама разглядае «працоўныя сілы, якія знаходзяцца ў распараджэньні, як выточны пункт організацыі прадпрыёмства». Пасьля, памеры і склад зямельных кавалкаў, асабліва так званых безумоўных кавалкаў, ёсьць у пэўнай ступені для гаспадаркі велічыня дадзеная, таксама як і іншыя прыродныя ўмовы. Склад-жа зямное паверхні ўплывае на характар харчаздабываньня і ўгнаеньня, а значыцца на лад як ральніцтва, гэтак і жывёлагадоўлі. Гэтая адносная супадлегласьць частак гаспадаркі дае некаторую падставу аналізаваць кожную з іх паасобку, таму што мы маем, прынамсі, пункт апоры. Значыцца, пачынаючы з прыродных умоў і складу зямное паверхні, а таксама прыймаючы запас працы, як велічыню дадзеную, мы можам крок за крокам аналізаваць паасобныя часткі гаспадаркі, таму што наступныя часткі ў ланцугу супадлегласьці застаюцца па-за полем аналізу; наадварот, папярэднія прааналізаваныя зьяўляюцца ўжо велічынёй дадзенай. Значыцца, лік магчымых варыянтаў організацыі паасобных частак гаспадаркі надзвычайна звужаецца, дзякуючы дзьвум акалічнасьцям: 1) Часткі, якія стаяць у ланцугу супадлегласьці ў пачатку, як, напрыклад, склад зямное паверхні, зьяўляюцца ў значнай меры велічынёй дадзенай і 2) па меры таго, як мы вызначаем ўсё большы і большы лік адносна найбольш рацыянальных частак організацыі гаспадаркі, тым самым мы лік магчымых варыянтаў організацыі астатніх частак гаспадаркі ўціскаем ва ўсё больш і больш абмежаваную асадку.

Такім чынам, мажлівасьць аналізаваць паасобныя часткі гаспадаркі робіць значна лягчэйшым і прасьцейшым аналіз гаспадаркі ў цэлым.

Апрача таго, неабходна прыняць пад увагу наступныя меркаваньні. Я ўжо адзначаў, што для дзелавога чалавека куды важней правільная папярэдняя калькуляцыя, чымся наступная. Апошняя важна ўсяго пастолькі, пакольні яна зьяўляецца дапаможным сродкам для першай. Самому-ж сельскаму гаспадару значэньне вынікаў яго

гаспадараньня ў мінулым годзе важна хутчэй не само па сабе, а ўсяго пастолькі, паколькі гэта дапамагае папярэдняй калькуляцыі на будучы час. Канкрэтней і выразьней кажучы, для дасьледчыка сельскае гаспадаркі, таксама як і для самога сельскага гаспадара, адказ на пытаньне—чаму ў мінулым у яго гаспадарцы было іменна такое суадношаньне культур і ў якой ступені гэтае суадношаньне адпавядала дадзеным умовам—важны ня сам па сабе, а ўсяго пастолькі, паколькі дапамагае адказаць на пытаньне—у якім напрамку і да якое граніцы магчыма ў бліжэйшай будучыні зьмена дадзенага суадношаньня культур. Адказаць ужо на другое пытаньне куды лягчэй, чымся на першае, таму што, выходзячы з дадзенае організацыі гаспадаркі, неабходна прыняць у разьлік толькі тыя абставіны, якія зьменьваюцца, і значэньне кожнае з іх. Напрыклад, куды цяжэй даць адказ на пытаньне,—чаму гаспадарка ня ўжывае мінэральных угнаеньняў, або чаму культура бульбы ў засяўной плошчы гэтае гаспадаркі складае 15 працантаў і ў якой ступені гэта адпавядае дадзеным умовам, чымся выходзячы з гэтых фактаў, як дадзеных, і зьмены цэнаў на ўгнаеньне, збожжа і бульбу, даць адказ на пытаньне—у якім напрамку магчыма зьмена гэтых фактаў. Калі цана ўгнаеньня павялічваецца, а цана сельска-гспадарчых прадуктаў зьмяншаецца, то відавочна, што гаспадарка, якая ня ўжывала ўгнаеньняў, або ўжывала ў нязначнай колькасьці, наўрад ці павялічыць ужываньне іх. Або, калі цана бульбы, у параўнаньні з цэнамі прадуктаў іншых культур, значна павялічваецца, пры чым мяркуецца, што гэтае зьявішча працяжнае, то відавочна, што гаспадарка будзе пашыраць засяўную плошчу пад бульбу за кошт скарачэньня іншых культур. Значыцца, толькі шляхам выключэньня магчымасьцяў зьмены можна давесьці, што дадзеная организацыя сельска-гаспадарчага прадпрыемства зьяўляецца найбольш адпаведнаю для дадзеных умоў. Такім чынам, толькі ў статычных умовах дадзеная форма сельска-гаспадарчага прадпрыемства была-б крайне рацыянальнай. У рэчаіснасьці, якая заўсёды дынамічная, зьмена організацыі гаспадаркі некалькі адстае ад зьмены ўмоў. Гэты консэрватызм, асабліва ў сельскай гаспадарцы, мае і месца і падставу. Тутака часьцей за ўсё нерацыянальнасьць гаспадаркі зьвязана ня з тым, што яна няправільна выкарыстала зьмену ўмоў, а з тым, што яна іх недастаткова выкарыстала [1]). У нормальных умовах разьвіцьця, калі ўвесь час ёсьць тэндэнцыі да росту інтэнсыўнасьці, звычайна гаспадаркі зьяўляюцца менш інтэнсыўнымі, чым гэта дазваляюць аб'ектыўныя ўмовы. Дзякуючы гэтаму, як адзначае Брынкман (стар. 4—Эканамічныя асновы організацыі с.-г. прадпрыемстваў), звычайна больш інтэнсыўная гаспадарка зьяўляецца і больш рацыянальнай. Часьцей за ўсё гаспадар стаіць перад задачай,—якімі спосабамі і наколькі ўзмацніць інтэнсыўнасьць яго прадпрыёмства, і толькі вельмі рэдка, у моманты глыбокіх аграрных крызісаў, у яго паўстаюць пытаньні аб памерах і спосабах экстэнсіфікацыі яго прадпрыёмства. Але нават у гэтых выпадках, у сваіх організацыйных формах гаспадарка ня ідзе назад. Наадварот, рэорганізуючыся, яна ўсё ідзе па шляху павялічэньня інтэнсыўнасьці. Але калі гэта так, тады праблема ацэнкі цяперашняй організацыі гаспадаркі, якая стаіць перад намі, робіцца значна лягчэйшай і прасьцейшай. Мы выключаем магчымасьць большае рацыянальнасьці менш інтэнсіўнага ўзроўню, чым ужо існуе. Магчымасьць зьмены організацыі гаспадаркі (трэба

[1]) Падрабязьней аб гэтым гл. у Эрэбо „Основы с.-х. экономии", 1912 г., пераклад пад рэд. Бруцкуса, стар. 105—106.

адрозьніваць ад бягучых мерапрыемстваў па вядзеньню гаспадаркі) абмяжоўваецца толькі адным напрамкам—у бок павялічэньня інтэнсіўнасьці.

Значыцца, задача зводзіцца да таго, каб вырашыць, ці магчыма, і калі магчыма, дык якім шляхам і да якое граніцы далейшае павялічэньне інтэнсыўнасьці. Магчымасьці-ж зьмены ў межах дадзенага арганізацыйнага ладу зводзяцца, галоўным чынам, да магчымасьці выкарыстоўваньня рынкавых коньюнктур. Грунтуючыся на веданьні рынкавых коньюнктур пэўных прадуктаў сельскае гаспадаркі, а таксама на сымптомах зьмены гэтых коньюнктур, можна вызначыць мажлівасьці тых або іншых мерапрыемстваў па вядзеньню гаспадаркі.

### 2. Аналіз арганізацыі абсьледваных гаспадарак па дадзеных бюджэту.

Цяпер пяройдзем да характарыстыкі абсьледаваных гаспадарак па дадзеных бюджэту. Пачнем з перадумоў[1]), г. зн. з людзей, якія гаспадараць, і прыродных умоў, хаця апошнія часткова ўжо характарызаваны. Мне здаецца, што ў пытаньнях рэарганізацыі гаспадаркі мы надаем вельмі малое значэньне гаспадарчым здольнасьцям гаспадароў. Тады як па сутнасьці арганізацыя гаспадаркі, а тым больш сельска-гаспадарчага прадпрыёмства, зьяўляецца свайго роду мастацтвам, пры гэтым мастацтвам далёка ня лёгкім, якому добрая бухгальтэрыя можа дапамагчы, але замяніць ня можа. Пры гэтым нельга думаць, што разьвіцьцё дзелавых здольнасьцяй ёсьць справа толькі аграасьветы або агрaпрапаганды. Як зазначае Брынкман, ступень разьвіцьця гаспадарчых здольнасьцяй, зьяўляючыся адным з асноўных фактараў, якія вызначаюць узровень інтэнсіўнасьці гаспадаркі, у сваю чаргу вызначаюцца гаспадарчымі абставінамі. Толькі там, дзе ёсьць умовы дзеля высока-інтэнсіўнае гаспадаркі, там ёсьць патрабаваньне высока-кваліфікаваных прадпрыёмцаў, толькі там і будзе сустракацца высокая ступень разьвіцьця дзелавых здольнасьцяй у гаспадароў.

Само сабою зразумела, што цяжка знайсьці аб'ектыўны вымернік ступені разьвіцьця дзелавых здольнасьцяй у гаспадароў. Усё-ж, некаторыя факты часткова аб'ектыўна зафіксаваныя, часткова-ж якія давялося мне назіраць у Случчыне, у часе экспэдыцыяў, паказваюць на параўнальна высокі ўзровень разьвіцьця дзелавых здольнасьцяй у сялян абсьледаванага раёну. Перш за ўсё Случчына паказвае, ў параўнаньні з усімі іншымі вакругамі БССР, найбольш вялікі процант пісьменных у сельскіх мясцовасьцях, як у 1897 г., гэтак і ў 1920—24 г.г. Па дадзеных статыстычнага штогодніка ЦСУБ за 1923—24 год, на 1000 душ насельніцтва прыходзілася ў сельскіх мясцовасьцях пісьменных абодвых радоў у Слуцкай вакрузе ў 1897 годзе—178 чал., у 1920-24 г.—310; а па БССР у 1897 г.—142 чал. і ў 1920-24—278 чал. Нават Менская акруга паказвае больш нізкі процант пісьменных у сельскіх мясцовасьцях. Такое-ж самае становішча бачым і ў адносінах

---

[1]) „У пэўным сэнсе існуюць толькі два агэнты вытворчасьці—прырода і чалавек. Капітал і арганізацыя зьяўляюцца вынікам працы чалавека,—пры садзейнічаньні прыроды,—які кіруецца сваёю здольнасьцю прадбачыць будучыню і гатоўнасьцю рабіць запасы дзеля гэтае будучыні. Калі дадзены характар і сілы прыроды і чалавека, дык рост багацьця, ведаў і арганізацыі выцякае з іх, як вынік з прычыны. Але, з другога боку, сам чалавек у значнай меры фармуецца пад уплывам абставін, у якіх прырода займае вялікае месца".

Marshall—„Principles of Economics" Londan, 1925, стар. 139.

да вучняў. Вядомы факт, што сялянства Случчыны, у параўнаньні з іншымі часткамі БССР, дае адносна найбольшы лік наведальнікаў у ВНУ'ах. З другога боку, паказальным зьяўляецца факт, які мне даводзілася неаднойчы канстатаваць, што прыбыткам свае гаспадаркі сялянін лічыць толькі грашовы прыбытак. Неаднойчы даводзілася чуваць ад сялян, ад кіраўнікоў сельсаветаў, што гаспадарка вось гэтага селяніна ў мінулым годзе не дала ніякага прыбытку, г. зн. яна нічога не прадала, а гаспадарка вось гэтага дала вялікі прыбытак, бо прадала 3-х кабаноў, пшаніцы і г. д. Падобнае ўяўленьне аб прыбытку паказвае, што ўлада грошай і рынку тутака ня меншая, чымся ў іншых сфэрах капіталістычнага сьвету. Пры нормальных умовах капіталістычнага гаспадараньня, грошы прадстаўляюць найбольш зручную форму для капіталанамнажэньня, дзякуючы гэтаму ў прагнасьці да грошай, уласна кажучы, найбольш выразна об'ектывуецца прагнасьць капіталанамнажэньня. Далёка ня толькі з-за патрэбы ў грошах, часта сам сялянін не спажывае яек, масла, садавіны, продаючы ўсё гэта да астатняга хунту. Гэтыя рысы скнарства звычайна тым выразьней выяўлены, чым заможней гаспадарка. Чым ніжэй гаспадарка, тым больш пераважаюць у ёй мотывы і рысы спажывецкае гаспадаркі, пры чым, цікавае зьявішча, рысы скнарства часьцей за ўсё злучаюцца з высокай ступеньню дзелавых здольнасьцяй. Найлепшыя гаспадары (не па памерах гаспадаркі) вёскі, якія дзівяць сваім разуменьнем гаспадаркі, тэхнічных прыёмаў вядзеньня яе, уменьнем калькуліраваць і г. д., звычайна ў найбольшай ступені надзелены рысамі Мопасанаўскіх тыпаў францускіх сялян, у якіх не гаспадарка зьяўляецца сродкам дзеля задавальненьня патрэбаў сям'і, а сям'я ёсьць сродак дзеля гаспадаркі.

Прыкладам уменьня калькуліраваць можа служыць таксама зьявішча, вельмі пашыранае паміж сялян пад Слуцкам,—яны продаюць свой авёс, а на харч жывёле купляюць высеўкі—харчовая каштоўнасьць якіх крыху меншая, чымся ў аўса, а цана меншая амаль у паўтара разы.

Магчыма, што кіраўнікі абсьледаваных гаспадарак валодаюць узроўнем дзелавых здольнасьцяй вышэй сярэдніх, бо пры выбары гаспадарка сумесна з сябрамі сельсаветаў, асабліва падкрэсьліваў, каб паказвалі мне толькі на тых гаспадароў, якія ня будуць баяцца даць верныя зьвесткі аб сваёй гаспадарцы. Гэта было вельмі нялёгка злучыць са 100 проц. тыповасьцю гаспадарак. Але ўсё-ж гэтыя гаспадаркі, мяркуючы па харчналагавых дадзеных і думцы мясцовых працаўнікоў, ні сваімі памерамі, ні тым больш па сваёй організацыйна-вытворчай структуры, нічым асабліва не выдзяляліся паміж іншых гаспадарак іхняе вёскі, таксама як і самыя вёскі паміж іншых селішчаў раёну.

Памеры сям'і ў абсьледаваных гаспадарках вагаюцца ад 4 да 10 душ; у сярэднім на гаспадарку—6,5 душ. З іх, у пераводзе на дарослага мужчыну, едакоў 4,7, працаўнікоў 4,1. Пры чым, прыблізна, адзін працаўнік-ядок ¾ года знаходзіцца па-за гаспадаркаю (у Чырвонай Арміі, на службе ды інш.).

Часткова ў сувязі з велічынёю і складам сям'і ў абсьледаваных гаспадарках знаходзяцца памеры і характар рабочае сілы, якая аддаецца і наймаецца, удзельная вага ў гаспадарцы промыслаў, праца—напружанасьць членаў сям'і і суадносіны паміж домаводзтвам і прадпрыёмствам. З 11 абсьледаваных гаспадарак 10 аддавала і 8 наймала рабочую сілу. Значыцца, амаль кожная гаспадарка адначасова і аддавала і наймала рабочую сілу—прадстаўляючы, так сказаць, у соцыяльных адносінах эксплётуемых эксплёататароў, г. зн. «адзінства працілег-

ласьцяй». Гэты момант абумоўліваецца або тым, што ў адну пару гаспадарка мае лішак рабочае сілы, а ў другую—недахоп, або тым, што ёсьць лішак аднаго роду рабочае сілы, напрыклад, жаночай, і недахоп другой мужчынскае, або, нарэшце, тым, што ў гаспадарцы бываюць работы, якія патрабуюць спэцыяльнае працы, напрыклад, стаўленьне і рамонт будынкаў. Абсьледванымі гаспадаркамі нанята на працягу бюджэтнага году 34 мужч. працоўных дні і 96 жаночых, аддадзена-ж 375 прац. дзён мужчынскіх і 55 жаночых. Аддаваньне і наём рабочае сілы робіцца галоўным чынам дзеля патрэб самае сельскае гаспадаркі і мае выпадковы характар. Заработкі, зьвязаныя з лесазагатоўкамі і апрацоўкай дрэва, адсутнічаюць. Пры адсутнасьці таксама і хатніх промыслаў, гэта ўзмацняе неабходнасьць высокае рынкавасьці самае сельскае гаспадаркі.

Я ўжо коратка спыняўся на характарыстыцы глебаў Случчыны, а таксама складу зямельных кавалкаў па масавых дадзеных. Мы бачылі поўнае супаданьне раёну ўрадлівых глебаў і найбольш узворанага з раёнам найбольшага разьвіцьця рынкавае сьвінагадоўлі. Пастараемся зараз даць больш дэталёвы аналіз уплыву прыродных умоў на арганізацыйна-вытворчы лад сельска-гаспадарчых прадпрыёмстваў Случчыны. Уплыў прыродных умоў на арганізацыю гаспадаркі мае дваісты характар: 1) Непасрэдны ўплыў заключаецца ў тым, што дадзены клімат і глеба выключаюць магчымасьць гаспадарчага выкарыстоўваньня некаторых расьлін або жывёлаў. 2) Пасрэдны заключаецца ў тым, што клімат у значнай меры вызначае характар глебы, што клімат і глеба вызначаюць склад зямное паверхні, а прыродны склад зямное паверхні, у сваю чаргу, ў значнай меры вызначае праз лад харчаздабываньня і ўгнаеньня характар як расьлінагадоўлі, гэтак і жывёлагадоўлі. Неабходна адзначыць, што клімат і асабліва глебы паўднёва-заходняе часткі Беларусі ў значнай меры вызначылі зараней немагчымасьць шырокага разьвіцьця ў гэтым раёне культуры лёну. Наадварот, гэтыя ўмовы ў вялікай меры спрыялі разьвіцьцю культуры бульбы [1]).

Мы бачылі ў межах Случчыны рэзкую зьмену глебаў ад адносна вельмі ўрадлівых суглінкаў, у сярэдняй частцы раёну, да малаўрадлівых пяшчана-балотных глебаў Палесься. Аналёгічна таму, як з палепшаньнем рынкавага становішча павялічваецца магчымасьць і неабходнасьць інтэнсыфікацыі с.-г., гэтак сама павялічваецца яна і па меры пераходу ад менш урадлівых да больш урадлівых глебаў. «Пры роўнай каштоўнасьці ўраджаяў, абумоўленай аднолькавым эканамічным становішчам, граніца, пры якой павялічэньне выдаткаў перастае быць карысным, надыходзіць тым раней, чым горш глеба. Такім чынам, у аднолькавым рынкавым становішчы і пры роўных іншых умовах гранічны ўзровень інтэнсыўнасьці тым ніжэй, чым горш глеба» [2]).

Узрастаньне інтэнсыўнасьці перш за ўсё адбіваецца на складзе зямное паверхні. У Палескай частцы Случчыны, па дадзеных Ястрэмскага, ральля складала менш 30 проц. Цэнтральная-ж частка Случчыны, з суглiністымі глебамі, зьяўляецца найбольш узворанай (да 60 проц. ральлі). Глебы і склад зямельных кавалкаў у абсьледаваных гаспадарках, зьмешчаных у цэнтральнай частцы Случчыны, адпавядаюць характарыстыцы іх па масавых дадзеных. Памеры землякарыстаньня ў абсьледаваных гаспадарках у сярэднім складаюць прыблізна 11,5 гэкт. на гаспадарку. З іх каля 60 проц. даводзіцца на долю ральлі больш 30 проц. сенажаці і каля 10 проц. выгану. Дзякуючы прыродным умо-

[1]) Гл. Прянишников—Частное земледелие, стар. 44—45 і 459—461.
[2]) А. Ф. Эрэбо—Основы С.-Х. Экономии, стар. 36 С.-Петербург, 1912 год.

вам, гэты склад зямное паверхні носіць амаль «бязумоўны» характар. Усё, што можа быць узворана без папярэдніх вялікіх меліорацый, ужо занята пад ральлю. Сенажаць—у большасьці балотняя. Пад выган-жа фактычна ідзе толькі закінутая ральля. Гэткі склад зямное паверхні перш за ўсё выключае магчымасьць разьвіцьця малочнае жывёлагадоўлі на базе прыродных харчовых умоў, а галоўным чынам з прычыны крызісу пашы. Параўнальна-ж урадлівыя глебы робяць надзвычайна ўстойліваю порцыю збожавых. Далей неабходна адзначыць, што надзвычайна дрэнная якасьць мясцовых шляхоў зносін, дзякуючы прыродным умовам, павялічвае патрэбу гаспадаркі ў якасьці і колькасьці коняй. Гэтая акалічнасьць узмацняецца наяўнасьцю вялікіх селішчаў, значыцца, значнай адлегласьцю поля ад сядзібы. Наяўнасьцьжа вялікіх запасаў саломы і грубога балотняга сена ўзмацняе пазіцыю буйнае рагатае жывёлагадоўлі. У выніку такіх памераў і характару гадоўлі буйнае рагатае жывёлы і коняй атрымліваюцца значныя запасы гною, што ізноў узмацняе позіцыю збожавых культур і бульбы [1]), а гэтае, у сваю чаргу, зьяўляецца базай дзеля разьвіцьця рынкавае сьвінагадоўлі.

З сваеасабліваю цікавасьцю организуецца ўвесь лад карменьня. Рэзка з саломы, часамі разам з сенам, з бульбаю і невялікай колькасьцю мукі зьяўляецца амаль унівэрсальнымі харчамі для ўсіх відаў жывёлы.

Далейшае прагрэсыўнае разьвіцьцё сельскае гаспадаркі гэтага раёну ў напрамку малочнае гаспадркі, і зьвязанае з ёю больш інтэнсіўнае сьвінагадоўлі, у сучасны момант найбольш войстра ўпіраецца ў праблему організацыі летняга карменьня (падкармліваньне і організацыя пашы), а таксама зьвязаную з гэтым праблему падсяўных і пажніўных культур. Паасобныя з абсьледаваных гаспадарак, у залежнасьці ад яшчэ больш конкрэтных індывідуальных абставін, у рознай ступені і рознымі спосабамі імкнуцца разьвязаць гэтыя праблемы.

Як і трэба было чакаць, у адносінах посьпеху разьвязаньня гэтых праблем на першым месцы стаяць гаспадаркі, зьмешчаныя бліжэй ад Слуцку, з іх—з хутарскім землякарыстаньнем. На апошнім месцы стаяць гаспадаркі, зьмешчаныя далёка ад Слуцку, з іх гаспадаркі ў вялікіх селішчах. Гэта можа быць праілюстравана нават на невялікай колькасьці нашых бюджэтаў.

Так, у гаспадарках № 1—5, г. зн. зьмешчаных блізка ад Слуцку, ральля займае ўжо каля 50 проц. ад усяе плошчы с.-г. прызначэньня. Значэньне лугу і выгану павялічылася. Пры чым, у гаспадарках № 1—3, якія маюць хутарскае землякарыстаньне, выган ужо не зьяўляецца «закінутаю» зямлёй, а кавалкамі сенажаці, якія пасьля некалькіх гадоў пашы ізноў ідуць пад сенажаць. Таксама куды вышэй якасьць сенажацяў у гэтых гаспадарках, дзякуючы больш уважлівым адносінам да іх з боку гаспадароў. Далей мы ўбачым, што ў гэтых гаспадарках вялікае значэньне мае падкармліваньне жывёлы ўлетку і пакупка высевак дзеля гэтае мэты. Усе гэтыя акалічнасьці паляпшаюць становішча малочнае жывёлагадоўлі.

---

[1]) „Каб бульба давала нармальны ўраджай, яна ва ўсякім разе павінна быць добра ўгноена. Яна больш жыве не за кошт прыродных запасаў пажыўных матар'ялаў, а за кошт тых угнаеньняў, якія сельскі гаспадар штогодня ўносіць у глебу".

Aereboe. Allg. Betriebslehre, стар. 488.

Я падкрэсьліў гэты момант з тае прычыны, што звычайна лічаць, што культура бульбы не асабліва патрабуе ўгнаеньня, асабліва гноем. Дзеля гэтага запасы гною нібыта ні ў якой меры не зьяўляюцца момантам, які вызначае памеры разьвіцьця бульбы. У сапраўднасьці-ж, ва ўмовах Беларусі запасы гною зьяўляюцца аднэю з вырашальных организацыйных умоў разьвіцьця культуры бульбы.

У астатніх гаспадарках ральля складае амаль ¾ ад агульнае плошчы сельска-гасп. прызначэньня. Асабліва зьмяншаецца ў іх выган. Частка гаспадарак, часьцей за ўсё з вялікімі запасамі рабочае сілы, імкнецца палепшыць харчавы базіс, у межах дадзенае сыстэмы земляробства, шляхам арэнды (грашовае або з часьці) сенажаці. Так, гаспадарка № 4 брала ў арэнду 1,64 гэктару сенажаці, гаспадарка № 9— 1,09 гэкт., № 10—1,64 гэкт. і № 11—2,19 гэкт. Пры чым, як кажуць гаспадары, арэнды панскіх сенажацяў у Палесьсі перад вайною мелі куды большае значэньне. Частка гэтых сенажацяў знаходзіцца зараз па-за межамі.

Уласна кажучы, арэндай сенажацяў гаспадарка імкнецца ў межах вымушанае, галоўным чынам формаю землякарыстаньня, трохполкаю, мець харчовы базіс, які падтрымлівае, толькі ў патрэбнай гаспадарцы колькасьці, цягавую сілу і экстэнсіўную, пераважна гноева-харчовую, прадукцыйную жывёлагадоўлю.

З паказанай характэрыстыкай складу зямное паверхні мацнейшым чынам зьвязана організацыя ральніцтва. Перш за ўсё, з 6 гэкт. ральлі, якія прыходзяцца ў сярэднім на адную з абсьледаваных гаспадарак, каля ¾ гэктараў знаходзяцца пад незанятым папарам, што складае прыблізна каля 15 проц.

Засяўная-ж плошча разьмяркоўвалася наступным чынам:

| | Гэктар. | %% |
|---|---|---|
| Зімовае жыта . . . | 1,65 | 31,0 |
| „ пшаніца . . | 0,19 | 3,7 |
| Авёс . . . . . | 1,32 | 24,8 |
| Ячмень . . . . . | 0,32 | 6,0 |
| Бульба . . . . . | 0,77 | 14,6 |
| Лен . . . . . . | 0,15 | 2,8 |
| Сеяныя травы . . | 0,66 | 12,4 |
| Іншая ярына . . . | 0,25 | 4,7 |
| Усяго . . | 5,31 | 100 |

У іншыя ўвайшлі: яравая пшаніца, гарох, проса і др. У травы—віка і канюшына, галоўным чынам канюшына. Падзяляць іх ня было сэнсу, бо іхняе значэньне ў гэтых гаспадарках адно і тое самае. Адносна большая плошча, занятая пад зімовую пшаніцу, паказвае на параўнальна высокую якасьць глебаў (пшанічныя глебы).

Пасьля гэтых папярэдніх заўваг, пяройдзем да характарыстыкі сыстэмы земляробства і ральніцтва, г. зн. да аналізу таго, аб чым гавораць прыведзеныя лічбы разьмеркаваньня ральлі і складу зямельных кавалкаў [1]).

[1]) „Сыстэмай земляробства" (Bodennutzungssystem) называюць ход і спосаб выкарыстоўваньня зямельных кавалкаў дзеля атрыманьня сельска-гаспадарчых прадуктаў, у асаблівасьці суадносшаньне рознастайных с.-г. зямельных кавалкаў зямлі, якая апрацоўваецца і неапрацоўваецца, пашы, лугоў і ральлі, папару і зямлі пад пасевамі (Bauland), суадносшаньне пасеву збожавых культур, кармовых караньплодаў. Аб сыстэме тут гаварыць дзеля таго, што паасобныя галіны сельскае гасп. ня проста вонкава злучаны разам, а шчыльна зьвязаны адна з аднэю іхнімі мэтамі ў межах адзінага сельска-гаспадарчага прадпрыемства, бо земляробства (Bodennutzung) складае аснову с.-г. прадпрыёмства, і дзеля гэтага зусім зразумела, што здаўна і тэорыя і с.-г. практыка бачылі ў сыстэме земляробства асноўную адзнаку клясыфікацыі формаў с.-г. прадпрыёмстваў, і калі гутарка ідзе аб сыстэмах с.-г. прадпрыёмстваў, або сыстэмах сельскае гаспадаркі, дык у большасьці выпадкаў маюць на ўвазе якраз сыстэму земляробства. Сыстэма земляробства *стварае аснову ўсяе організацыі сельска-гаспадарчага прадпрыёмства* (падкрэслена мною. С. Ж.), даючы такім чынам важнейшую адзнаку дзеля характарыстыкі напрамкаў організацыі апошняга. Сыстэмы ральніцтва складаюць важнейшую частку сыстэмаў земляробства, але з тае прычыны што гэтым апошняе цалкам не ахапляецца, дык выразы

Перш за ўсё, 15 проц. папару гавораць, што мы ня маем перад сабою тыповае формы трохполкі. З другога боку, каля 70 проц. засяўное плошчы пад збожавымі гавораць за тое, што мы ня маем перад сабою і тыповага плодазьмену. Гэтая сыстэма ральніцтва знаходзіцца недзе на шляху ад 3-хполкі да плодазьмену і правільней за ўсё можа быць названа, згодна з вызначэньнямі Людагоўскага і Брынкмана, як палепшаная збожавая, або палепшаная 3-хполка. Паасобныя з абсьледаваных гаспадарак у рознай меры наблізіліся да плодазьмену.

Я ўжо адзначаў, што асноўным тормазам, які перашкаджае пераходу ад трохполкі да плодазьмену ў гэтым раёне, зьяўляецца цераспалоснае землякарыстаньне з прымусовым агульнаселішчавым севазваротам [1]). Сапраўды у 3-х з абсьледаваных гаспадарак (№ 1, 2, 3) з хутарскім землякарыстаньнем ужо зусім няма незанятага папару, тады як у іншых гаспадарках незаняты папар яшчэ захаваўся (гл. дадатак). «Сродкам інтэнсіфікацыі 3-хпалёвае сыстэмы гаспадаркі зьяўляецца засеў папару культурамі, якія захоўваюць урадлівасьць глебы і павялічваюць яе, пашыраючыся спачатку на частку папару, а пасьля на ўсю яго плошчу, павялічваючы ўраджай прадуктаў са спэцыяльным характарам (стручкавыя, харчавыя і караньплоды). Апрацоўка прамежных культур на кавалках пад зімовымі культурамі ў якасьць замены пашы, або дзеля ўгнаеньня,—служыць для тае самае мэты. З гэтымі зьменамі, вядома, мяняецца і ўвесь малюнак 3-хпалёвае гаспадаркі і ў першую чаргу характар жывёлагадоўлі (пераход ад пашавага кармленьня да стойлавага). З тае прычыны, што падзел папаравага кліну ў большасьці выпадкаў прыводзіць да падзелу астатніх двох кліноў, узьнікаюць сыстэмы палепшанае трохполкі [2]). Некаторыя з абсьледаваных гаспадарак даюць прыблізна тыя самыя варыянты севазваротаў палепшанае трохполкі, на якія зазначае і Брынкман, як на характэрныя для сярэдніх сялянскіх гаспадарак Нямеччыны, а менавіта: 1) клубняплоды, 2) зімовыя, 3) яравыя, 4) канюшына, 5) зімовыя, 6) яравыя. Звычайна папаравае поле на палавіну засяваецца бульбай і на палавіну канюшынай. З астатніх 2-х палёў адно ідзе пад зімовыя, другое пад ярыну. Так што паказанае чаргаваньне адбываецца ў межах відочнае трохполкі.

Характэрным момантам для ўсіх гэтых севазваротаў зьяўляецца, у большасьці, адзін год карыстаньня канюшынаю. Так што канюшына і віка могуць да некаторай ступені заступаць адна другую. Гэты момант зьяўляецца характэрным у процілегласьць лёнагадоўчым раёнам паўночна-ўсходняе Беларусі, дзе патрэба лёну ў дзярніне робіць неабходным больш чым аднагадовае карыстаньне канюшынаю, што ў сваю чаргу робіць менш востраю праблему пашы, а ў выніку гэтага ствараюцца больш спрыяльныя ўмовы для разьвіцьця малочнае жывёлагадоўлі. У дадзеным на раёне ў харчовым рацыёне ўсім відам

---

сыстэма ральніцтва і сыстэма земляробства (Bodennutzungssystem) нельга, як гэта звычайна робіцца, ужываць у адным і тым-жа сэнсе. Зусім дапушчальна замяняць тэрмін сыстэмы ральніцтва тэрмінам сыстэмы севазваротаў, бо ў ральніцтве сыстэматычнае выкарыстоўваньне зямлі выяўляецца ня толькі ў паралельным існаваньні паасобных культур, але і ў пасьлядоўнасьці іхняе апрацоўкі. Севазварот рэгулюе суадношаньне і пасьлядоўную зьмену палявых культур; у гэтым момандзе знаходзіць сваё найбольш яскравае выяўленьне гаспадарчая зьвязанасьць паасобных галін сельска-гаспадарчай вытворчасьці". Бринкман.—„Экон. основы орган. с.-х. предприятий", стар. 189—190.

[1]) „Трохполка магла быць перасілена толькі пасьля таго, як было зьнішчана, некалі эканамічна зусім мэтазгоднае, а пасьля стаўшае гаспадарчым тормазам, сярэднявяковае аграрнае заканадаўства". Бринкман—Экономические основы организации с.-х. предприятий, стар. 217.

[2]) Бринкман—Эконом. основы орган. с.-х. предприят., стар. 217-218.

жывёлы ўсё большае значэньне набывае бульба, а недахоп пашы робіцца ўсё вастрэйшым.

Цяпер пастараемся прааналізаваць абумоўленасьць паказанага складу зямельных кавалкаў і палявых культур. Я ўжо адзначаў, што дадзены склад зямельных кавалкаў, дзякуючы прыродным умовам, у значнай меры носіць характар «бязумоўных» кавалкаў. Усё, што можа быць узворана, без папярэдніх буйных мэліорацыяў, ужо ўзворана. Вядома, калі не заўсёды з сенажаці і выгану можна зрабіць ральлю, дык наадварот, з ральлі зрабіць сенажаць і выган можна заўсёды, г. зн. затрымаць разьвіцьцё інтэнсыўнасьці, або нават павярнуць яго назад, куды лягчэй, чымся павялічыць інтэнсыўнасьць. Але гэты шлях, які азначае крок назад, у нормальных умовах разьвіцьця с. гаспадаркі, як ужо адзначалася, выключаецца. Значыцца, у межах бліжэйшага шэрагу гадоў, рэарганізацыя гаспадаркі магчыма пераважна ў межах дадзенага складу зямельных кавалкаў, г. зн. шляхам рэарганізацыі выкарыстоўваньня ральлі, перш за ўсё шляхам скарачэньня папару. Але ліквідацыя папару ўпіраецца ў праблему організацыі летняга кармленьня (падкармліваньне і паша). Пры наяўнасьці церасп алоснага землякарыстаньня, організацыя пашы сустракае значныя цяжкасьці, бо паасобныя групы гаспадарак вёскі зацікаўлены ў розных формах організацыі пашы. Дыфэрэнтаваць-жа організацыю нельга, дзякуючы прымусовай супольнасьці севазвароту. Так што ў вёсцы рэорганізацыя летняга кармленьня ідзе, галоўным чынам, шляхам організацыі падкармліваньня і частковага выкарыстоўваньня папару. Апрача таго, адсутнасьць папару патрабуе вялікае колькасьці гною. Хутары-ж маюць больш магчымасьці організаваць пашу, а значыцца, рашучай могуць ісьці па шляху ліквідацыі папару. Такім чынам трэба прызнаць, што ў абсьледаваных гаспадарках разьмеркаваньне ральлі паміж незанятым папарам і пасевам зьяўляецца, пры дадзеных умовах, даволі абаснованым.

Паглядзімо, у якой-жа меры абаснаваным зьяўляецца дадзены склад палявых культур? З іх, перш за ўсё, неабходна бачыць культуры, якія граюць падлеглую ролю, маючы на ўвазе хатнія патрэбы. Па-першае, сюды трэба аднесьці культуры, блізкія па свайму значэньню ў гаспадарцы да гародніх культур, як каноплі, проса, гарох. З таго, што ў сялянскай гаспадарцы прадпрыёмства і домаводзтва моцна ўзаемазьвязаны, яшчэ не вынікае, што пры аналізе організацыі гаспадаркі іх нельга разлучыць. Наадварот, падобнае разлучэньне ня толькі магчыма, але і пажадана, бо з організацыйна-вытворчага пункту гледжаньня найбольшую цікавасьць прадстаўляе прадпрыёмства, а не домаводзтва, таму што пад уплывам зьмены цэнаў і прыродных умоў мяняецца, галоўным чынам, організацыя прадпрыёмства, домаводзтва-ж адносна больш устойлівае. З гэтае прычыны памеры і склад культур, якія ідуць пераважна на задавальненьне патрэб домаводзтва, можна прызнаць за велічыню больш-менш сталую і выключыць з аналізу. Апрача паказаных культур, сюды ў абсьледаваных гаспадарках з пэўнай падставай можна аднесьці лён, грэчку, пшаніцу. Значыцца, змаганьне за засяўную плошчу можа адбывацца, галоўным чынам, паміж жытам, аўсом, ячмянём, бульбаю і травамі, якія ўсе разам займаюць каля 90 проц. усяе засяўное плошчы. З іх, па занятай плошчы, на першым месцы стаіць жыта, пасьля авёс. Паколькі змаганьне паміж пяцьцю памянёнымі культурамі адбываецца ў межах трохполкі, пастолькі няўхільнаю зьяўляецца вялікая ўдзельная вага жыта ў засяўной плошчы. Неабходна адзначыць, што ўдзельная вага жыта ў засяўной плошчы, ва ўсіх абсьледаваных гаспадарках, зьяўляецца прыблізна аднолькаваю—

каля 31 проц. Апрача таго, я ўжо зазначаў, што позіцыя жыта, як моцна саломістае культуры, значна ўзмацняецца сваеасабліваю арганізацыяй харчовага базісу, дзе салома займае вельмі значнае месца. Калі дадаць сюды яшчэ якасьць глебаў, значныя запасы гною ў гаспадарцы і значэньне жыта, як асноўнае спажыўнае культуры, дык прыдзецца прызнаць, што падобная ўдзельная вага жыта ў засяўной плошчы зьяўляецца даволі рацыянальнаю. Але з другога боку, гэтым самым паслабляецца позіцыя яравых збожавых, а ўзмацняецца позіцыя бульбы.

З яравых збожавых авёс, як культура, якая патрабуе менш гною і апрацоўкі глебы, зьяўляецца мацнейшым канкурэнтам, чымся ячмень, займаючы каля 25 проц. засяўное плошчы. Удзельная вага аўсу ў засяўной плошчы ва ўсіх абсьледаваных гаспадарках зьяўляецца таксама параўнальна ўстойліваю. На дадзеных глебах ячмень ідзе толькі па гнаі, дзеля гэтага з ім вельмі моцна канкурырує бульба і жыта, а з другога боку, гэта перашкаджае складаньню такога севазвароту, дзе-б чаргаваліся жыта, бульба і ячмень, якія патрабуюць гною. Апрача таго, мяркуючы па тэрмінах сяўбы, у гэтым месцы ўдаюцца, як відаць, пераважна раньнія ячмяні. Але тады збор ячмяню прыпадае на пэрыяд і без таго больш за ўсё перагружаны працай. Такім чынам, і гэтая акалічнасьць паслабляе позіцыю ячмяню ў змаганьні за засяўную плошчу. Лепшай-жа якасьці ячменю, як харчу сьвіньням, процістаіць лепшая якасьць аўсу, як харчу для коняй. Усе гэтыя акалічнасьці робяць зразумелым, чаму ў большасьці з абсьледаваных гаспадарак значэньне культуры ячмяню зводзіцца амаль да спажыўнага значэньня (каля 5 проц.). Гаспадаркі-ж № 1, 2, 5, якія больш за ўсіх пасунуліся наперад у арганізацыйных адносінах, зусім ня маюць ячмяню, купляючы крупу, неабходную для харчаваньня. І толькі ў гаспадарцы № 10 ячмень адваяваў сабе значнае месца ў засяўной плошчы, а таксама гной у жыта, зьяўляючыся асноўнай рынкавай культурай у гэтай гаспадарцы.

Змаганьне збожавых культур паміж сабою за засяўную плошчу да поўнай ступені можа адбывацца і ў межах трохполкі. Толькі ўвядзеньне ў засяўную плошчу кармовых траў разбурае трохполку. З другога боку, увядзеньне пасеву шматгадовых траў у межах трохполкі з цераспалосным землякарыстаньнем сустракае вялікія цяжкасьці. Сапраўды, засяўная плошча пад канюшынаю ў гасп. № 1, 2 і 3, з хутарскім землякарыстаньнем, куды вышэй (каля 25 проц.), чымся ў астатніх гаспадарках. Апрача прымусовага севазвароту, у вёсцы войстры недахоп пашы звужае магчымасьці малочнае жывёлагадоўлі, а гэтым самым і патрэбу ў канюшынным сене. Як мы ўжо бачылі, гэтыя гаспадаркі робяць максімальныя высілкі, каб здабыць як мага больш лугавога сена шляхам арэнды, адработкаў, часткова пасеваў вікі (гаспадаркі № 6, 7 і 8). Толькі гаспадаркі, якія маюць кавалкі куплянай або арэндаванай зямлі па-за агульнаселішчавым севазваротам, маюць больш магчымасьці корэктаваць свой севазварот увядзеньнем пасеву канюшыны ў межах прымусовае трохполкі.

Неабходна таксама адзначыць, што ў хутарскіх гаспадарках канюшына першага году пасеву выкарыстоўваецца як паша, граючы ролю пажніўнае культуры, ізноў-жа дапамагаючы гэтым вырашэньню праблемы летняга кармленьня і паляпшаючы становішча малочнае жывёлагадоўлі. Апрача таго, другі ўкос канюшыны ў вялікіх колькасьцях выкарыстоўваецца дзеля атрыманьня насеньня, што, пры цяперашніх вялікіх цэнах на канюшыннае насеньне (1 руб.—1,25 р. за адзін кгл.), робіць гэтую культуру надзвычайна карысной. Сапраўды, гаспадарка № 2 прадала канюшынавага насеньня на 96 руб., а гаспадарка

№ 3 на 360 руб. Пры адпаведных умовах Случчына магла-б у першую чаргу зрабіцца дастаўнікам селекцыйнага насеннага матар'ялу ня толькі канюшыны, але і іншых расьлін. Тое-ж самае і ў адносінах да заводзкае сьвінагадоўлі і конегадоўлі.

У дадзеных умовах канюшына бліжэйшым чынам зьвязана з культураю бульбы, часткова дапаўняючы яе, а з другога боку, своеасабліва канкурыруючы з ёю. Пры недахопе канюшыннага і добрага луговага сена дзеля рацыянальнага выкарыстоўваньня грубога балотнага сена і саломы, асабліва патрэбны караньклубняплоды (у гэтым выпадку бульба). Сапраўды, у гаспадарках № 1, 2, 3, у якіх удзельная вага канюшыны ў засяўной плошчы найбольшая, удзельная вага бульбы куды меншая, чымся ў астатніх гаспадарках, дзе, наадварот, меней канюшыны. Праўда, скарачэньне засяўное плошчы пад бульбаю ў першых гаспадарках часткова компэнсуецца большым яе ўраджаем.

Такім чынам, склад культур мацнейшым чынам зьвязан з вытворчасьцю кожнае з гэтых культур. Без разьліку апошняе акалічнасьці, увесь аналіз сыстэмы земляробства застаецца няпоўным. Уласна кажучы, гэта другі бок аднае і тае самае праблемы інтэнсіўнасьці. Задача гаспадара заключаецца ня толькі ў тым, каб знайсьці гранічны гэктар зямлі, які яшчэ можа і павінен быць засеян, напрыклад, бульбаю, але ён павінен таксама знайсьці гранічную дозу выдаткаў на гэтым гэктары. Апрача таго неабходна, каб гранічная вытворчасьць выдаткаў пад кожнай культурай была адна і тая самая. Толькі пры роўнай вытворчасьці ўсіх гранічных выдаткаў гаспадарка будзе ў роўнавазе, г. зн. рацыянальнаю. Пры гэтым, чым несымэтрычней выдаткі таго або іншага сродку, тым менш яго вытворчасьць. Значыцца, у асноўным задача гаспадара зводзіцца да адшуканьня гранічных выдаткаў, г. зн. да ўстанаўленьня дапушчальнага і неабходнага ўзроўню інтэнсыўнасьці.

У земляробстве змаганьне паміж паасобнымі культурамі адбываецца за зямлю, за ўгнаеньне і за рабочую і цягавую сілу. На разьмеркаваньні засяўное плошчы я ўжо коратка спыняўся. Цяпер неабходна таксама прасачыць разьмеркаваньне ўгнаеньня, таму што гэтаму моманту, пасьля памераў засяўное плошчы і якасьці глебы, належыць вырашэньне прадукцыі паасобных культур. Апрача таго, характар угнаеньня вызначаецца запасамі гною, значыцца, становішчам жывёлагадоўлі, а апошняе ў сваю чаргу памерамі і характарам прадукцыі земляробства. Такім чынам, організацыя ўгнаеньня і харчаздабываньня зьяўляюцца асноўнымі зьвеньнямі, якія злучаюць будову земляробства і жывёлагадоўлі. З гэтай прычыны аналіз гэтых зьвеньняў, з аднаго боку, нібы рэзюмуе аналіз організацыі земляробства, а з другога боку, зьяўляецца агульным ўступам да аналізу організацыі жывёлагадоўлі.

У сярэднім гаспадарка мае каля 500 цэнтн. гною. Пры гушчыні ў 250 цэнт. на гэктар, гною штогодня хопіць прыблізна на ⅓ ральлі. Гаспадарка лічыць лепшым даваць меней, але часьцей [1]). Каля палавіны запасаў гною гаспадаркі бяруць зімовыя, каля 30 проц. бульба, астатнюю частку ячмень, гарод ды інш. З мінэральных угнаеньняў толькі гаспадарка № 2, якая мае параўнальна мала гною, дзякуючы таму, што салома пайшла на страху нанава пабудаванага гумна, купіла 8 пуд. фосфорнага ўгнаеньня. І зноў-жа характэрна, што ўгнаеньне куплялася гаспадаркаю, якая знаходзіцца блізка ад Слуцку. Прыве-

---

[1]) „Каб дасягнуць на лёгкай глебе найбольшага выкарыстоўваньня дадзенага гною, трэба ўгнойваць невялікімі колькасьцямі, але затое часьцей". Эрэбо—Основы с.-х. экономии, стар. 157.

дзеныя лічбы паказваюць на тое, што гаспадаркі маюць значныя запасы гною, што дае магчымасьць ня толькі пашырыць засяўную плошчу пад бульбаю, але і павялічыць збор як бульбы, гэтак і збожавых. Сапраўды, у сярэднім на адзін гэктар збор бульбы складае прыблізна 200 цэнтн.; жыта збожжа 12,5 цэнтн., саломы 25 цэнтн., аўса збожжа 13,5 ц., саломы 22 ц.; ячмяню збожжа 17,5 ц., саломы 25 ц.; лёну—валакна цёртага каля 2 цэнтн., семя каля 3 цэнтн.; канюшыннага сена 40 цэнтн. Пры чым, ураджай усіх культур у гаспадарках №№ 1, 2, 3, значна большы, чымся ў іншых гаспадарках.

Цяпер пойдзем далей і пастараемся прааналізаваць, у якой меры дадзены склад і памеры прадукцыі земляробства зьяўляюцца абаснаванымі. Дакладней кажучы, неабходна высьвятліць найбольш праўдападобныя магчымасьці зьмены дадзенага складу прадукцыі шляхам перараэьмеркаваньня ральлі, гною, цягавое і рабочае сілы.

Гэтым самым мы далей прааналізуем стасоўнасьць гранічных выдаткаў, г. зн. абаснаванасьць дадзенага ўзроўню інтэнсіўнасьці, як паасобных культур, гэтак і ўсяго земляробства ў цэлым. Але гэта вядзе да неабходнасьці аналізу тэхнікі ральніцтва.

Пры дадзеных прыродных умовах павялічэньне ўраджаю магчыма, галоўным чынам, шляхам зьмены: 1) спосабаў апрацоўкі глебы і догляду за расьлінамі, 2) угнаеньне і 3) сяўнога матар'ялу. Усе гаспадаркі, у якіх ёсьць незаняты папар, паказалі, што першае ворыва і баранаваньне яго робіцца ў траўні, адразу-ж пасьля сяўбы ярыны. Другое—у чэрвені, трэцяе—у жніўні. Калі-ж зімовыя сеюцца не на папары, дык узорваюць зямлю два разы: першы—адразу-ж пасьля збору папярэдняе расьліны, другі—ў жніўні.

Узорваюць параконным плугам. Бораны ў большасьці—драўляная рама з зялезнымі зубамі. У сямі з абсьледаваных гаспадарак былі спружыновыя бораны. Гной пад зімовыя вывозіўся ўсімі гаспадаркамі ў жніўні, перад апошнім ворывам. Пасеў—ручны.

Пад ярыну першы раз узорваюць увосень. Пажніўе аруць у хутарскіх гаспадарках адразу-ж пасьля збору збожжа, г. зн. у ліпені; у вёсцы крыху пазьней—у верасьні. Тлумачыцца гэта організацыяй пашы і наяўнасьцю вольнай рабочай і цягавай сілы. Увясну звычайна аруць пад бульбу і ячмень яшчэ два разы; пад авёс адзін раз. Абганяецца бульба два, а часамі і тры разы. Наогул трэба прызнаць, што тэхніка апрацоўкі глебы і догляду за расьлінамі даволі высокая, і на гэтым шляху наўрад ці магчыма колькі-небудзь значнае павялічэньне ўраджаю, пры дадзеных іншых умовах.

Асноўнаю прычынай павялічэньня ўраджаю ў заходняй Эўропе, па думцы такога аўтарытэту як праф. Д. М. Прянішнікаў, былі мінэральныя ўгнаеньні. Гэты момант заслугоўвае асаблівае ўвагі, таму што ён ідзе звонку сельскае гаспадаркі, разбураючы моцнае кола—малыя ўраджаі, мала харчу, мала жывёлы, мала гною, у выніку гэтага ізноў-жа малыя ўраджаі і г. д.[1]) Безумоўна, бліжэйшае разьвіцьцё сельскае гаспадаркі Беларусі, і ў першую чаргу Случчыны, трэба паставіць у залежнасьць ад магчымасьці ўжываньня мінэральных угнаеньняў, галоўным чынам фосфарных. У сучасны момант гаспадаркі не ўжываюць іх, ня столькі дзеля таго, што яны дарагія, у параўнаньні са збожжам, а скарэй таму, што іх проста няма на рынку.

[1]) Выхад з гэтага: „Спачатку ўзрастае ўжываньне мінэральных угнаеньняў, пасьля ўзрастаюць ураджаі саломы і сена, пасьля павялічваецца лік жывёлы, нарэшце павялічваецца і вытворчасьць гною: вось шлях, які трэба прайсьці дзеля ўпарадкаваньня організацыі ўгнаеньня ў гаспадарцы". Ф. Эрэбо—Основы с.-х экономии—стр. 153, 1912 г.

Зьмена насеннага-матар'ялу дае менш мажлівасьці для павялічэньня ўраджаяў. Перш за ўсё, гаспадаркі ўжо робяць ачыстку насеньня на веялках і трыерах, так што сяўны матар'ял, у адносінах засьмечанасьці, зьяўляецца даволі добраякасным. Тое самае трэба сказаць і адносна якасьці гатункаў, таму што сяляне раней шырока выкарыстоўвалі магчымасьць атрымаць лепшы сяўны матар'ял у панскіх гаспадарках. Назіраюцца таксама выпадкі асьвяжэньня сяўнога матар'ялу сялянамі шляхам абмену паміж сабою.

Такім чынам трэба прызнаць, што пры дадзеных умовах з пункту гледжаньня асноўных тэхнічных прыёмаў, прадукцыя земляробства ў абсьледаваных гаспадарках зьяўляецца даволі вялікай.

Тое, што было сказана ў адносінах організацыі земляробства, можна рэзюмаваць наступным чынам. Дадзеная сыстэма земляробства зьяўляецца палепшана-збожавай, або палепшанаю трохполкай. Значыцца, бліжэйшым этапам разьвіцьця зьяўляецца плодазьмен, г. зн. павялічэньне корань-клубняплодаў і збожавых. Найбольш магчымым уяўляецца наступны шлях пераразьмеркаваньня паміж паасобнымі культурамі ральлі, гною і цягавое рабочае сілы. Паколькі змаганьне будзе ісьці ў межах цераспалоснага землякарыстаньня, з прымусоваю трохполкай, пастолькі будзе выключацца магчымасьць скарачэньня засяўное плошчы пад зімовымі. З другога боку, выключаецца таксама магчымасьць пашырэньня зімовых, бо падобнае пашырэньне наўрад ці было-б мэтазгодным з пункту гледжаньня падзяленьня рабочае сілы ў пэрыяд летняе працы і па сутнасьці азначала-б крок назад у бок экстэнсыфікацыі гаспадаркі. Значыцца, пры такіх умовах змаганьне за засяўную плошчу магчыма пераважна паміж яравымі культурамі. Пры чым, ізноў-жа, паколькі гаспадаркі звычайна стаяць перад задачай павялічэньня інтэнсіўнасьці, пастолькі адпавядае магчымасьць пашырэньня культуры аўса, як найбольш інтэнсыўнай культуры, за лік іншых яравых, напрыклад, бульбы. Значыцца, змаганьне магчыма галоўным чынам паміж ячмянём і бульбаю, як культурамі, якія ідуць па гнаі, а таксама паміж сеянымі травамі і іншымі яравымі. Рынкавыя абставіны таксама больш за ўсё спрыялі пашырэньню пасеву бульбы і траў, г. зн. руху ў напрамку да плодазьмену. Так, індэксы мясцовых цэнаў (сярэдніх за 1926-27 г.) у адносінах да даваенных, прынятых за 100, былі:

| | |
|---|---|
| Жыта | 150 |
| Аўсу | 194 |
| Ячменю | 155 |
| Лёну-валакна | 175 |
| Лёну-семя | 126 |
| Бульбы | 218 |
| Канюшыны сена | 250 |

Такім чынам, неабходна прызнаць, што пры дадзеных умовах найбольш магчымым зьяўляецца пашырэньне засяўное плошчы бульбы і траў, у першую чаргу, за лік папару, пасьля ячменю і нарэшце за лік жыта. Асноўным тормазам, які перашкаджае руху плодазьмену ў абсьледаваных гаспадарках трэба прызнаць: 1) цераспалоснае землякарыстаньне з прымусовым севазваротам, 2) абмежаванасьць запасаў працы ўласнае гаспадаркі, што ізноў-жа зьвязана з першаю акалічнасьцю, г. зн. дальнезямельлем ды інш. Значэньне другое акалічнасьці ўзмацняецца тым, што бульба ня ідзе на рынак, а павінна быць скарыстана ў гаспадарцы такою працаёмкаю галіною, як сьвінагадоўля.

Вядома, дадзены аналіз сыстэмы земляробства і ральніцтва ў абсьледаваных гаспадарках зьяўляецца далёка не вычэрпальным. Уласна кажучы, усякі аналіз не зьяўляецца вычэрпальным, а толькі большменш прыблізным, таму што лік мажлівых варыянтаў зьмены ў той або іншай ступені прадукцыі земляробства практычна бязьмежны. Можна сьцьвярджаць толькі, што такі вось аб'ём і склад прадукцыі земляробства прыблізна больш за ўсё адпавядае дадзеным прыродным і рынкавым умовам. Я ўжо зазначаў, што арганізацыя гаспадаркі нарэшце ёсьць мастацтва. Важны толькі спосаб вырашэньня, карыстаючыся якім можна ўсё больш дэталізаваць і ўтачняць кожны аналіз арганізацыі гаспадаркі.

Паколькі-ж прадукцыя земляробства дадзена, пастолькі ўжо гэтым самым у значнай меры вызначаны наперад аб'ём і характар харчовага базісу, а гэтым самым арганізацыя жывёлагадоўлі. У сярэднім на кожную з абсьледаваных гаспадарак прыходзілася ў бюджэтным годзе агульнае прадукцыі земляробства: 48,7 цэнтн. збожжа, 142,3 ц. бульбы, 110 ц. сена, 48,4 ц. саломы зімовае, 42,2 ц. саломы яравое і 11 ц. мякіны. Пасьля выдзяленьня сяўнога матар'ялу і домаводзтва, рэшта прадукцыі земляробства можа быць або прададзена, або скормлена жывёле. Рынкавасьць ня ёсьць якасьць уласьцівая самому гаспадарчаму дабру, але залежыць ад прыродных умоў і рынкавага становішча гаспадаркі. У дадзеных умовах да нярынкавых прадуктаў трэба залічыць, у першую чаргу, траву пашы, мякіну, салому і адкіды гаспадаркі. Наадварот, збожжа будзе тыповым рынкавым прадуктам. Сена-ж і бульба носяць хутчэй прамежны характар, які набліжаецца ў дадзеных умовах да нярынкавых прадуктаў. Памянёныя нярынкавыя прадукты гаспадарка Случчыны ня продае ня толькі таму, што іх няма куды прадаць, але таксама і таму, што яна мае патрэбу ў гноі.

Далей неабходна адрозьніваць дзьве асноўныя групы харчоў: абсолютныя, г. зн. харчы, якія могуць быць скарыстаны толькі ў дадзеных галінах жывёлагадоўлі і дадатковыя харчы, якія могуць быць скарыстаны ў розных галінах жывёлагадоўлі і служаць дзеля больш рацыянальнага выкарыстоўваньня абсолютных харчоў. Разьмежаваньне гэтае неабходна з тае прычыны, што змаганьне паміж паасобнымі галінамі жывёлагадоўлі ідзе пераважна з-за дадатковых харчоў. Арганізацыя харчовага базісу, а гэтым самым і жывёлагадоўлі, заключаецца галоўным чынам у тым, каб знайсьці такія суадносіны ў выкарыстоўваньні розных відаў харчоў, пры якіх агульны харчовы эфэкт усяе злучанае масы харчоў будзе найбольшым. Пры чым, фізіолёгія жывёлы патрабуе пэўнага суадношаньня паміж баластам і пажыўнымі матэрыяламі харчу, каб самаадчуваньне жывёлы было найлепшым, або каб найбольшаю была іхняя тэхнічная (натуральная) вытворчасьць. Чым больш жывёлы перагружаюцца адным відам харчу, тым меншым робіцца харчовы эфэкт дадзенага харчу. Але з гэтага не вынікае, што адносна-рацыянальнае суадношаньне з аднаго боку паміж баластам харчу і яго пажыўнымі матэрыяламі, а з другога боку, паміж рознымі відамі харчоў, з фізіолёгічнага пункту гледжаньня або з пункту гледжаньня максімуму тэхнічнае вытворчасьці, зьяўляецца оптымальным суадношаньнем і з эканамічнага пункту гледжаньня. Вырашае пытаньне расцэнка прадукцыі, розных відаў харчоў, гною і пакупных угнаеньняў *).

---

[1]) Падрабязьней аб гэтым глядзі: Бринкман—„Экономические основы организации с.-х. предприятий“, гл. III, п. 6 і Эрэбо—„Основы с.-х. экономии“, ч. III, п. 9.

Такім чынам, аб'ём і характар жывёлагадоўлі неабходна, у першую чаргу, паставіць у залежнасьць ад наяўнасьці абсолютных харчоў. Пры чым, патрэба ў гною вызначае ступень выкарыстоўваньня гэтых харчоў, а гэтым самым мінімальную граніцу памераў жывёлагадоўлі. У дадзеным выпадку, у сувязі з характарам глебаў і вялікімі цэнамі на штучныя ўгнаеньні, патрэба гаспадарак у гною вялікая, значыцца, мяркуецца неабходным поўнае выкарыстоўваньне абсолютных харчоў. Гэтым самым мы зазначаем пры дадзеных умовах мінімальную граніцу памераў жывёлагадоўлі.

Але звычайна памеры жывёлагадоўлі пераходзяць за гэтую мяжу і задача заключаецца ў тым, каб знайсьці дапушчальную і неабходную граніцу павялічэньня аб'ёму жывёлагадоўлі пры дадзеных умовах. Ізноў-жа перад гаспадаркаю часьцей за ўсё паўстае пытаньне, ці магчыма, і калі магчыма, то да якое граніцы інтэнсіфікацыя жывёлагадоўлі, а не наадварот. Гэтае пытаньне бліжэйшым чынам зьвязана з магчымасьцю выкарыстоўваньня дадатковых харчоў, з іх у першую чаргу канцэнтраваных харчоў, як уласных, гэтак і купленых.

З тае прычыны, што аб'ём жывёлагадоўлі, у цэлым, мацнейшым чынам узаемназьвязан з памерамі і характарам паасобных галін жывёлагадоўлі, а аб'ём некаторых галін жывёлагадоўлі вызначаецца, апрача памянёных абставін, яшчэ і іншымі момантамі, дапушчальна і мэтазгодна ісьці да вызначэньня аб'ёму і характару жывёлагадоўлі ў цэлым шляхам вызначэньня аб'ёму і характару паасобных галін жывёлагадоўлі, дзякуючы чаму аналіз арганізацыі жывёлагадоўлі стане куды прасьцейшым. У дадзеным выпадку памеры конегадоўлі вызначаюцца патрэбамі гаспадаркі ў цягавой сіле. Немагчымасьць-жа скарыстаць цягавую сілу ў поўнай меры робіць яе дарагою, дзеля гэтага гаспадарка імкнецца кампэнсваць тым, што прадае завадзкіх жарабят. Пасьля задавальненьня патрэбаў конегадоўлі, рэшта пашы, саломы і сена разьмяркоўваецца паміж быдлам і авечкамі. Але гадоўля авечак, у дадзеных умовах, у значнай меры ёсьць велічыня дадзеная, якая вызначаецца наяўнасьцю абсолютных авечых харчоў і пашы, а таксама хатнімі патрэбамі, і наўрад ці можа паўставаць пытаньне аб мажлівасьці пашырэньня гадоўлі авечак. Такім чынам застаецца толькі пытаньне, ці магчыма, і калі магчыма, дык да якое граніцы пашырэньне. гадоўлі быдла на базе тае пашы, саломы і сена, што засталіся пасьля задавальненьня патрэбаў конегадоўлі і аўчарства, а таксама выкарыстоўваньне дадатковых харчоў, як бульба, збожжа, у сувязі з чым мяняецца і самы характар гадоўлі быдла. І, нарэшце, застаецца яшчэ даць адказ, ці магчыма, і да якое граніцы, пашырэньне сьвінагадоўлі і птушніцтва на базе рэшты бульбы, пасьля задавальненьня патрэбаў папярэдніх галін жывёлагадоўлі і шляхам выкарыстоўваньня канцэнтраваных харчоў, як уласных, гэтак і куплёных. Такім чынам, паколькі памеры і характар конегадоўлі і аўчарства дадзены, пастолькі дадзена разьмеркаваньне пашы, саломы і сена паміж гэтых галін жывёлагадоўлі і гадоўляй быдла, а гэтым самым, у сваю чаргу, ужо да некаторай ступені дадзены памеры выкарыстоўваньня гэтымі трыма галінамі жывёлагадоўлі і наступнага, у дадзеных умовах нярынкавага, прадукту—бульбы, бо бульба ўжываецца ў мінімальных колькасьцях, як дадатковы харч дзеля аздабленьня саломы і мякіны, якія ідуць на харч коням, быдлу і авечкам. А рэшта бульбы зьяўляецца асноўнай базай дзеля сьвінагадоўлі.

Далей мы пабачым, што зьмена гэтае базы, у сувязі з ваганьнем збораў бульбы, зьяўляецца адным з галоўных фактараў, якія вызна-

чаюць паштогоднія зьмены памераў рынкавае сьвінагадоўлі на Беларусі. Апрача таго, паколькі мы з прадуктаў земляробства, у дадзеных умовах, рынкавым прызналі толькі збожжа, значыцца, зьмену агульнага аб'ёму жывёлагадоўлі паставілі ў сувязь толькі з мажлівасьцямі выкарыстоўваньня збожжа або падобных прадуктаў, як уласных гэтак і купленых, паколькі галіною жывёлагадоўлі з найбольш рухавым аб'ёмам аказваецца сьвінагадоўля. Гэтым самым мы прыходзім да вываду, што пашырэньне харчовага базісу, а праз гэтае і агульнага аб'ёму жывёлагадоўлі,—ці шляхам зьмяншэньня продажу ўласных канцэнтраваных харчоў, ці куплі іх,—неабходна ў першую чаргу паставіць у сувязь з суадносінамі цэнаў на прадукты сьвінагадоўлі і канцэнтраваныя харчы. Сьвінагадоўля найбольш рынкавая галіна жывёлагадоўлі аказваецца нібы кіраўнічаю галінаю ў адносінах выкрыстоўваньня рынкавых каньюнктур.

Пасьля гэтых агульных заўваг пяройдзем да лічбавое характарыстыкі організацыі жывёлагадоўлі. Пачнем з гадоўлі коняй. У сярэднім на кожную з абсьледваных гаспадарак даводзіцца двое рабочых коняй. На кожнага рабочага каня даводзіцца прыблізна 3¼ гэкт. ральлі. Сярэдняя цана рабочага каня, каля 200 руб. штука, паказвае на іхнюю параўнальна высокую якасьць. У пяці з абсьледваных гаспадарак быў маладняк ва ўзросьце ад году да рабочага ўзросту, у 2-х жарабяты ва ўзросьце да году. На рабочага каня выпадае толькі сто рабочых дзён на год. Асабліва невыкарыстоўваюцца рабочыя коні ў першых трох гаспадарках з хутарскім землякарыстаньнем, у якіх на рабочага каня даводзіцца каля 50 раб. дзён працы ў гаспадарцы.

Гаспадаркі, відавочна, перагружаны цягавою сілай. Гэта—няўхільнае ліха дробных сельска-гасп. прадпрыёмстваў. Апрача таго, колькасьць і якасьць коняй неабходна паставіць у сувязь з наступнымі акалічнасьцямі. Па-першае, характар прыродных умоў—вязкія глебы, невылазныя дарогі прад'яўляюць вялікія запатрабаваньні як да колькасьці, гэтак асабліва да якасьці коняй. Пры наяўнасьці вялікіх селішчаў, гэты момант узмацняецца дальназямельлем, якое завастрае патрэбу ў цягавай сіле ў крытычныя моманты. Немалаважную ролю грае і тая акалічнасьць, што чым прагрэсыўней гаспадарка і гаспадары, тым вышэй у іх запатрабаваньне на добрага каня дзеля негаспадарчага карыстаньня. (Тое, што Маршалл называў імкненьнем да соцыяльнае адзнакі). Вядома, толькі наяўнасьць адпаведных харчоў—значных запасаў збожжа, галоўным чынам аўсу, дае магчымасьць рэалізаваць гэтыя запатрабаваньні на добрага каня. Сапраўды, у сярэднім гаспадарка за год скармлівае коням 6 цэнтнэраў аўсу, больш як 3 цэнтнэры мукі і высевак, каля 8 цэнт. бульбы, 25 цэнт. канюшыннага сена, 35—лугавога, 5—яравое саломы і 10—зімовае. На падсьціл—20 цэнтнэраў саломы. Ацаніўшы па рынкавых цэнах, гэтыя харчы і падсьціл каштаваць-муць каля 400 рублёў, так што на аднаго рабочага каня даводзіцца каля 200 рублёў, або па 2 рублі за працоўны дзень. Каля двух рублёў будзе і рынкавая расцэнка для рабочага каня. Па гэтай цане была зроблена ацэнка выдаткаў цягавае сілы. Такія вялікія выдаткі харчоў тлумачацца тым, што, з-за недахопу пашы, коняй амаль што цэлы год трымаюць у стайні. Пры няпоўным выкарыстоўваньні коняй, іхняе ўтрыманьне можа быць зроблена таньнейшым за лік гадоўлі завадзкога маладняку, што шырака практыкуецца ў Случчыне. З тае прычыны, што гадоўля маладняку мае сэнс толькі пры ўмове высокае якасьці яго, якасьць коняй і гадаваньне маладняку ўзаемна зьвязаны паміж сабою. Карыснасьць-жа гадаваньня завадзкога маладняку паказвае просты разьлік. 50—100 дзён працы ў гаспадарцы мо-

гуць быць выкананы на дужай кабыліцы, нават калі яна мае сасунажарабка. Патрэбен будзе толькі невялікі наклад на ўзмацненьне харчоў маткі і на падкармліваньне жарабяці. Увосень-жа 6—7 месячнае завадзкое жарабя можа цаніцца ў 50—100 рублёў. Вядома, гадоўля завадзкіх коняй, як і ўсялякае іншае завадзкое жывёлы, прад'яўляе вялікія запатрабаваньні да якасьці гаспадароў. Тутака асабліва неабходны з боку гаспадара і ўвага і веды. Перад вайною Случчына зьяўлялася адным з раёнаў Беларусі, дзе была дужа разьвіта гадоўля завадзкіх коняй. І ў сучасны момант таксама ёсьць мажлівасьць разьвіцьця гэтае галіны.

У сярэднім на кожную з абсьледваных гаспадарак даводзіцца 4 дарослых авечак і 4 ягнят. Авечкі простага мясцовага гатунку расцэньваюцца гспадаркамі ў 4-5 рублёў кожная. На авечак гаспадарка траціла прыблізна 15 цэнт. сена, 4,5 цэнт. саломы і 1,5 цэнт. бульбы. Некаторымі гаспадаркамі, асабліва з хутарскім землякарыстаньнем, практыкуецца аддача авечак на летнюю пашу ў іншыя гаспадаркі [1]), што дае мажлівасьць зрабіць ацэнку летняга ўтрыманьня авечак без складаных і ўмоўных вылічэньняў кошту карыстаньня пашаю. Гэтак, першая гаспадарка за здадзеных на летнюю пашу ў другую вёску 5 штук авечак заплаціла 10 рублёў, г. зн. па два рублі за кожную. Другая гаспадарка заплаціла па 2,5 пуды жыта за дарослую авечку і паўпуда за ягня,—усяго за 4 дарослых авечак і 3 ягнят—11,5 пуда. Трэцяя гаспадарка, за 4 авечак і 4 ягнят, заплаціла 14 пудоў жыта. Такім чынам, можна прыняць кошт летняга ўтрыманьня 4 авечак і 4 ягнят прыблізна 15 рублёў. Разам з зімовымі харчамі, ацэненымі па рынкавых цэнах, утрыманьне авечак каштуе гаспадарцы, у сярэднім, каля 80 руб. у год. Прыбытак-жа гаспадаркі ад аўчарства складае ўсяго каля 50 рублёў. Нібыта галіна відавочна стратная, а між тым яна ўпорліва трымаецца ў гаспадарцы. Гэта зьяўляецца лепшай ілюстрацыяй таго, што бухгальтэрскі разрахунак рэнтабельнасьці пасобных галінаў ёсьць фікцыя, нават калі ён грунтуецца амаль цалкам на рынкавых цэнах. Відавочна, што гаспадары цэняць харчы авечак ніжэй рынкавых цэнаў на гэтыя прадукты, а прадукты аўчарства вышэй. Ва ўсякім разе, аўчарства ў гэтым раёне наўрад ці можа мець пэрспэктывы дзеля разьвіцьця. Яго мінімальныя памеры могуць трымацца, галоўным чынам, дзеля задавальненьня спажывецкіх патрэб гаспадаркі і дзеля выкарыстоўваньня абсолютна авечае пашы. Характэрна, што памеры аўчарства ва ўсіх абсьледаваных гаспадарках амаль адны і тыя самыя—4 авечак і 4 ягнят.

Астача сена і саломы, пасьля задавальненьня конегадоўлі і аўчарства, зьяўляецца аднэю з галоўных умоў, якія вызначаюць аб'ём гадоўлі быдла. Аб'ём гэты даволі значны. У сярэднім на кожную з абсьледаваных гаспадарак даводзіцца 2,5 каровы і каля 2-х галоў маладняку. Падобная ўдзельная вага кароў у статку паказвае ўжо на малочны напрамак гадоўлі быдла. Ацэнка кароў у першых дзевяці гаспадарках 70—80 рублёў за штуку. І толькі дзьве апошнія гаспадаркі, зьмешчаныя далёка ад Слуцку, паказваюць значна меншую расцэнку—30—45 рублёў. Зьвішча, вярней за ўсё, не выпадковае, а зьвязанае з характарам і значэньнем у гаспадарцы гадоўлі быдла.

Я ўжо зазначаў, што бліжэйшы этап у разьвіцьці сельскае гаспадаркі гэтага раёну зьвязан з організацыяй летняга кармленьня і рэ-

[1]) Эрэбо, зазначаючы, што ў Нямеччыне шырока распаўсюджана аддача авечак на летнюю пашу ў іншыя гаспадаркі і карыстаньне пашаю паасобнымі гаспадаркамі па чарзе, падкрэсьлівае гэтым уменьне гаспадароў лоўка прыстасоўвацца ў організацыі гаспадаркі да вакольных умоў.

організацыяй гадоўлі быдла ў інтэнсыўна-малочным напрамку, і што паасобныя з абсьледаваных гаспадарак у рознай ступені пасоўваюцца ў гэтай рэорганізацыі. Менавіта, далей усіх пайшлі гаспадаркі, распаложаныя бліжэй ад Слуцку, з іх—з хутарскім землякарыстаньнем. Найбольш-жа адсталымі ў гэтых адносінах зьяўляюцца гаспадаркі №№ 10—11, распаложаныя далёка ад Слуцку і з падворнацераспалосным землякарыстаньнем. Гаспадаркі №№ 6, 7, 8, 9, дзякуючы таму, што ў іхняй вёсцы ёсьць малочная арцель, займаюць нібы прамежнае становішча. Розны характар організацыі малочнае гаспадаркі адбіўся ў організацыі кармленьня, ў памерах малочнае прадукцыі і яе рынкавасьці. Да лічбавое характарыстыкі гэтых момантаў я зараз і перайду.

Перш за ўсё паглядзімо організацыю летняга кармленьня, бо звычайна на лета выпадае большая частка лактацыйнага пэрыяду. Першыя тры гаспадаркі паказалі, што іхняе быдла, прыблізна з траўню да кастрычніку, пасецца на пашы, і з тае прычыны, што паша на хутары добрая, каровы ўлетку зусім не падкармліваюцца. Наступныя дзьве гаспадаркі, якія знаходзяцца ў вёсцы і распаложаны побач з першымі гаспадаркамі, падкармліваюць кароў і ўлетку. З вясны ідзе рэзаная салома з бульбаю і высеўкамі, улетку—зялёная трава, бацьвіньне, а ўвосень ізноў салома з бульбаю, гарбузом, часткова сенам. Таксама і гаспадаркі №№ 6 і 7. У іншых гаспадарках падкармліваньне кароў улетку ня мае сыстэматычнага характару.

Ёсьць розьніца і ў зьмесьце зімовых дачаў. Першыя пяць гаспадарак характарызуюцца вялікімі дачамі сена (успамянем, што яны маюць і большы процант канюшыны) і канцэнтраваных харчоў (яны-ж больш купляюць і высевак). Для наступных чатырох гаспадарак, наадварот, характэрны самыя малыя дачы сена і вялікія дачы бульбы. У апошніх дзьвюх гаспадарках, распаложаных далёка ад Слуцку, ў харчовых дачах каровам пераважаюць яравая салома і сена.

У сярэднім гаспадарка траціла на ўтрыманьне быдла прыблізна саломы зімовае (разам з падсьцілам) 23 цэнт., мукі і высевак 3 цэнт., бульбы каля 24 цэнт. і каля цэнтнэру макухі. Па рынкавым цэнам, разам з малаком для цялят, гэта складае прыблізна 380 рублёў. Агульны-ж прыбытак, калі ацэньваць прадукцыю малака таксама па цэнах ЦСУ, а гной па 5 кап. за пуд, будзе каля 650 рублёў. Але калі ацэньваць прадукцыю малака па цэнах, па якіх некаторыя гаспадаркі аддавалі яго ў малочную арцель, г. зн. па сем капеяк за літр, а расцэнкі харчоў і гною пакінуць ранейшыя, дык агульны прыбытак ад быдла прыблізна будзе раўняцца кошту яго ўтрыманьня, ня лічачы аплаты працы па догляду, кошту карыстаньня пашаю, адным словам, выходзіць нібыта быдла дае яўную страту. Ізноў-жа, як і ў адносінах аўчарства і больш старанна вылічанае сальдо наўрад ці здолее даць верную ацэнку становішча гадоўлі быдла ў гаспадарцы і магчымасьці яе разьвіцьця, калі не імкнуцца назнарок падагнаць гэтае сальдо да жаданых вынікаў.

Ва ўмовах Случчыны, у адносінах мякіны, саломы, сена і нават бульбы, наўрад ці можа гаспадарка ставіць пытаньне—продаць іх або скарміць жывёле. Па сутнасьці яны тутака не зьяўляюцца рынкавымі прадуктамі, якія вызначаюць аб'ём жывёлагадоўлі. Пытаньне можа стаяць толькі аб мэтазгодным разьмеркаваньні гэтых харчоў паміж паасобнымі відамі жывёлаў. Паколькі-ж аб'ёмы конегадоўлі і аўчарства вызначаны, рэшта сена, саломы, мякіны і пашы, пасьля задавальненьня гэтых галінаў жывёлагадоўлі, вызначае мінімальны

аб'ём гадоўлі быдла. Значыцца, трэба вызначыць толькі мажлівасьці далейшага разьвіцьця гэтае галіны. Пры чым, гутарка можа ісьці хутчэй не аб пашырэньні аб'ёму гадоўлі быдла, а аб яе рэарганізацыі ў напрамку ўздыму інтэнсыўнасьці. Канкрэтней гэта ўводзіцца да рэарганізацыі кармленьня і арганізацыі збыту малочных прадуктаў.

Пры чым, арганізацыю збыту неабходна паставаціь на першым месцы, бо ўдоі малака досыць вялікія—каля 1500 літраў за год. Ізноў-жа, большыя ўдоі паказваюць першыя гаспадаркі. Наогул-жа, парўнаньна вялікія ўдоі знаходзяцца ў сувязі з тым, што каровы ў большасьці мэтысы чужаземных палепшаных гатункаў. Мажлівасьць збыту малочных прадуктаў дасьць стымулы да рэарганізацыі кармленьня шляхам большага выкарыстоўваньня канцэнтраваных харчоў. Характэрна, што купля высевак і макухі рабілася гаспадаркамі, якія збывалі малочных прадуктаў больш, чымся іншыя. З другога боку, рэарганізацыя кармленьня існуючае шляхам арганізацыі пашы і летняга падкармліваньня, значыцца—па шляху сяўбы траў. Мажлівасьці-ж рэарганізацыі земляробства ў паказаным напрамку ўжо аналізаваліся.

У сярэднім, адна гаспадарка прадала малочных прадуктаў на 33,6 рубля, пры чым, гаспадаркі блізкія ад Слуцку—№№ 1, 2, 3, 4, 5—на 33,6 рубля, гаспадаркі №№ 6, 7, 8, 9 (у вёсцы ёсьць малочная арцель)—на 50,6 рубля; а гаспадаркі—№№ 10, 11 (распалажаныя далёка ад Слуцку) ня продалі нічога.

З рэарганізацыяю малочнае гаспадаркі павінна быць шчыльна зьвязана рэарганізацыя сьвінагадоўлі, да характарыстыкі каторай я зараз і перайду. Эрэбо зазначае, што сельска-гаспадарчая сьвінагадоўля ў сваім разьвіцьці праходзіць розныя ступені, разам са зьменаю агульнае інтэнсыўнасьці гаспадаркі. На ніжэйшай ступені разьвіцьця мы маем напоўдзікую, экстэнсыўную, леса-пашавую сьвінагадоўлю. Сьвінагадоўля дае пераважна худое мясо, дзякуючы чаму з ім можа канкураваць экстэнсыўная гадоўля быдла. «Чым ніжэй ступень разьвіцьця, тым даражэй тлустасьць, у параўнаньні з худым мясам» (Эрэбо). На наступнай ступені, сьвінагадоўля зьяўляецца, галоўным чынам, вытворцай тлустасьці, базіруючыся ўсё больш і больш на харчох гаспадаркі, пераважна на корань-клубняплодах, бо апошнія зьяўляюцца лепшымі харчамі для сьвіней, таму што ў іх адзінка пажыўнае матэрыі мала нагружана баластам, значыцца, яе лягчэй за ўсёператравіць, што важна для сьвіней, якія маюць кароткі страўны канал [1]). Апрача таго, сьвіньня, як ніводная іншая жывёла, здольна ператвараць крухмаль у тлустасьць. З гэтай прычыны «гадоўля

---

[1]) Цікава, што на маё пытаньне, чаму-б адкармліваньне сьвінеі не базіраваць на буракох (перад гэтым адзін аграном, які пабываў ў Даніі, казаў мне, што сельская гаспадарка Беларусі пойдзе па шляху дацкае і што бульба ўсё больш і больш будзе выціскацца кармовымі буракамі),—гаспадар аднае з абсьледваных мною гаспадарак нібыта проста працытаваў Эрэбо. Ён сказаў, што ў сьвіньні невялікі жывот і кішкі, з гэтай прычыны, каб пры адкармліваньні яна магла ўправіцца з вялікаю колькасьцю харчоў, апошнія павінны быць добра згатоўленымі, лепш за ўсё варанымі. Буракі-ж варацца надзвычайна доўга. Іх літаральна траба варыць паўсутак. Так, што, калі пачаць варыць сьвіньням заместа бульбы буракі, дык іншую працу ў гаспадарцы ня было-б калі рабіць, ня кажучы ўжо аб дровах. Для кароў-жа якраз сырыя буракі лепш за сырую бульбу. Я прывёў гэтую дэталь, як прыклад таго, што часта дасьледчык вылічвае канкурэтную здольнасьць паасобных культур па сабекошту і атрымлівае вывады, якія па нейкай „незразумелай" прычыне не пагаджаюцца з практыкай. „Незразумелымі" і могуць быць падобнага роду дэталі.

корань-клубняплодаў зьяўляецца асновай кожнае больш інтэнсыўнае сьвінагадоўлі» (Эрэбо). Яшчэ на больш высокай ступені разьвіцьця сальная сьвінагадоўля ізноў выпінаецца мясною, якая ўсё больш і больш базіруецца на збожавых харчох і адкідках малочнае гаспадаркі.

Я ўжо зазначаў, што ў Случчыне, пад уплывам войстрае зьмены глебавых умоў, на невялікім абшары можна прасачыць зьмену гаспадарчых формаў ад самых экстэнсіўных (Палесьсе) да высока-інтэнсіўных (каля Слуцку); мы маем тутака і ўсе ступені ў разьвіцьці сьвінагадоўлі ад напоўдзікае, лесапашавае, сьвінагадоўлі Палесься да высока-інтэнсыўнае сьвінагадоўлі Случчыны, якая базіруецца амаль выключна на куплёных харчох.

Тып сьвінагадоўлі абсьледаванага раёну, які дае асноўную масу рынкавых прадуктаў сьвінагадоўлі, бліжэй за ўсё стаіць да другое ступені ў разьвіцьці або зоне, якую Эрэбо характарызуе наступным чынам: «Забойныя сьвіньні ва ўзросьце ад 11 да 15 месяцаў, дзеля прыгатаваньня лепшых гатункаў мясных тавараў, якія доўга захоўваюцца. Да адкармліваньня часовае ўтрыманьне на выгоне» (Aereboe—Allg. Betriebslehr, стар. 397).

Да пачатку году, у сярэднім на кожную з абсьледаваных гаспадарак прыходзілася трое дарослых сьвіней, двое падсьвінкаў і 4 парасят. Каштуюць яны ўсе, па ацэнцы гаспадароў, прыблізна 150 рублёў. Дарослая надворная сьвіньня ацэньваецца ў 30—40 рублёў. Расцэнка вялікая, якая паказвае на высокую якасьць сьвіней. Гатунак сьвіней— мэтысы белае ангельскае сьвіньні [1]). Умовы ўтрыманьня іх наступныя: сьвіныя хлявы цесныя, цёмныя, брудныя, вільготныя. У сувязі з гэтым вельмі частыя эпізоотычныя хваробы сьвіней, асабліва парасят. Памёт дапасоўваецца, у пераважнасьці, да вясны. Каля трох тыдняў парасятам пад маткай не даюць нічога. Пасьля іх пачынаюць падкармліваць, спачатку малаком (паўлітра на парася ў дзень) з невялічкай дабаўкай (0,5—1 хунт) бульбы і мукі. Пасьля пачынаюць дабаўляць збожжа—ячмень або авёс. Надворныя сьвіньні або падсьвінакі ў некаторых гаспадарках улетку пасуцца і падкармліваюцца зелянінай з дабаўкаю бульбы і мукі. Узімку іхнімі харчамі зьяўляюцца мякіна, бульба і мука. Дачы вельмі моцна вагаюцца. Прыблізна можна лічыць, што ў суткі дарослай надворнай сьвіньні даюць—5 хунтаў мякіны, або рэзкі з саломы, 10—15 хунт. бульбы і 1—1,5 хут. мукі. Падсьвінакам даюць прыблізна ў два разы менш. Паросным, заводзкім маткам даюць больш.

Выкармліваць пачынаюць часьцей за ўсё ва ўзросьце 12—15 месяцаў, зрэдка ў меншым узросьце, але з другога боку выкармліваюць матак ва ўзросьце некалькіх гадоў. Пэрыяд выкармліваньня цягнецца каля трох—чатырох месяцаў. Пры выкармліваньні вельмі важна, каб у сьвіньні быў апэтыт. У сувязі з гэтым, вельмі вагаецца пэрыяд выкармліваньня і колькасьць спажытых харчоў, значыцца, кошт жывое вагі сьвіньні. Выкармліваньне часьцей за ўсё пачынаецца ў канцы жніўня, калі ўжо гаспадарка мае адкідкі гародніны і садавіны, сьвежую бульбу, гарбузы. Спачатку даюць сьвіньні шмат гародніны ў

[1]) Адзін селянін з Казловіцкага сельсавету апавядаў мне, што ён мае завадзкога кныра і займаецца гадоўляй завадзкіх парасят, як ён называў круглакапытнае (аднокапытнае) пароды. На маё пытаньне, у чым перавага гэтых сьвіней, ён адказаў, што ў іх, па-першае, лепшая форма цела, круглейшая, а па-другое яны, дзякуючы круглакапытнасьці (аднокапытнасьці), куды менш рухавыя, што важна пры адкармліваньні, асабліва-ж пры пасьбе ня ў статку, а на хутары або ў загародцы, бо простую сьвіньню ніякая агарожа не затрымае. Гэты самы селянін апавядаў шмат цікавага аб выпадках атавізму пры гадоўлі сьвіней.

сырым выглядзе, часьцей за ўсё гарбузоў. Робяць гэтак, па думцы сялян, дзеля таго, каб разьвіць у сьвіньні апэтыт. Пасьля пераходзяць да цеста з варанае бульбы і мукі. Спачатку сутачная дача складаецца прыблізна з 30—40 хунт. бульбы і 4—5 хунт. мукі. Пасьля аб'ём дачы некалькі памяншаюць за лік бульбы, але затое, даюць больш мукі. Бульбы пачынаюць даваць каля 20—30 хунт., а мукі каля 8—10 хунт. Робяць гэтак таму, што к канцу выкармліваньня кормнік пачынае есьці менш і робіцца больш пераборлівым да харчоў. Пры чым, гаспадары кажуць, што калі кормніку некалькі дзён падрад даць у кармовым рацыёне больш мукі, то пасьля ён не захоча есьці дачы з меншаю колькасьцю мукі. Аказваецца, што звычайнае ўяўленьне аб сьвіньні, як аб жывёле, якая не надта перабірае харчы, зьяўляецца не зусім верным.

У бюджэтным годзе ўсе абсьледаваныя гаспадаркі выкармілі 48 цэнтнэраў жывое вагі сьвіней, патраціўшы на гэта 795 цэнт. бульбы і 138 цэнт. мукі. Такім чынам, на выкармліваньне аднаго цэнт. жывое вагі сьвіной пайшло прыблізна 16 цэнт. бульбы і 3 цэнт. мукі. (Норма некалькі большая за тэорэтычную—1 цэнт. жывое вагі сьвіной роўніцца 5 цэнт. ячменю, роўніцца 20 цэнт. бульбы). Паасобныя гатункі мукі ўваходзілі ў наступнай прапорцыі—жытняя 32,4 проц., аўсяная 38,9 проц., ячная 15,2 і высеўкі 13,5 проц. Шляхам узважваньня на паказаныя колькасьці цэнаў бульбы і розных відаў збожжа атрымліваецца цана харчовае адзінкі, суадношаньне, якое з цэной цэнтнэра жывое вагі сьвіньні павінна вызначаць аб'ём рынкавае сьвінагадоўлі, бо ўдзельная вага гэтых харчоў зьяўляецца вырашальнаю ў вытворчых выдатках на прадукты сьвінагадоўлі.

Пры ацэнцы бульбы, мякіны і саломы па рынкавых цэнах, як гэта зроблена ў бюджэтах, сьвінагадоўля выходзіць відавочна стратнаю галіною. Было-б рацыянальней прадаць за такую цану гэтыя харчы, чымся скармліваць іх сьвіньням, тым больш, што сьвіны гной ня мае істотнага значэньня. Сапраўды, калі-б гаспадарка мела магчымасьць прадаць сваю бульбу за такую цану, як мы цанілі яе ў бюджэце, дык наўрад ці стала-б яна скармліваць яе сьвіньням. Але справа ў тым, што гаспадарка гэтага зрабіць ня можа. Па сутнасьці ў дадзеных умовах бульба зьяўляецца ў большасьці нярынкавым прадуктам. Эрэбо лічыць, што «асноўнае пытаньне аб прыбытковасьці сьвінагадоўлі можна рэзюмаваць наступным чынам: якую частку бульбы трэба дабавіць да абсолютнага сьвіного харчу і як у адпаведнасьці з гэтым вызначыць памеры сьвінагадоўлі і якую частку бульбы трэба пакінуць на непасрэдны продаж»[1]).

У дадзеных умовах, паколькі непасрэдны продаж бульбы ў колькі-небудзь значнай колькасьці выключаецца, запасы бульбы зьяўляюцца аднэй з галоўных умоў, якія вызначаюць аб'ём сьвінагадоўлі, па меншай меры мінімальную граніцу гэтага аб'ёму, хаця, з другога боку, цэна прадуктаў сьвінагадоўлі, будзе момантам, які вызначае памеры прадукцыі бульбы. Паколькі-ж запасы бульбы, як сьвіного харчу, дадзены, максімальная граніца аб'ёму сьвінагадоўлі будзе вызначацца суадносінамі цэнаў на збожжа і прадукты сьвінагадоўлі. Палажэньне, якое формуляваў Эрэбо ў вадносінах бульбы тутака поўнасьцю можна дапасаваць і да збожжа. Крыху далей, пры аналізе дынамікі рынкавае сьвінагадоўлі ў Случчыне, мы пабачым наколькі суадношаньне цэнаў на збожжа і прадукты сьвінагадоўлі спрыяе разьвіцьцю апошняе.

[1]) Ф. Эрэбо.—Основы с.-х. экономики—стар. 145.

Цяпер-жа неабходна коратка спыніцца на магчымасьцях рэалізацыі сьвінагадоўлі, у сувязі з агульнаю рэорганізацыяй гаспадаркі. Мы бачылі, што бліжэйшым этапам у разьвіцьці с.-г. дадзенага раёну будзе рэорганізацыя яе ў напрамку да плодазьмену. Значыцца, ёсьць магчымасьць пашырэньня культур бульбы і траў, а таксама рэорганізацыі гадоўлі быдла ў бок разьвіцьця інтэнсыўнае малочнае гаспадаркі. А раз гэта так, то, значыцца, ёсьць таксама магчымасьць пашырэньня аб'ёму сьвінагадоўлі за лік павялічэньня запасу бульбы, а з другога боку, ствараюцца перадумовы дзеля інтэнсіфікацыі сьвінагадоўлі. На базе значных запасаў уласнага збожжа, часткова дакупляючы канцэнтраваныя харчы, а таксама выкарыстоўваючы адкідкі малочнае гаспадаркі, сьвінагадоўля Случчыны будзе рэорганізоўвацца ў напрамку вытворчасьці больш каштоўных прадуктаў сьвінагадоўлі (мясное выкармліваньне і гадоўля парасят, як на завод, гэтак і на забой).

Я прапускаю характарыстыку птушніцтва, бо ўдзельная вага гэтай галіны ў абсьледаваных гаспадарках зьяўляецца нязначнаю.

Капіталы ў жывёле к пачатку году, у сярэднім на кожную з абсьледаваных гаспадарак складалі 833 рублі. З іх коні займалі прыблізна 50 проц., быдла—25 проц., сьвіньні—18 проц., авечкі—3 проц. і птушкі—1 проц.

У агульнай каштоўнасьці капіталаў к пачатку году (2567 руб.) жывёла складала 32,5 проц., гаспадарчыя будынкі—29,3 проц., інвэнтар—13,1 проц., з іх прыблізна шостая частка прыпадае на долю вялікіх машын (малатарка, веялка, сячкарня). У сувязі з паказаным тыпам кармленьня, амаль у кожнай гаспадарцы ёсьць сячкарня. Нарэшце, запасы ў агульнай каштоўнасьці капіталаў к пачатку году складаюць каля 25 проц. Пры чым грошы складалі 18 проц. ад агульнай каштоўнасьці запасаў к пачатку году, г. зн. у сярэднім, на кожную з абсьледаваных гаспадарак даводзілася к пачатку году 120 рубл. гатоўкай. На адзін гэктар с. г. плошчы даводзіцца, прыблізна, 250 руб., на аднаго працаўніка—600 руб. Такім чынам мы бачым вялікую капіталазабясьпечанасьць гаспадарак. Ізноў-жа і ў гэтых адносінах на першым месцы стаяць хутарскія гаспадаркі.

Пры перадумове рацыянальнага выкарыстоўваньня капіталаў, большая іхняя нагрузка на адзінку с/г плошчы паказвае на вялікую капітала-інтэнсіўнасьць гаспадаркі. Ужо зазначалася, што няўхільным ліхам дробных с/г прадпрыёмстваў зьяўляецца невыстарчальна поўнае выкарыстоўваньне цягавае сілы. Часткова гэта мае месца і ў адносінах выкарыстоўваньня буйнага с/г інвэнтару (малатарня). Наяўнасьць значных запасаў с/г прадуктаў к пачатку году няўхільна, паколькі гаспадаркі ў значнай меры перайшлі на стойлавае ўтрыманьне жывёлы ўлетку. Гаспадарчыя будынкі пры іхняй даволі высокай якасьці (за выключэньнем сьвінарнікаў) займаюць мінімальныя памеры. Такім чынам, наогул трэба прызнаць выкарыстоўваньне капіталаў даволі рацыянальным, а гэтым самым і вялікую капітала-інтэнсіўнасьць гаспадарак. Некаторае пацьвярджэньне гэтаму мы бачылі таксама пры аналізе спосабаў апрацоўкі і выкарыстоўваньня ральлі, пры аналізе кармленьня жывёлы.

Такім чынам, наўрад ці можна лічыць, пры дадзеным суадносіньні цэнаў на с/г прадукты і сродкі іхняе вытворчасьці, калі індэкс цэнаў на апошнія ў параўнаньні з даваеннымі амаль у два разы вышэй індэксу цэнаў с/г прадуктаў,—што абсьледаваныя гаспадаркі невыстарчальна капітала-інтэнсіўныя.

Тое самае даводзіцца сказаць і ў адносінах працаінтэнсіўнасьці. У сярэднім кожнай з абсьледаваных гаспадарак даводзіццца патраціць на гаспадарку (без домаводзтва) 830 дзесяці-гадзінных працоўных дзён, у пераводзе на дарослага мужчыну, з іх крыху болей палавіны (455 дзён) даводзіцца на долю жывёлагадоўлі. Гэта паказвае на тое, што праца сям'і даволі поўна выкарыстоўваецца і ў зімовы пэрыяд. Пры характарыстыцы сям'і я паказваў, што ў сярэднім на гаспадарку даводзіцца 4 працаўнікоў, у пераводзе на дарослага мужчыну, з якіх прыблізна адзін дарослы працаўнік не знаходзіцца ў гаспадарцы (у Чырвонай арміі, на службе, вучыцца). Значыцца, на аднага працаўніка, які фактычна знаходзіцца ў гаспадарцы, даводзіцца на год каля 280 дзён працы ў гаспадарцы (за выключэньнем дамаводзтва). Нагрузка даволі вялікая. Павялічэньне-ж магчымасьцяй працаінтэнсіўнасьці за лік найму рабочае сілы ў сучасных прававых умовах фактычна абмежавана, бо наём гаспадаркаю рабочае сілы звычайна зьвязан з залічэньнем гэтае гаспадаркі ў кулацкія, з усімі вынікамі, якія выцякаюць адгэтуль. Апрача найму рабочае сілы, земляўпарадкаваньне, якое зьнішчае дальназямельле і цераспалосіцы, можа павялічыць магчымасьці рацыянальнае працаінтэнсіўнасьці, а гэтым самым укосна і агульнае працаінтэнсіўнасьці гаспадаркі.

Далей таксама неабходна коратка спыніцца на іншых падрахункавых характарыстыках гаспадарак. Гэта будзе характарыстыка вынікаў гаспадараньня (прыбытковасьці, капітала-намнажэньня і рынкавасьці). Агульная прадукцыя земляробства ў сярэднім складае на гаспадарку 1403 рублі, так што на гэктар с/г плошчы даводзіцца прыблізна 125 руб. І ў гэтых адносінах на першым месце стаяць хутарскія гаспадаркі, якія маюць, як ужо зазначалася, большую ўраджайнасьць. З агульнае прадукцыі земляробства на долю прадуктаў садоўніцтва і гародніцтва даводзіцца 2,0 проц., на долю лугавых прадуктаў—20,0 проц., рэшта—78,0 проц.—прадукты ральніцтва. З іх бульба ў агульнай прадукцыі ральніцтва займае 27,4 проц., жыта—22,2 проц., авёс—22,3 проц., канюшына—14,6 проц. Удзельная вага паасобных прадуктаў у вагульнай прадукцыі крыху іншая, чымся па суадносінах у засяўной плошчы.

Агульная прадукцыя жывёлагадоўлі (уключаючы дні працы коняй на гаспадарку) трохі большая за агульную прадукцыю земляробства, складаючы ў сярэднім на гаспадрку—1485 руб. З іх на долю конегадоўлі (уключаючы аплату цягавае сілы ў гаспадарцы) даводзіцца 35,0 проц., быдла—43,7 проц., сьвінагадоўлі—17,3 проц., аўчарства—3,0 проц. і птушніцтва 1,0 проц. У параўнаньні з каштоўнасьцю жывёлы, зьмяніліся суадносіны паміж конегадоўляй і гадоўляй быдла.

Дадаўшы да агульнае прадукцыі земляробства і жывёлагадоўлі заробак па-за межамі свайго с/г прадпрыемства і адняўшы ад атрыманае сумы выдаткі на насеньне і ўгнаеньне, харчы, амортызацыю і аплату нанятых рабочых, аплату гаспадарчых паслуг людзей, машын, прыладаў, жывёлы; арэндныя плацяжы, страхоўку і падатак (між іншым памер падатку нязначны, складае каля 15 рублёў на гаспадарку), мы атрымаем рэшту, якая правільней за ўсё можа быць названа заробкам сям'і. У сярэднім на гаспадарку яна складае 1384 рублі. Асабліва дзівіцца з гэтае вялікае лічбы няма падставы, таму што агульная прадукцыя ацэньвалася па рынкавых цэнах, напрыклад, літр малака 11—12—13 кап. З гэтае сумы частка намнажаецца, а рэшта перадаецца на хатнія патрэбы. Апошняя спажываецца не абавязкова ўся. Могуць быць выпадковыя выдаткі (напрыклад, пасаг). Наадва-

рот, у іншых гаспадарках могуць быць выпадковыя паступленьні такога-ж самага роду. Напрыклад, гаспадарка № 7 выдала дачцы 232 рублі пасагу, якія атрымала гаспадарка № 6. Значыцца, на агульным выніку з усіх гаспадарак гэта не адбілася.

Алгэбраічная сума зьменаў каштоўнасьці пад канец году, у параўнаньні з каштоўнасьцю ў пачатку году, гаспадарчых будынкаў, інвэнтару, жывёлы, запасаў—с/г прадуктаў, лясных матар'ялаў і грошай (уключаючы каштоўныя паперы, правы і абавязкі), з якое вылічваецца розьніца паміж выпадковымі паступленьнямі ў гаспадаркі і выпадковымі выпадкамі, а таксама і кошт прададзеных хатніх рэчаў (напрыклад, кажух), паказвае на памеры капіталанамнажэньня. У сярэднім капіталанамнажэньне складае на гаспадарку каля 70 руб. за год. Лічбу гэтую трэба лічыць хутчэй пераменшанай, чымся перавялічанай, таму што вярней за ўсё мела месца павялічэньне хатняй маёмасьці. Апрача таго, зьмяншэньне запасаў с/г прадуктаў, лясных матар'ялаў і грошай пад канец году, у параўнаньні з пачаткам году, часткова трэба аднесьці ў лік дэфэктаў падліку, таму што сяляне маюць нахіл больш за ўсё перамяншаць гэтыя лічбы. У адносінах-жа жывёлы, інвэнтару і будынкаў амаль усе абсьледаваныя гаспадаркі даюць значнае павялічэньне каштоўнасьці. Такім чынам, трэба прызнаць, што сялянскія гаспадаркі самым выразным чынам намнажаюць, а ня толькі «працуюць у меру спажываньня і спажываюць у меру таго, што зарабляюць уласнай працай»[1]).

Характарыстыка рынкавасьці выяўляе найбольшую цікавасьць з народна-гаспадарчага пункту гледжаньня, паказваючы ступень падзяленьня працы і спэцыялізацыю паасобных раёнаў і групаў гаспадарак унутры народнае гаспадаркі. У сярэднім абсьледаваная гаспадарка аддавала на рынак прадуктаў сельскае гаспадаркі прыблізна на суму 235 руб. Склад рынкавасьці (аддачы) наступны: прадукты земляробства—31,0 проц., з іх каля 15 проц. канюшыннае насеньне, авёс—6 проц., жыта—4,5 проц., прадукты жывёлагадоўлі—69 проц., 33 проц., г. зн. амаль што палавіна, прадукты сьвінагадоўлі, галоўным чынам, у выглядзе жывых сьвіней, 26 проц. прадукты гадоўлі быдла, якія на ⅔ складаюцца з дарослага жывога быдла і целят і на ⅓ з малочных прадуктаў. Такім чынам, удзельная вага прадуктаў сьвінагадоўлі, у агульнай рынкавасьці абсьледаваных гаспадарак, зьяўляецца вырашальнаю. Пацьвярджаецца гэтае і вывазам прадуктаў с/г са станц. Слуцка за 1925/26 г.[2]).

| | Кошт вывазу па мясцовых цэнах у руб. | у %% |
|---|---|---|
| Прадукты земляробства . . . | 685.280 | 35 |
| Жывёла і прадукты жывёлагадоўлі | 1.261.877 | 65 |
| У тым ліку жыв. сьвіньні . . . | 685.865 | 35 |
| Усяго . . . | 1.947.157 | 100 |

[1]) Гл. А. Челинцев—„Есть ли земельная рента в крестьянском хозяйстве", стар. 6.

[2]) Амаль поўнае супаданьне лічбаў, якія характарызуюць склад рынкавасьці сельскае гаспадаркі абсьледаванага раёну па бюджэтных дадзеных і дадзеных чыгуначнага вывазу, паказвае, што выраб гаспадарак з пункту гледжаньня асноўнага запатрабаваньня да іх у гэтым абсьледаваньні быў зроблен даволі ўдала.

З прадуктаў, якія купляюцца гаспадаркамі, неабходна падкрэсьліць высеўкі і макуху.

| Гаспадаркамі распаложанымі ад Слуцку на адлегласьці: | У сярэднім адна гаспадарка купляла высевак і макухі, пераважна высевак, на суму рубл. (па нашых бюджэтных дадзеных) |
|---|---|
| 5–8 вёрстаў | 36.1 |
| 20 „ | 15,8 |
| 35 „ | 00,0 |
| Сярэдн. | 22,1 |

На значэньне гэтага моманту я ўжо зазначаў.

# III. Характарыстыка і аналіз дынамікі рынкавае сьвінагадоўлі Беларусі.

## 1. Дынаміка сьвінагадоўлі з 1924 па 1928 г. і ўмовы рэалізацыі прадуктаў сьвінагадоўлі Случчыны.

Спынімся цяпер крыху падрабязьней на характарыстыцы рынкавасьці сьвінагадоўлі. Я ўжо зазначаў, што аб'ём рынкавае сьвінагадоўлі павінен вызначацца, галоўным чынам, суадносінамі цэнаў на харчы і прадукты сьвінагадоўлі. Дынаміка сьвінагадоўлі дае некаторае пацьвярджэньне правільнасьці гэтага дапушчэньня. Ўжо адзначалася, што Случчына ў рынкавых адносінах зьяўляецца амаль замкнёным раёнам. Дзякуючы гэтаму, у грузазвароце чыгуначнае станцыі Слуцку павінна даволі поўна адлюстравацца рынкавасьць с/г гэтага раёну. Гэтае меркаваньне зьяўляецца асабліва верным у адносінах дынамікі рынкавасьці прадуктаў сьвінагадоўлі, бо спажываньне гэтых прадуктаў мясцовым рынкам нязначнае і, ва ўсялякім выпадку, параўнальна ўстойлівае з году ў год. Апрача таго, толькі па дадзеных чыгункавых перавозак льга падлічыць загатоўкі прыватніка, якія ніякім іншым чынам дакладна падлічыць немагчыма. Наступная дыяграма выяўляе памесячныя адпраўкі чыг. станцыі Слуцку жывых сьвіней і сьвінога сала ўсімі загатоўшчыкамі. Дадзеныя атрыманы на станцыі шляхам выбаркі з накладных.

Вываз жывых сьвіней пачаўся толькі з 1925 г. Як казалі мясцовыя працаўнікі, сала загатаўлялася ў колькасьці нябольшай, чымся ў сучасны момант і да 1925 г., точных зьвестак аб памерах гэтых загатовак няма. Дыяграма выразна выяўляе некаторае зьмяншэньне вывазу жывых сьвіней у 1926 і 1927 г. г. у параўнаньні з 1925 г., які даў самы большы вываз. Наадварот, вываз сала ў 1926-27 г., у параўнаньні з 1925 г., даў некаторае павялічэньне. Каб атрымаць агульныя памеры рынкавасьці сьвінагадоўлі, я зрабіў наступны пералік. Мы бачылі, што жывая вага прадажных сьвіней у сярэднім раўнялася прыблізна 120 клг. На сала ідуць крыху буйнейшыя экзэмпляры. Дзеля гэтага можна прыняць забойную вагу сьвіньні на сала 100 клг. і з іх 50 клг. сала на продаж. Значыцца 50 клг. прададзенага сала адпавядаюць 1-й жывой сьвіньні. Падзяліўшы кілёграмы вывезенага сала на 50, і дадаўшы вываз жывых сьвіней, я атрымаў агульныя памеры рынкавасьці. Крывая «С» на дыяграме № 1 паказвае вываз, атрыманы паказаным спосабам, сумы жывых сьвіней. Бязумоўна, 1926-27 г. г., ў параўнаньні з 1925 г., далі некаторае зьмяншэньне рынкавасьці сьвінагадоўлі. Зьвесткі дынамічных перапісаў у гэтым раёне (гняздо дынамічна распаложана ў самай сьвінагадоўчай частцы Случчыны, ахапляючы каля тысячы гаспадарак) даюць наступную колькасьць сьвіней па гадох.

| | 1924 г. | 1925 г. | 1926 г. | 1927 г. |
|---|---|---|---|---|
| Сьвіней і кныроў старэй году | 669 | 1042 | 946 | 947 |
| Падсьвінакаў ад 4 м. да 1 году | 844 | 1192 | 806 | 819 |
| Парасят да 4 м. | 477 | 1239 | 1636 | 1670 |
| Усяго | 1990 | 3473 | 3388 | 3436 |

Табліца паказвае моцнае ўзрастаньне сьвінагадоўлі ў 1925 годзе ў параўнаньні з папярэднім годам. Наступныя-ж годы паказваюць некаторае зьмяншэньне [1]). Значыцца, мы бачым ня толькі зьмену памераў рынкавасьці, але зьмену і памераў статку, якая адбылася, вярней за ўсё пад уплывам зьменаў рынкавых каньюнктур.

Сапраўды, індэксы цэнаў на харчы і прадукты сьвінагадоўлі паказваюць, што ў 1923-24 г. была найбольш спрыяльная рынкавая каньюнктура дзеля разьвіцьця рынкавае сьвінагадоўлі, а ў наступныя годы крыху горшая.

Індэксы рынкавых цэнаў Слуцку ў адносінах да даваенных, прынятых за 100.

| | 1923 г. | 1924 г. | | | | 1925 г. | | | | 1926 г. | | | | 1927 г. | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | X | I | IV | VII | X | I | IV | VII | X | I | IV | VII | X | I | IV | VII | X |
| Жыта . . . . . | 51 | 61 | 72 | 75 | 77 | 97 | 173 | 240 | 133 | 160 | 200 | 147 | 140 | 153 | 147 | 207 | 133 |
| Авёс . . . . . | 69 | 56 | 100 | 107 | 107 | 107 | 193 | 264 | 177 | 143 | 250 | 211 | 179 | 157 | 186 | 250 | 164 |
| Ячмень . . . . . | 52 | 53 | 71 | 82 | 96 | 117 | 185 | 219 | 123 | 137 | 192 | 151 | 151 | 144 | 157 | 206 | 151 |
| Бульба . . . . . | 65 | 112 | 129 | 147 | 117 | 147 | 206 | 235 | 153 | 206 | 235 | 235 | 235 | 235 | 224 | 265 | 206 |
| Сьвіное сала . . . | 120 | 140 | 128 | 160 | 160 | 120 | 128 | 140 | 160 | 184 | 152 | 160 | 180 | 168 | 160 | 160 | 172 |
| Карм. сьв. ж. м. . . | — | — | — | — | — | — | 111 | 133 | 189 | 189 | 211 | 222 | 233 | 211 | 228 | 222 | 233 |
| Харчовая адзінка . . | 61 | 87 | 118 | 121 | 107 | 129 | 196 | 238 | 190 | 179 | 226 | 206 | 200 | 198 | 197 | 245 | 181 |

Я ўжо зазначаў, што ва ўмовах Случчыны, дзе асноўная маса бульбы па сутнасьці зьяўляецца нярынкавым прадуктам, магчымасьці пашырэньня аб'ёму рынкавае сьвінагадоўлі будуць вызначацца, галоўным чынам, суадносінамі цэнаў на збожжа і прадукты сьвінагадоўлі, выходзячы з якіх, гаспадары вырашаюць, колькі збожжа прадаць непасрэдна і колькі скарміць яго сьвіньням. Апрача прыведзеных індэксаў цэнаў, дынаміка рынкавасьці збожавых прадуктаў дае некаторае пацьвярджэньне правільнасьці выказанага дапушчэньня.

Вываз чыг. станц. Слуцку ў тонах па зьвестках ЦСУБ (апублікаваных і не апублікаваных).

| | 1923-24 г. | 1924-25 г. | 1925-26 г. | 1926-27 г. |
|---|---|---|---|---|
| Усіх збожавых грузаў . . . . | 18475 | 14295 | 6903 | 16952 |
| У т. л. жыта і жытняе мукі . | 16150 | 9505 | 4721 | 5275 |

[1]) Неабходна зьвярнуць увагу на тое, што чыгуначныя перавозкі адлюстроўваюць ня толькі зьмены рынкавасьці, але ўкосна і памеры статку. Пры аналіза дынамікі сьвінагадоўлі перад вайною гэты факт будзе мець значэньне.

Пакольки-ж асноўная маса бульбы зьяўляецца нярынкавым прадуктам, пастолькі-ж не выпадковыя рынкавыя цэны на бульбу будуць вызначаць прадукцыю рынкавае сьвінагадоўлі (мы ўжо бачылі, што пры ацэнцы бульбы па рынкавых цэнах сьвінагадоўля зьяўляецца відавочна стратнаю галіною, індэкс цэнаў бульбы таксама вышэй індэксу цэнаў прадуктаў сьвінагадоўлі), а хутчэй расцэнка і аб'ём прадукцыі бульбы ў дадзеных умовах будзе, пры аднолькавых ураджаях, вызначацца цаною на прадукты сьвінагадоўлі. Характэрна, што процант засяўное плошчы пад бульбаю ў Слуцкай акрузе, па зьвестках ЦСУ, зьмяняўся наступным чынам: 1924 г.—11,14 проц., 1925 г.—13,35 проц. і 1926 г.—13,6 проц.

З тае прычыны, што мясцовая цана на прадукты сьвінагадоўлі ствараецца пад уплывам, з аднаго боку, цэнаў рынку збыту, а з другога боку,—выдаткаў рэалізацыі гэтых прадуктаў, неабходна, хоць-бы коратка, спыніцца на ўмовах рэалізацыі прадуктаў сьвінагадоўлі ў Случчыне.

Значэньне паасобных рынкаў збыту характарызуецца наступным чынам:

Адпраўка жывых сьвіней у %%.

| | 1925 г. | 1926 г. | 1927 г. |
|---|---|---|---|
| У Ленінград . . . . | 75 | 42 | 12 |
| „ Менск . . . . . | 13 | 50 | 72 |
| „ інш. гарады . . . | 12 | 8 | 16 |
| Усяго . . . | 100 | 100 | 100 |

Сала-ж, у большасьці, ішло ў Ленінград. Так, адпраўка сала ў Ленінград складала да агульнае адпраўкі ў 1925 г.—95 проц., у 1926 г.—90 проц. і ў 1927 г.—64 проц.

Апрача прыватніка, асноўнымі загатоўшчыкамі продуктаў сьвінагадоўлі былі тутака с/г каапэрацыя і Мясгандаль. Іхняе значэньне ў загатоўках прыблізна аднолькавае. Удзельная-ж вага прыватніка характарызуецца наступным чынам.

Адпраўкі прыватніка па чыгунцы складалі да агульнае адпраўкі ў %%:

| | 1925 г. | 1926 г. | 1927 г. |
|---|---|---|---|
| Жывых сьвіней . . . | 36 | 3,3 | 1,4 |
| Сала сьвінога . . . | 57,5 | 35,0 | 33,2 |

Выцісканьне прыватніка з рынку загатовак жывых сьвіней і зьмяншэньне адпраўкі іх у Ленінград у 1926 і 1927 г. г., у параўнаньні з 1925 г., зьвязаны паміж сабою, бо прыватнымі загатоўшчыкамі былі гандляры з Ленінградзкага рынку. З другога боку, з гэтым трэба часткова паставіць у сувязь зьмяншэньне і агульнага вывазу жывых сьвіней у 1926 г., у параўнаньні з 1925 г., прыблізна на 35 проц., г. зн. на долю ўдзелу прыватніка ў загатоўках жывых сьвіней. У сваю чаргу, усе гэтыя факты часткова былі зьвязаны з тым, што былі забароны адправак жывых сьвіней у Ленінград, у сувязі з пашырэньнем на Беларусі сьвіных эпізаотыяў.

Дзеля высьвятленьня памераў і складу накладных выдаткаў па шляху ад вытворцаў да Слуцку, былі абсьледаваны чатыры первястковыя с.-г. крэдытныя т-вы, бо Слуцкае аддзяленьне Белсельсаюзу загатоўку прадуктаў сьвінагадоўлі робіць у пераважнасьці праз свае первястковыя т-вы. Памеры і склад гэтых выдаткаў мяняюцца ў залежнасьці ад таго, на якой адлегласьці ад Слуцку знаходзіцца т-ва

Опэрацыі 1926-1927 г.

| НАЗВА С.-Г. КРЭДЫТ. ТАВАР-ВАЎ | Адлегласьць ад Слуцку вёрст | Загатоўлена штук сьвіней | Іхняя вага ў кілёграмах | Сума, заплочаная вытворцам у руб. | Загатов. цана кілёгр. жывое вагі кап. | Сума выруч. пры рэалізацыі | Рэаліз. цана кілёгр. жывое вагі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Слуцкае . . . . . | 0 | 645 | 66751 | 41049 | 61,5 | 42433 | 63,5 |
| Ленінскае . . . . . | 18 | 689 | 69667 | 41888 | 60,7 | 44179 | 63,4 |
| Грозаўскае . . . . . | 25 | 233 | 25736 | 14876 | 57.5 | 15903 | 62,1 |
| Семежаўскае . . . . . | 35 | 318 | 37421 | 20737 | 55,5 | 22351 | 62,4 |
| Усяго . . . | — | 1885 | 199575 | 118550 | 59,4 | 124866 | 62,6 |

| НАЗВА С.-Г. КРЭДЫТ. ТАВАР-ВАЎ | Розьніца паміж выруч. і заплоч. сумамі | %% узрастаньня цаны | Заплочана агентам па загат. |  | Заплочана за дастаўку рубл. |  | Заплочаны гэрбавога збору | Інш. выдаткі | Усяго выдатк. | Прыбытак Т-ва | На 1 т. клг. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
|  |  |  | Рубл. усяго | На 1 т. кілг. руб. | Рубл. усяго | На 1 т. клг. |  |  |  |  |  |
| Слуцкае . . . . . | 1384 | 3,3 | 679 | 10,2 | — | — | 25 | — | 704 | 680 | 10.2 |
| Ленінскае . . . . . | 2291 | 5,4 | 706 | 10,1 | 254 | 3,7 | 88 | 115 | 1163 | 1128 | 16,2 |
| Грозаўскае . . . . . | 1027 | 6,9 | 273 | 10,6 | 303 | 11,8 | 18 | 55 | 649 | 378 | 14.2 |
| Семежаўскае . . . . . | 1614 | 7,8 | 282 | 13,6 | 418 | 11,2 | 30 | 35 | 765 | 849 | 22.9 |
| Усяго . . . | 6316 | 5.3 | 1940 | 9,7 | 975 | 4.9 | 161 | 205 | 3281 | 3035 | 16.1 |

Дзеля высьвятленьня памераў і складу накладных выдаткаў па шляху ад Слуцку да асноўнага рынку збыту, была зроблена выбарка ўсіх накладных выдаткаў па чатырох партыях жывых сьвіней, адпраўленых у 1926 годзе Слуцкім аддзяленьнем Белсельсаюзу ў Ленінград.

У наступнай табліцы даецца падрахунак з гэтых чатырох партыяў.

| | |
|---|---|
| Лік адпраўленых сьвіней . . . | 221 шт. |
| Іхняя жывая вага ў клг. . . . . | 22146 клг. |
| Іхні кошт аддзяленьню Сельсаюзу . . . . | 14629,4 р. |
| Атрымана ад продажу іх у выглядзе тушаў і лівэраў у Ленінградзе . . . . . | 18337,3 р. |
| Розьніца . . . | 3707,9 р. |

| Выдаткі па рэалізацыі | |
|---|---|
| Ветагляд у Слуцку | 72,6 р. |
| Абсталяваньне вагонаў | 134,4 р. |
| Пагрузка | 23,5 р. |
| Выдаткі на станцыі | 48,2 р. |
| Харчы | 219,3 р. |
| Чыгункавы тарыф | 941,5 р. |
| Аплата праважатых | 174,2 р. |
| Страхоўка | 158,4 р. |
| Мясцовы збор | 31,0 р. |
| Рэгістрацыйны збор | 49,6 р. |
| Разгрузка | 55,9 р. |
| Вет'нагляд | 66,6 р. |
| Загон і забой | 831,2 р. |
| Гэрбавы збор | 53,9 р. |
| Інш. выдаткі | 32,0 р. |
| Камісіён. Дзяржбанку | 175,4 р. |
| Камісіён прадстаўн. Белсельсаюзу | 188,2 р. |
| Усяго | 3251,6 р. |
| Прыбытак Слуцкага аддзяленьня Белсельсаюзу | 456,3 р. |

Такім чынам загатоўчая цана клг. жывое вагі сьвін. была 59,4 кап., а рэалізацыйная (пры рэалізацыі ў форме тушаў)—82,8 кап. Розьніцы 23,4 кап., што складае каля 40 проц. ад загатоўчае цаны, і зьяўляецца выдаткамі на рэалізацыю. 3,2 кап. нарастае па шляху ад вытворцаў да Слуцку, а рэшта—20,2 кап.—нарастаюць па шляху ад Слуцку да Ленінграду. Найбольш вялікімі выдаткамі зьяўляюцца: чыгункавы тарыф, забой, харчы, аплата праважатых, абсталяваньне вагонаў, розныя камісіённыя, страхоўка. Пасьля ідуць: вет'агляд, пагрузка і разгрузка і розныя зборы і налогі.

## 2. Дынаміка рынкавае сьвінагадоўлі Беларусі перад вайною (з 1893 да 1913 г.)

Цяпер пойдзем далей і пастараемся прааналізаваць дынаміку разьвіцьця рынкавае сьвінагадоўлі на Беларусі за даўжэйшы кавалак часу, чымся мы гэта зрабілі ў адносінах Случчыны. Лёкалізацыя пэўнай формы сельска-гаспадарчых прадпрыёмстваў у дадзеным месцы вызначаецца ня толькі ўзроўнем і суадносінамі мясцовых цэнаў, але і прыроднымі ўмовамі. Можна зацьвярджаць, што паколькі пэўная форма організацыі сельска-гаспадарчых прадпрыёмстваў дадзена, яе далейшае разьвіцьцё можа амаль цалкам непасрэдна вызначацца зьменамі ўзроўню і суадношаньня мясцовых цэнаў. [1]) Такім чынам, умовы разьвіцьця рынкавае сьвінагадоўлі ў дынаміцы зводзяцца, па сутнасьці, да рынкавых умоў.

Але зацьвярджаючы, што разьвіцьцё рынкавае сьвінагадоўлі на Беларусі перш за ўсё зьвязана са зьменамі мясцовых цэнаў, мы дася-

[1] Гл. артыкул И. Жирковича ў зборн. Каньюнктурнага Інстытуту „Крестьянские индексы“ Москва, 1927 год.

гаем яшчэ ня шмат. З прычыны таго, што ва ўмовах разьвітае менавое гаспадаркі ўсе цэны зьвязаны паміж сабою, зьмена кожнае цаны робіць уплыў у той або іншай ступені на другія цэны, а, значыцца, на зьмены арганізацыі сельска-гаспадарчых прадпрыёмстваў. Але зьмена адных цэнаў можа зрабіць вялікі ўплыў на зьмену арганізацыі гаспадарак, зьмена другіх—нязначна. З другога боку, дзякуючы арганічнай зьвязанасьці ўсіх галінаў земляробнае гаспадаркі, адная і тая самая зьмена адных і тых самых цэнаў можа праявіць зусім розную чыннасьць на якую-небудзь галіну, у залежнасьці ад таго, з якім тыпам гаспадаркі зьвязана гэтая галіна. Зрабіць падлік зьменаў усіх цэнаў, а тым больш прадбачыць гэтыя зьмены практычна немагчыма, але падобны падлік не дае і практычнае карысьці. Значыцца, задача зводзіцца да таго, каб знайсьці такія цэны, зьмена якіх вырашае разьвіцьцё галіны, якая нас цікавіць у дадзеным выпадку сьвінагадоўлі.

Можна заранеей зацьвярджаць, што, па-першае, уплыў цэнаў на гаспадарку тым больш, значыцца, тым лягчэй і выявіць гэты ўплыў, чым больш гаспадарка зьвязана з рынкам, г. зн. уцягнена ў менавы зварот; па-другое, чым большая ўдзельная вага ў гаспадарцы галіны або культуры, уплыў цэнаў на якую мы вывучаем, а галоўнае, чым незалежней, ці то чым менш зьвязана з гаспадаркаю гэтая культура або галіна, тым лягчэй можа быць устаноўлена сувязь паміж зьменамі цэнаў і зьменамі элемэнту гаспадаркі, які мы вывучаем.

Мы бачылі, што рынкавая сьвінагадоўля на Беларусі адносна мала зьвязана з іншымі галінамі гаспадаркі, бо, па-першае, пры выкармліваньні абсолютна сьвіныя, адносна нярынкавыя, харчы амаль ня маюць значэньня; а часьцей за ўсё выкармліваньне базіруецца на адносна рынкавых прадуктах. (Рынкавасьць бульбы на Беларусі перад вайною была значна большая, бо было больш бровараў, якія знаходзіліся ў дзеяньні). Па-другое, пабочныя адносна нярынкавыя прадукты сьвінагадоўлі, як гной, у параўнаньні з асноўнымі рынкавымі прадуктамі, маюць невялікае значэньне. З гэтай прычыны, а таксама, дзякуючы таму, што гадоўля сьвіньні займае вельмі кароткі тэрмін, трэба меркаваць, што рынкавая сьвінагадоўля будзе тэй галіною гаспадаркі, якая найбольш чула рэагуе на зьмену рынкавых каньюнктур. Не выпадкова першыя найбольш удалыя працы па прагнозу цэнаў сель.-гасп. прадуктаў амэрыканскімі і нямецкімі дасьледчыкамі зроблены ў адносінах цэнаў прадуктаў сьвінагадоўлі [1]).

Зьмена якіх-жа цэнаў, тачней іхнія суадносіны, трэба чакаць будзе вырашаць зьмены ў сьвінагадоўлі? Перш за ўсё, ня можа быць агульнага для ўсіх прадуктаў шаблённага паказальніку ў родзе, напрыклад, стасунку індэксу цэнаў паасобных сельска-гаспадарчых тавараў да агульнага індэксу ўсіх прадуктаў, якія вытвараюцца ў дадзенай гаспадарцы, бо такім чынам мы часта супастаўляем прадукты, якія вельмі мала канкурыруюць паміж сабою, што можа замяніць малюнак, асабліва калі ўдзельная вага ў групавым індэксу падобнага роду «нэйтральных» прадуктаў вялікая. У кожным паасобным выпадку,

---

[1]) Гл. Sarle: Forecasting the price of hogs. The Am. Econ. Review, vol. XV, Nr 3. Suppl. Nr 2. 1925.

H. A. Wallace: Forecasting corn and hog prices. The Problem of business forecasting. 1924. Chapter XVIII.

Dr.Artur Hanau Die Prognose der Schweinepreise. Vierteljarshefte zur Konjunktur forschung. Herausgegeben von Institut für Konjunkturforschung. Berlin. 1928

Матар'ялы апошніх дзьвюх прац я часткова скарыстаў дзеля гэтае працы.

у залежнасьці ад прадукту і ад тыпу гаспадаркі, з якім ён зьвязан, вырашаць будуць ці тыя ці гэтыя суадносіны цэнаў. З гэтай прычыны, шукаючы паказальнікаў для паасобных прадуктаў, няма неабходнасьці заўсёды будаваць усю сыстэму індэксаў.

Па-першае, штогоднія зьмены ў памерах вытворчасьці таго або іншага сельска-гаспадарчага прадукту, вярней за ўсё, вельмі мала зьвязаны з паштогоднімі зьменамі цэнаў на машыны і прылады, а таксама на такія тавары, як соль, газа ды інш., бо амортызацыйныя страты маюць нязначную ўдзельную вагу ў вытворчых выдатках паасобных прадуктаў. Апрача таго, машыны і прылады служаць звычайна на працягу некалькіх гадоў, часта нават некалькіх дзесяткаў гадоў, дзякуючы чаму мэханічна адбываецца выраўніваньне штогодніх памераў амортызацыйных выдаткаў. Да таго-ж разьмеркаваньне гэтых выдаткаў паміж паасобных культур і галін надзвычайна ўмоўнае. Яшчэ трэба зазначыць, што зьмена цэнаў на машыны і прылады можа часта абумоўлівацца зьменаю іхняе якасьці. І, нарэшце, даваенная статыстыка надзвычайна слаба выяўлена ў адносінах мясцовых цэнаў на машыны і прылады за колькі-небудзь доўгі шэраг гадоў. Але, выходзячы з памянёных меркаваньняў, гэты недахоп матар'ялаў і ня мае вялікага значэньня. Вядома, параўнальна працяжныя зьмены, зьвязаныя з разбурэньнем усяго арганізацыйнага ладу гаспадаркі, ужо мацней зьвязаны са зьменамі цэнаў на інвэнтар. Пры гэтым неабходна адзначыць палажэньне, якое падкрэсьлівае І. Н. Жырковіч, што гэтыя працяжныя зьмены ў гаспадарцы ўжо мацнейшым чынам зьвязаны са зьменамі тэхнікі. З гэтай прычыны ўплыў цэнаў на падобнага роду працяжныя зьмены гаспадаркі зацямняецца і ўскладняецца. Значыцца, мэтазгодней у першую чаргу сканцэнтраваць увагу галоўным чынам на больш лёгкай праблеме,— на ўплыў цэнаў на зьмены гаспадаркі ў параўнальна кароткія пэрыяды. Тым больш і практычна гэтая праблема, найбольш цікавая, бо магчымасьць прагнозу абмяжоўваецца кароткім тэрмінам.

Ужо зазначалася, што сьвінагадоўля зьяўляецца галінаю перапрацоўкі сельска-гаспадарчых прадуктаў. Пры чым, характэрная асаблівасьць гэтае галіны перапрацоўкі заключаецца ў тым, што самая машына, якая перапрацоўвае, або апарат, цалкам пераходзіць у вытворчы прадукт. З гэтай прычыны вытворчыя выдаткі падобнага роду прадуктаў будуць амаль цалкам складацца з кошту рабочае сілы і сыравіны, у гэтым выпадку—харчоў. Выдаткі на амортызацыю сьвінарніку і карытаў, з якіх кормяць сьвіней, складаюць нязначную долю ў агульных выдатках. Выдаткі на подсьціл таксама нязначныя. Што-ж датычыцца складу харчоў, дык калі сьвінагадоўля мае рынкавы характар, яны ў большасьці складаюцца з адносна нярынкавых прадуктаў, як клубняплоды і збожжа. Нярынкавыя адкідкі гаспадаркі, як мякіна і памыі, маюць невялікую ўдзельную вагу ў харчовым рацыёне рынкавае сьвінагадоўлі. Тое самае трэба сказаць і ў адносінах пашы. Недаліку гэтых дробных элемэнтаў выдаткаў можна проціпаставіць таксама недалік дробнага нярынкавага элемэнту выручкі, а менавіта—гною. Такім чынам, трэба меркаваць, што выращаць штогоднія зьмены рынкавае сьвінагадоўлі будуць зьмены ў суадносінах цэнаў на асноўныя сьвіныя харчы (караньплоды і розныя віды збожжа, удзельная вага якіх у розных раёнах будзе розная і прадукты сьвінагадоўлі.

Заробкавая плата, якая складае значны элемэнт у вытворчых выдатках, таксама павінна мець вялікае значэньне для зьмены памераў сьвінагадоўлі. Уключэньне заробкавае платы важна яшчэ і з тае

прычыны, што ваганьне заробкавае платы падзёншчыкаў і зьдзельных сельска-гаспадарчых рабочых, вярней за ўсе, мацнейшым чынам station ўча зьвязаны з ваганьнямі агульнага прыбытку гаспадаркі, а, значыцца, з ацэнкай гаспадаркаю ўласнае рабочае сілы. Індэкс вытворчых тавараў, адпаведныя элемэнты якога ўзважаны на штогоднюю зьмену збораў, у значнай меры адаб'е зьмену агульнага прыбытку. Уключаючы заробкавую плату, мы гэтым у пэўнай ступені ўлічваем канкурэнтную здольнасьць дадзенае галіны ў адносінах да ўсяе гаспадаркі.

Са сьвінагадоўляю могуць канкурываваць іншыя галіны перапрацоўкі як, напрыклад, вінакурэньне, або некаторыя галіны жывёлагадоўлі. З тае прычыны, што бровары былі сканцэнтраваны ў буйных прыватнаўласьніцкіх гаспадарках, збыт сялянскімі гаспадаркамі сваіх прадуктаў заводу быў роўналежным продажу іх на рынак. Значыцца, у цане гэтых прадуктаў ужо адбівалася канкурэнтная здольнасьць вінакурэньня. Непасрэдна вызначаючаю памеры сьвінагадоўлі зьяўляецца дадзеная цана харчоў. Чым, у сваю чаргу, вызначаецца цана харчоў,—ёсьць далейшае пытаньне, якое ня мае непасрэдных адносін да зьменаў сьвінагадоўлі.

Малочная жывёлагадоўля, якая звычайна базіруецца, галоўным чынам, на добрай пашы, г. зн. на аб'ёмістых харчох, менш за ўсё можа канкурываваць са сьвінагадоўляў. Амаль тое самае можна сказаць і ў адносінах да рынкавае конегадоўлі. Самым вялікім канкурэнтам за харч дзеля сьвіней можа быць рынкавае птушніцтва. Такім чынам, гаспадар можа, або прадаць свае запасы караньплодаў і збожжа (на рынку, на заводзе), або скарміць сьвіньням ці птушкам. Чыннасьць гаспадара будзе вызначацца, галоўным чынам, суадносінамі мясцовых цэнаў, з аднаго боку—на збожжа і караньплоды, а з другога—на прадукты сьвінагадоўлі і птушніцтва.

Цяпер паўстае пытаньне, на падставе чаго можна судзіць аб штогодніх зьменах у памерах рынкавае сьвінагадоўлі? Дадзеныя Ц.С.К. аб колькасьці сьвіней ёсьць толькі па губэрнях, і за параўнальна кароткі пэрыяд,—з 1901 году, апрача таго, яны зьяўляюцца надзвычайна нядобраякаснымі, што будзе пралюстравана пазьней. Паштогодніх дадзеных аб колькасьці сьвіней за колькі-небудзь доўгі шэраг гадоў у земскіх выданьнях няма, нават аб такой багацейшай ў адносінах статыстычных матар'ялаў губэрні, як Палтаўская. Застаюцца толькі дадзеныя чыгункавых перавозак жывых сьвіней і прадуктаў сьвінагадоўлі. Па-першае, гэтыя дадзеныя характарызуюцца высокай ступеньню точнасьці, па-другое, яны ахапляюць параўнальна большы пэрыяд,—прыблізна з 1890 г., па-трэцяе,—гэтыя дадзеныя можна дапасаваць да параўнальна дробных тэрыторыяльных адзінак, напрыклад, павету або групе паветаў і, па-чацьвёртае,—яны адлюстроўваюць зьмены не наогул у сьвінагадоўлі, а, галоўным чынам, у рынкавай.

Апошняя акалічнасьць можа быць скарыстана і дзеля адмоўнае характарыстыкі дадзеных чыгункавых перавозак, бо можна дапусьціць, што штогоднія зьмены чыгункавых перавозак жывых сьвіней і прадуктаў сьвінагадоўлі будуць адлюстроўваць толькі штогоднія зьмены памераў прадукту, а не памераў самае рынкавае сьвінагадоўлі. Супроць грунтоўнасьці падобнага роду дапушчэньня можна пярэчыць двума наступнымі меркаваньнямі і, па-першае, трэба думаць, што памеры і характар прадуктаў сьвінагадоўлі, якія спажываюцца штогодня самою сялянскаю гаспадаркаю, а таксама вузкамясцовым рынкам, на працягу больш-менш кароткіх пэрыядаў зьяўляюцца велічы-

ней амаль што канстантнай. Значыцца, штогоднія зьмены прадажу жывых сьвіней і прадуктаў сьвінагадоўлі на шырокі рынак вызначаюцца ня толькі адпаведнымі штогоднымі зьменамі колькасьці кормных сьвіней, але і адпаведнымі зьменамі колькасьці сьвіней, якія гадуюцца. Па-другое, некаторым укосным доказам грунтоўнасьці гэтага дапушчэньня мог-бы служыць факт супаданьня гадоў з найбольш дарагімі цэнамі на выкармленых сьвіней і прадукты сьвінагадоўлі з гадамі найбольшага продажу, г. зн. чыгункавых перавозак жывых сьвіней і прадуктаў сьвінагадоўлі, і наадварот. У далейшым будзе паказана, што супаданьні падобнага роду не наглядаюцца. Наадварот, як і трэба было чакаць, зьмены цэнаў ідуць за год наперад ад зьменаў у памерах сьвінагадоўлі. Трэба меркаваць, што толькі ў дужа неўрадлівыя гады будзе наглядацца разыходжаньне паміж колькасьцю выкармленых сьвіней і памерамі сьвінога статку ў гэтым годзе бо памеры сьвінога статку вызначаюцца, галоўным чынам, каньюнктурай папярэдняга году, памеры-ж выкармліваньня часткова могуць вызначацца і коньюнктурай дадзенага году. Такім чынам, можна зацьвярджаць, што ў зьвестках чыгункавых перавозак даволі точна адаб'юцца штогоднія зьмены памераў рынкавае сьвінагадоўлі. Некаторае пацьвярджэньне гэтаму мы бачылі пры аналізе дынамікі сьвінагадоўлі ў Случчыне за 1924—27 г. г.

Другою акалічнасьцю, якая таксама адмоўна характарызуе дадзеныя чыгункавых перавозак, зьяўляецца тое, што невядома, у якіх гаспадарках (буйных прыватна-ўласьніцкіх ці дробных сялянскіх) яны галоўным чынам адлюстроўваюць зьмены сьвінагадоўлі. Даводзіцца высьвятляць гэтае па зьвестках перапісу і дапускаць, што на зьмену рынкавае каньюнктуры аднолькава рэагавалі розныя групы гаспадарак (дапушчэньне, аб якім можна спрачацца). Магчыма, што зьмены ў чыгункавых перавозках сьвіней адлюстроўваюць толькі зьмены памераў рынкавае сьвінагадоўлі ў пэўнай групе гаспадарак, якія найбольш выразна рэагавалі на зьмены рынкавых каньюнктур.

Цяпер яшчэ застаецца паказаць на зьмену якіх (у сэнсе месца і часу іх фіксацыі) цэнаў найбольш чула будзе рэагаваць гаспадар. Перш за ўсё трэба зазначыць, што зьмены ў аб'ёме арганізацыйна-вытворчай структуры сельска-гаспадарчых прадпрыёмстваў часьцей за ўсё магчымы не раней як праз год. З гэтай прычыны найбольшы ўплыў на чыннасьць гаспадароў павінны рабіць цэны сярэдня-гадовыя, выведзеныя з месячных цэнаў, узважаных на памеры продажу паасобных прадуктаў па сэзонах або месяцах. З тае прычыны, што атрымаць падобныя сярэдня-гадовыя ўзважаныя цэны мажліва не заўсёды, дык можна карыстацца, або сярэдняя-гадовымі простымі, або сэзоннымі, лепш за ўсё восеннымі, калі звычайна адбываецца рэалізацыя найбольшае колькасьці сельска-гаспадарчых прадуктаў. Найлепшымі цэнамі ў адносінах месца фіксацыі трэба лічыць цэны тых рынкавых пунктаў, дзе гаспадаркі непасрэдна рэалізуюць большасьць сваіх прадуктаў. Такімі пунктамі звычайна будуць мястэчкі і павятовыя гарады. Вядома, выбар тых, або іншых цэнаў вызначаецца ня толькі іхняй прыгоднасьцю для мэтаў дасьледваньня, але і фактычнай наяўнасьцю матар'ялу.

Дасьледваньне ўплыву рынкавых каньюнктур на разьвіцьцё сьвінагадоўлі было зроблена мною ў адносінах двух раёнаў: Беларусі і Палтаўскае губэрні. Крайняя абмежаванасьць статыстычнымі матар'яламі, якія датычацца даваеннага пэрыяду, надзвычайна звужала магчымасьці дасьледаваньня на Беларусі. Дзеля гэтага я ўзяў яшчэ Палтаўскую губ., якая, па-першае, найбольш багата выяўлена ў адносінах

мясцовых статыстычных матар'ялаў, а, па-другое, зьяўляецца раёнам, дзе рынкавая сьвінагадоўля была найбольш моцна разьвіта. Апрача таго, у той час як сьвінагадоўля Беларусі была сальнаю, базіравалася пераважна на бульбе і орыентавалася галоўным чынам на нямецкі рынак, сьвінагадоўля Палтаўшчыны была напоўмясною, базіравалася, галоўным чынам, на збожжы і орыентавалася пераважна на ангельскі рынак. Гэтая разнастайнасьць тыпаў рынкавае сьвінагадоўлі, таксама зьвязанасьць гэтых тыпаў з рознымі рынкамі збыту, дае магчымасьць больш шырока і дэталёва правесьці дасьледваньне, а з другога боку, робіць атрыманыя вывады больш пераканальнымі. Пры чым, дадзеныя Палтаўскае губ. я выкарыстоўваю ўсяго пастолькі, паколькі гэта неабходна дзеля высьвятленьня ўмоў разьвіцьця рынкавае сьвінагадоўлі на Беларусі.

Што датычыцца групаў гаспадарак, у якіх была галоўным чынам сканцэнтравана рынкавая сьвінагадоўля Беларусі перад вайной, дык просты адказ на гэтае пытаньне можна атрымаць толькі з матар'ялаў перапісу жывёлы ў Менскай губэрні ў 1915 годзе (матар'ялы перапісу жывёлы б. Менскай губэрні 1915 году. Выданьне ЦСУ БССР. Віцебск, 1925 г.).

Лік прададзеных сьвіней (апрача парасят).

| Гаспадары прададзеных сьвіней | ПАВЕТЫ | | | | У %% |
|---|---|---|---|---|---|
| | Слуцкі | Менскі | Навагр. | Усяго | |
| Гарады і мястэчкі . . | 54 | 110 | 92 | 256 | 1,0 |
| Буйныя прыватнаўласьн. (болей як 300 дз. ральлі і сенажаці) . | 306 | 128 | 148 | 618 | 2,4 |
| Сярэднія прыватнаўласьн. (ад 30 да 300 дз. ральлі і сенажаці) . . . . | 313 | 292 | 335 | 940 | 3,6 |
| Дробныя прыватнаўласьн. (да 30 дз. ральлі і сенажаці) . . . . . | 950 | 1317 | 489 | 2756 | 10,7 |
| Сялянскія надзельныя . | 6662 | 7572 | 6961 | 21195 | 82,3 |
| Усяго . . | 8285 | 9419 | 8061 | 25765 | 100% |

Праўда, гэтыя дадзеныя 1914-15 году, ужо году вайны, калі фактычна быў амаль ліквідаваны рынак збыту сьвіней, зьяўляюцца вельмі ўмоўнымі. Але яны адзіныя па Беларусі. Апрача таго, быўшы ўвосень 1927 г. ў Случчыне, я пытаў шмат у якіх сялян, аграномаў, працаўнікоў каапэрацыі і былых гандляроў сьвіньнямі, хто галоўным чынам прадаваў сьвіней перад вайною, паны ці сяляне. Усе яны адказвалі, што сяляне. Што раней, даўно, паны мелі больш сьвіней і больш іх прадавалі. Пасьля яны пачалі ўсё больш і больш пераходзіць на малочную гаспадарку, а гадоўля сьвіней ў іх скарачалася. Наадварот, у сялянскай гаспадарцы сьвінагадоўля разьвівалася, а малочныя прадукты на рынак сяляне пачалі даваць толькі ў самыя апошнія гады перад вайною.

Дыяграма № 2а

Менская губ




Адпавядае 5 к. жыта, аўса, ячмяню; 2 кап. бульбы, 50 кап. сала і сьвініны, 4000 шт. вывазу жыв. сьвіней, 50 тысяч колькасьці сьвіней і 10 кап. падзён. платы работніцы на сваіх харчах.

Горадзенская губ.

Дыяграма №26




Адпавядае 5 к. жыта, аўса, ячмяню; 2 кап. бульбы, 50 кап. сала і сьвініны, 4000 шт. вывазу жыв. сьвіней, 50 тысяч колькасьці сьвіней і 10 кап. палзён. платы работніцы на сваіх харчах.

Сялянская гаспадарка ў сваіх організацыйных формах да некаторай ступені ішла па шляху абшарніцкае гаспадаркі, розьнячыся толькі прыблізна гадоў на 20—30.

З тае прычыны, што ў даваенны пэрыяд на Беларусі мясцовыя цэны сельска-гаспадарчых прадуктаў былі толькі па губэрнях, амаль увесь аналіз будзе дапасован да губэрняў Гарадзенскай і Менскай.

На дыяграмах № 2 прыведзены па двух памянёных губэрнях паасобна эмпірычныя крывыя штогодніх дадзеных за 21 год (з 1893 да 1913 г.): 1) сума чыстых лішкаў жывых сьвіней (адпраўка—прыбыцьцё) паасобных чыгункавых станцыяў, незалежна ад таго, ці адпраўлялі сьвіней на рынак гэтай губэрні, ці за яе межы. (Дадзеныя зборнае статыстыкі чыг. перавозак б. Міністэрства Фінансаў). 2) Восенныя цэны (са зборнікаў Дэпартамэнту Земляробства—Год у сельска-гаспадарчых адносінах) бульбы, жыта, аўса, ячменю, сьвініны і сьвінога сала. Адтуль-жа ўзята і падзённая плата (сярэдняя з трох пэрыядаў) работніцы на сваіх харчох. 3) З 1900 да 1913 году колькасьці сьвіней па дадзеных ЦСК.

Дыяграмы перш за ўсё паказвае, што паштогодніія зьмены ўсіх крывых у Менскай губэрні амаль цалкам супадаюць са зьменамі аналёгічных крывых Гарадзенскае губэрні. Гэтая акалічнасьць можа служыць некаторым аргумэнтам на карысьць добраякасьці паказаных статыстычных матар'ялаў дзеля характарыстыкі адносных зьменаў. Хаця, наадварот, адсутнасьць падобнага супаданьня ні ў якай меры не азначала-б недобраякаснасьці матар'ялаў. Па-другое, ваганьне ў вывазу жывых сьвіней выразна выяўляе правільную цыклёвасьць, з даўжынёю цыклю, напрыклад, у 4 гады. Адсутнасьць падобнае цыклёвасьці ў зьменах колькасьці сьвіней па дадзеных ЦСК, перш за ўсё, выклікае сумленьне ў дабраякасьці адных з гэтых дадзеных, а таксама ізноў наводзіць на думку, ці не зьяўляецца гэтая правільная цыклёвасьць у вывазу сьвіней вынікам чыста гандлёвае каньюнктуры, г. зн. што яны адлюстроўваюць толькі памеры гандлю сьвіньнямі, зусім не адбіваючы зьменаў у памерах сьвінога статку. Сумленьне ў добраякасьці матар'ялу, вядома, гаворыць не на карысьць дадзеных ЦСК. Напрыклад, скарачэньне колькасьці сьвіней у Гарадзенскай губ., пасьля 1903 году, прыблізна на 100 тыс. штук, вярней за ўсё, ёсьць вынік таго, што дадзеныя за 1901—3 г. г. ЦСК браў са справаздач губэрнатараў. Магчыма, што круглая лічба ў 100 тысяч, што стварае павялічэньне прыблізна на 25 проц., была каэфіцыэнтам папраўкі ў аднаго з чыноўнікаў гарадзенскага губэрнатара. Так, што толькі з 1904 г. гэтыя дадзеныя зьяўляюцца аднастайнымі і могуць больш-менш правільна адлюстроўваць агульную тэндэнцыю ў зьмене колькасьці сьвіней, г. зн. зьмену ўзроўню. Што-ж датычыцца штогодніх зьменаў, дык вярней за ўсё яны адлюстроўваюць даволі верна толькі войстрыя скарачэньні статку, зьвязаныя з моцнымі агульнымі неўраджаямі, або эпізоотыямі.

Статыстыка чыгункавых перавозак, у васнове якое былі дакумэнтальныя дадзеныя, характарызуецца бязумоўна высокай ступеньню дакладнасьці. Асноўная сетка чыгунак у гэтым раёне Беларусі была ўжо да 1890 г. закончана. Так што склад чыгункавых станцыяў, якія адпраўлялі сьвіней за ўвесь гэты пэрыяд, застаўся амаль зусім нязьменным (гл. дадатак).

Зьмены ў вывазе жывых сьвіней маглі-б абумоўлівацца зьменамі формы рэалізаваных прадуктаў сьвінагадоўлі, г. зн. адзін год сяляне больш прадаюць сьвіней жывымі, другі—больш сала і сьвініны. З гэтай прычыны неабходна падлічыць чыгункавыя перавозкі і гэтых

прадуктаў. Я не прыводзіў гэтых дадзеных дзеля таго, што прагляд 6 гадоў—1900, 1901, 1902, 1911, 1912 і 1913—паказаў, што чысты вываз сьвініны і сьвінога сала з памянёнага раёну Беларусі быў нязначны. Пры чым, вывозіў галоўным чынам Менск, які ўвозіць жывых сьвіней; значыцца, вываз сьвініны і сала з Менску падлічваўся ўжо ў вывазе жывых сьвіней з іншых станцыяў. Рэпрэзэнтатыўнасьць гэтых 6 гадоў зусім відавочная, калі паглядзець, што яны супадаюць з гадамі найбольшага і найменшага вывазу жывых сьвіней. Далей, з прычыны таго, што дадзеныя чыгункавых перавозак у даваенны час былі толькі гадавыя, важна ведаць, у які час адбываўся галоўным чынам продаж сьвіней. Я не знайшоў ніякіх даваенных статыстычных матар'ялаў па Беларусі, каб даць адказ на гэтае пытаньне. Трэба меркаваць, што сэзон, калі больш за ўсё прадавалі сьвіней, быў перад вайною той самы, што і цяпер. Цяпер-жа вываз жывых сьвіней са станцыі Слуцак па месяцах быў прадстаўлен на дыяграме № 1. Як і трэба было чакаць, восень, якая зьяўляецца сэзонам найбольшага продажу сялянскаю гаспадаркаю наогул усіх сваіх прадуктаў, была парою і найбольшага продажу сьвіней. Апрача таго, што ўлетку сяляне занятыя, гандаль сьвіньнямі абмяжоўваецца таксама тым, што перавозіць па чыгунцы жывых выкармленых сьвіней надзвычайна цяжка ў гарачыню. Зіма-ж, наадварот, зьяўляецца парою найлепшых умоў мясцовага транспарту. Сяляне і мясцовыя працаўнікі Случчыны таксама зазначалі, што сэзон найбольшага продажу сьвіней перад вайною былі восень і зіма.

Дзякуючы таму, што дадзеныя чыг. перавозак былі дапасаваны да адміністрацыйнага году, факт найбольшага продажу ўвосені і ўзімку крыху выроўніваў штогодьнія зьмены рынкавае сьвінагадоўлі. Большая згладжанасьць цыклю ў Менскай губэрні, у параўнаньні з Гарадзенскаю, вярней за ўсё стаіць у сувязі з тэй акалічнасьцю, што ў Меншчыне, дзякуючы горшым умовам мясцовага транспарту (большаму аддаленьню ад чыг. станцыяў раёну, які гадуе сьвіней на рынак), сэзон найбольшага продажу сьвіней больш перасоўваўся на зіму, чымся ў Гарадзеншчыне. Гэтае перасоўваньне мажліва было зьвязана таксама і з рознымі рынкамі збыту.

Дыяграма № 1 паказвае на некаторую рухавасьць сэзону максімуму продажу. Калі-б гэта мела месца і да вайны, тады ваганьне штогодніх дадзеных вывазу магло-б залежаць ад гэтае акалічнасьці, што значна пагоршыла-б матар'ял чыг. перавозак. Але рухавасьць максімуму продажу сьвіней з году ў год ва ўмовах нармальных гаспадарчых і рынкавых абставін зьяўляецца мала праўдападобнай. Паказаная рухавасьць у сучасны момант хутчэй за ўсё ёсьць вынік сучасных умоў пэрыяду аднаўленьня і сваеасаблівых рынкавых абставін.

Цяпер паглядзімо, як-жа мяняліся цэны, якія вырашаюць разьвіцьцё сьвінагадоўлі. Ці не наглядаецца і паміж іх аналёгічнае цыклёвасьці? Цэны на сьвініну і сала сьвіное, вагаючыся паміж сабою даволі ўзгоднена, не выяўляюць прыкметнае цыклёвасьці. Дзякуючы таму, што сьвіньні паступалі на рынак пераважна ў жывым выглядзе, дык наўрад ці можна чакаць, каб цана на сьвініну і сала мела вялікае значэньне на зьмену сьвінагадоўлі. Тое самае трэба сказаць і адносна цэнаў някормных сьвіней. Будучы цалкам праізводнымі мясцовага рынку, гэтыя цэны наўрад ці маглі мяняцца адпаведна з цэнамі кормных сьвіней, якія прадаваліся дзеля вывазу з дадзенага раёну. Адгэтуль зусім зразумела, што не наглядаецца колькі-небудзь прыкметнае сувязі паміж ваганьнямі цэнаў на сьвініну і сала з правільнымі цыклёвымі ваганьнямі вывазу сьвіней, тое самае і з цэнамі на някормных

сьвіней. Мясцовых-жа цэнаў на кормных сьвіней за гэты пэрыяд на Беларусі няма.

Зарабкавая плата, пры выразна выяўлянай агульнай павышальнай тэндэнцыі, не дае значных штогодных зьменаў. З гэтай прычыны нельга лічыць, што яна вызначае цыклёвасьць вывазу сьвіней.

Што-ж датычыцца цэнаў харчовых прадуктаў, дык перш за ўсё неабходна адзначыць, што цэны асноўных у гэтым раёне збожавых прадуктаў—жыта, аўсу і ячменю мяняюцца вельмі ўзгоднена адна з аднэй. Але ізноў-жа, і яны не выяўляюць у сваёй зьмене колькі-небудзь прыкметнае цыклёвасьці. Нарэшце, мы падыйшлі да цаны бульбы, зьмена якое ў пэрыяд ад 1897-8 да 1909-10 гаду амаль цалкам супадае са зьменамі вывазу сьвіней. Нібыта знойдзена тлумачэньне, якое зусім задавальняе, бо бульба ў дадзеным раёне сапраўды зьяўляецца асноўным харчовым сродкам для сьвіней. Такім чынам, зусім праўдападобна, што восенная цана бульбы, зьвязаная з ураджаем, і была момантам, які вызначаў памеры рынкавае сьвінагадоўлі ў наступным годзе. Але якім-бы праўдападобным ні быў гэты вывад, усё-ж ён выклікае сумненьне, перш за ўсё, тым, што канцы гэтых крывых кажуць адваротнае таму, што кажа іхняя сярэдзіна. З гэтай прычыны неабходна больш дэталёва прааналізаваць сувязь паміж гэтымі зьявішчамі. Дзеля гэтай мэты я вылічыў каэфіцыэнты корэляцыі паміж вывазам сьвіней і восеннаю цаною бульбы ў папярэднім годзе, а таксама паміж цаною і ўраджаем бульбы ў дадзеным годзе. Выроўніваньне зроблена аналітычна, па параболе першага парадку [1]). Наступная дыяграма № 3 прадстаўляе восенную цэну на бульбу, ўраджай бульбы ў тым-жа годзе і вывоз сьвіней у наступным годзе ў процантах ад узроўню.

Перш за ўсё, як і трэба было чакаць, зьяўляецца значны каэфіцыэнт корэляцыі паміж ураджаем і цаною бульбы (—0,548). Што-ж датычыцца каэфіцыэнту корэляцыі паміж восеннаю цаною бульбы і вывазам жывых сьвіней у наступным годзе ў Гарадзенскую губ., дык ён аказаўся нязначным (—0,351). Апошняму каэфіцыэнту корэляцыі нельга надаваць вялікае значэньне, бо, па-першае, адзін рад мае выразна выяўленую правільную цыклёвасьць, а для корэляцыі маюць важнасьць «няправільныя», «выпадковыя» адхіленьні; па-другое, рады не даволі вялікія [2]).

Ці не тлумачыцца несупаданьне канцоў абодвых радоў выпадковымі акалічнасьцямі, якія зьмянялі цэны і вываз у паасобныя гады? Дадзеныя вэт. кіраўніцтва аб сьвіных эпізоотыях у дадзеным раёне не паказалі прыкметных ваганьняў з году ў год. Значыцца, не магла мець месца і перасоўка продажу сьвіней з аднаго году на другі, зьвязаныя з эпізоотыямі і дачыненьнем чыг. станцыяў, адпраўляўшых жывых сьвіней. На карысьць гэтага таксама кажа той факт, што ўва ўсе гады застаюцца ўсе станцыі, якія адпраўлялі жывых сьвіней, апрача таго, адпраўкі ўсіх станцыяў з году ў год вагаюцца паміж сабою ўзгоднена (гл. дадатак). Скарачэньне колькасьці сьвіней у 1911 г. паказваюць і дадзеныя ЦСК. Так што трэба прызнаць, што зьмены ў вывазе жывых сьвіней увесь час адбываліся пад уплывам, галоўным чынам, адных і тых самых прычын.

Застаецца яшчэ дапусьціць, што сярэднягубэрнская цана на бульбу, пры стракатасьці яе ўраджаю ў паасобных паветах разьвітае і няразь-

[1]) Тэхніку гэтага выроўніваньня гл. ў артыкуле Н. С. Четверикова ў зборніку Каньюнктурнага Інстытуту—„Вопросы коньюнктуры" вып. II. Москва, 1926 г.

[2]) Гэтыя заўвагі зрабіў мне праф. Н. Д. Кондратьев на папярэднім паведамленьні гэтае працы ў габінэце Сельска-Гаспадарчае Каньюнктуры Навукова-Дасьледчага Інстытуту Сельска-Гаспадарчае Эканоміі ў Маскве ў траўні 1928 году.

## Дыяграма №3.


Горадзенская губ.
Вывоз жыв. сьвін.
Васен. цана бульбы.
Ураджай бульбы
У %% ад ураўня
150
140
130
120
110
100
90
80
70
60
1893 94 95 96 97 98 99 900 01 02 03 04 05 06 07 08 09 10 11 12 13 вывоз
1892 93 94 95 96 97 98 99 900 01 02 03 04 05 06 07 08 09 10 11 12 {цаны і ураджаі

вітае сьвінагадоўлі, дае манлівы малюнак зьмены мясцовых цэнаў, якія сапраўды рабілі ўплыў на памеры сьвінагадоўлі. Але павятовых цэнаў па Беларусі няма. Але з тае прычыны, што мясцовая цана на бульбу вызначаецца, галоўным чынам, ураджаем, што пацьвярджаецца параўнальна высокім каэфіцыэнтам корэляцыі, нават паміж сярэдня-губэрнскіх дадзеных, напрашваецца вывад—параўняць зьмену ўраджаю бульбы ў адным з пасеваў са зьменамі вывазу жывых сьвіней з гэтага самага павету. Тым больш, падобнае параўнаньне мае тую падставу, што збор бульбы дзейнічае вызначальным чынам на памеры сьвінагадоўлі, вярней за ўсё, ня толькі праз зьмену расцэнкі бульбы але і непасрэдна праз зьмену запасу асноўнага харчу для сьвіней.

Наступная дыяграма № 4 прадстаўляе зьмену ўраджаю бульбы і вывазу жывых сьвіней у Наваградзкім павеце, Менскай губэрні дзе была больш за ўсё разьвіта рынкавая сьвінагадоўля.

Перш за ўсё, дыяграма паказвае ізноў-жа выразна выяўленую правільную цыклёвасьць у вывазе жывых сьвіней. Пасьля, крывая вывазу жывых сьвіней і крывая ўраджаю бульбы мяняюцца, наогул, даволі ўзгоднена.

Значыцца, можна канстатаваць бязумоўную сувязь паміж штогоднімі зьменамі рынкавае сьвінагадоўлі і зборам бульбы. Сувязь гэтая зусім зразумелая, пакольні бульба ў дадзеным раёне зьяўляецца асноўным харчам для сьвіней. Але ўсё-ж, завесьці цыклявыя зьмены сьвінагадоўлі толькі да ваганьняў збору бульбы нельга. Калі мы ўважліва паглядзім на дыяграму № 4, дзе сувязь паміж гэтымі зьявамі выступае найбольш відавочна, дык усё-ж павінны будам прызнаць, што канцы гэтых крывых не даюць такога супаданьня, якое можна бачыць для іх сярэдзін, дзе сустракаем поўную простую залежнасьць паміж вывазам сьвіней і зборам бульбы папярэдняга году.

Але ў 1912 і 1898 г. г. мы бачым павялічэньне вывазу, хаця ў папярэднія гады было зьмяншэньне збору бульбы і, наадварот, перад зьмяншэньнем вывазу ў 1909, 1910, 1911 і 1896 г. г. былі гады з павялічэньнем збораў бульбы. Вядома, калі дапусьціць, што збор бульбы робіць уплыў на памеры сьвінагадоўлі на працягу двох наступных гадоў, што пры экстэнсіўным познасьпелым тыпе сьвінагадоўлі якраз магчыма, больш таго, што збор бульбы часткова вызначае нават колькасьць кормных сьвіней у тым самым годзе, а гэтым самым і памеры рынкавае сьвінагадоўлі,—што, вядома, у невялікай меры можа мець месца, пакольні адкармліваньне пачынаецца з верасьню і канчаецца ў сьнежані; і далей,—калі побач з памянёнымі акалічнасьцямі ўзяць яшчэ пад увагу памеры ваганьняў збору бульбы, з аднаго боку, і памеры ваганьняў вывазу сьвіней, з другога,—дык можна з некаторай відавочнай пераканальнасьцю растлумачыць гэтыя крывыя так, што паміж імі існуе пэўная залежнасьць, г. зн. вываз жывых сьвіней цалкам вызначаецца ўраджаем бульбы. Мяне ўсё-ж не задавальняла падобнага роду растлумачваньне. Я далей імкнуўся знайсьці крывую, якая больш поўна супадала-б з крывою вывазу сьвіней, чымся крывая ўраджаю бульбы. Апрача цэнаў на бульбу, выкарыстоўваліся цэны на іншыя харчы (збожжавыя), цэны на сьвіное сала і сьвініну, цэны на рабочую сілу. Выходзячы з дадзеных, атрыманых на падставе бюджэтаў, што дзеля вытворчасьці цэнтнэра жывое вагі сьвіньні патрэбна прыблізна 16 цэнтнэраў бульбы і 3 цэнтнэры мукі з розных гатункаў збожжа ў адпаведнай прапорцыі, быў вылічан кошт харчовае адзінкі. Дадаўшы да яго аплату працы, атрымаў амаль што поўныя вытворчыя выдаткі. Аднімаючы іх ад цаны прадуктаў сьвінагадоўлі—сьвініны, сала сьвінога—або сярэдняй з гэтых цэнаў, бо забойная

вага прыблізна пароўну дзеліцца на мяса і сала,—атрымоўваў німаль чысты прыбытак; браў таксама і суадносіны паміж цаною харчовае адзінкі і цэнамі памянёных прадуктаў сьвінагадоўлі. Усё-ж, ніводная з гэтых крывых не паказала выстарчальнага супаданьня з крывою вывазу сьвіней. Фактычна, крывая цэнаў на бульбу не паляпшалася, а пагоршвалася. Гэта зусім зразумела, бо сьвіньні ішлі на продаж пераважна ў жывым выглядзе; а супаданьне ў штогодніх зьменах мясцовых цэнаў на кормную сьвіньню, якая ішла на знадворны рынак, і на сьвіное сала і сьвініну, якія мелі толькі мясцовы рынак, як я ўжо зазначаў, мала праўдападобна.

Ізноў-жа, грунтуючыся на прыведзеныя ўжо меркаваньні, што на памеры рынкавае сьвінагадоўлі ў дадзеным годзе могуць рабіць уплыў цэны ня толькі папярэдняга году, але можа быць цэны гэтага году і цэны залеташняга году і г. д., можна было-б паспрабаваць шляхам мэханічнага выроўніваньня атрымаць рад, які-б больш падыходзіў. Але мне гэты шлях здаваўся простай падгонкай, прарабіць якую з радам у 20—25 членаў ня так ужо цяжка, тым больш, што ўва ўсе гэтыя рады ў якасьці кампанэнта ўваходзіць цана бульбы, паміж якою і памерамі сьвінагадоўлі мы ўжо ў нейкай меры канстатавалі сувязь. Але затое растлумачыць сувязь паміж выраўненымі такім чынам крывымі, а тым больш скарыстаць яе дзеля прагнозу, было-б надзвычайна цяжка. З гэтай прычыны я не пайшоў па шляху мэханічнага выроўніваньня і падгонкі. Я стаў шукаць цану, зьмена якое найбольш верна адлюстроўвала-б зьмену мясцовых цэнаў на жывую кормную сьвіньню ў дадзеным раёне.

Зразумела, што ў першую чаргу такою цаной павінна была быць цана бліжэйшага рынку збыту жывых сьвіней. Напрамак чыг. перавозак паказаў, што галоўнейшымі рынкамі збыту былі, па-першае, буйныя цэнтры самае Беларусі, як відаць,—Беласток, Менск і часткова Гомель, пасьля Польшчы,—Варшава, Лодзь. Аднак ні на адным з гэтых рынкаў цэнаў на кормных сьвіней і на прадукты сьвінагадоўлі за паказаны шэраг гадоў не аказалася. Але гэтыя рынкі былі ня толькі спажывецкімі асяродкамі, але і перадатачнымі пунктамі. Польшча была проста асноўным рынкам гандлю сьвіньнямі і прадуктамі сьвінагадоўлі. Адсюль, галоўным чынам, праз станцыю Саснавіцы штогод вывозілі, прыблізна, каля 100 тысяч штук жывых сьвіней замежы—выключна ў Нямеччыну. Экспортныя цэны жывых сьвіней з нарысаў аб замежным гандлі, а таксама цэны Саснавіцкага рынку з працы А. Кішкеля («Русский экспорт свиней в Германию», матэрыялы па перагляду гандлёвае ўмовы з Нямеччынай, вып. 10), аказваецца, не падыходзяць. З гэтай-жа працы Кішкеля відаць, што ў экспорце жывых сьвіней у Нямеччыну Горадзенская і Менская губэрні амаль ня прыймалі ўдзелу.

Але апрача жывых сьвіней у Нямеччыну экспартавалася таксама значная колькасьць сьвежай сьвініны. Значыцца, трэба меркаваць, што калі сьвіньні Горадзенскай і Менскай губэрняў ішлі ў Нямеччыну, дык яны ішлі, галоўным чынам, у выглядзе сьвежай сьвініны. Сапраўды, экспорт сьвежай сьвініны ў Нямеччыну выявіў правільную цыклёвасьць зусім аналёгічную цыклёвасьці чыг. перавозак сьвіней з Беларусі. Апрача таго, такую самую цыклёвасьць выявілі і нямецкія імпортныя цэны на сьвежую сьвініну. У наступнай дыяграме № 5 крывая вывазу сьвежай сьвініны ў Нямеччыну пабудована на падставе дадзеных аглядаў замежнага гандлю Расіі. Імпортныя-ж нямецкія цэны ўзяты з працы—К. С. Лейтес—«Размеры и условия снабжения

Дыяграма № 5



Вываз
Цана
110 1200
100 1150
90 1100
80 1050
70 1000
60 950
50 900
40 850
30 800
20 750
10 700
92
93
94
95
96
97
98
99
900
01
02
03
04
05
06
07
08
09
10
11
12
Вываз з Расіі ў Нямеччыну сьвежай сьвініны ў тысяч. пудоў.
Нямецкая імпортная цана тонны русійскай сьвеж. сьвініны ў марках.

Германии иностранным скотом и мясом». Харкаў, 1914 г. Абл. Кам. па Перагл. Рас.-Ням. Гандл. Ўмовы. Вып. IV.

Такім чынам відавочна, па-першае, правільная цыклёвасьць ваганьняў сьвінога рынку ў Нямеччыне, што выразна выяўлена і памянёным дасьледваньнем Каньюнктурнага Інстытуту ў Бэрліне, па-другое—поўнае супаданьне паміж гэтымі цыклямі і цыклямі чыг. перавозак жывых сьвіней на Беларусі. Відавочна таксама, што падобнае супаданьне на працягу 20—25-гадовага пэрыяду ня можа быць выпадковым супаданьнем. Неабходна толькі высьветліць, ці існуе паміж гэтымі зьявішчамі сувязь, ці яны вызначаюцца якім-небудзь трэцім зьявішчам, значыцца, самі па сабе зьяўляюцца толькі спадарожнікамі адно аднаго. Карочай кажучы, неабходна растлумачыць гэтую цыклёвасьць.

Перш за ўсё, я бліжэй дасьледаваў супаданьне крывых чыг. перавозак жывых сьвіней з Беларусі і цэнаў на нямецкім рынку. Дзеля гэтае мэты карыстаўся з памянёнае працы нямецкага Каньюнктурнага Інстытуту месячнымі цэнамі жывых сьвіней у Бэрліне. Наступная дыяграма № 6 прадстаўляе адхіленьне ў процантах ад узроўню, атрыманага шляхам аналітычнага выроўніваньня па параболе першага парадку—а) чыстага вывазу жывых сьвіней з Гарадзенскае губэрні, б) цаны ў Бэрліне сярэдняе за 15 месяцаў (год+3 апошніх месяцы папярэдняга году).

Супаданьне крывых вельмі поўнае. Каэфіцыэнт корэляцыі, хаця яму, як я ўжо зазначаў, нельга надаваць асабліва вялікага значэньня, паміж крывых роўніўся + 0,717.

Ізноў уздымаецца сумненьне, ці не характарызуюць дадзеныя чыг. перавозак толькі чыста гандлёвую каньюнктуру, г. зн. тады зусім зразумелай зьяўляецца сувязь паміж таварнай масай жывых сьвіней, прадуктамі сьвінагадоўлі і цэнамі канцавога асноўнага рынку збыту. Ці ёсьць даволі падставы меркаваць, што мясцовыя цэны на жывых сьвіней вагаюцца зусім узгоднена з ваганьнямі гэтых самых цэнаў на канцавым асноўным рынку збыту, бо для вытворца важны толькі мясцовыя цэны. Ці не парушаецца сувязь паміж рухам мясцовых цэнаў і цэнамі канцавога рынку на той самы прадукт, з прычыны зьменаў у гандлёвых выдатках, прыбытках і г. д.?

Пастараемся бліжэй дасьледаваць гэтыя пытаньні. Я ўжо прыводзіў агульныя, а таксама і некаторыя фактычныя меркаваньні на карысьць таго, што ў дынаміцы чыгункавых перавозак адлюстроўваецца ня толькі дынаміка продажу жывых сьвіней, але таксама колькасьць кормных сьвіней, а, значыцца, і агульныя памеры сьвінога статку. Памянёная праца нямецкага Каньюнктурнага Інстытуту дае новае пацьвярджэньне правільнасьці падобнага дапушчэньня (гл. дыягр. № 7). Яна паказвае, што са зьменамі рынкавых каньюнктур, г. зн. галоўным чынам цэнаў на прадукты сьвінагадоўлі, з аднаго боку, а з другога боку,—цэнаў на асноўныя харчы для сьвіней (бульба і ячмень),—зусім узгоднена з імі мяняецца ня толькі аб'ём таварнае масы прадуктаў сьвінагадоўлі на рынку, але таксама агульныя памеры сьвінога статку, нават яго склад, г. зн. колькасьць парасят, матак і г. д. З тае прычыны, што гэтыя дадзеныя ў сваю чаргу вызначаюць дынаміку цэнаў у будучыні, дык на падставе іх будуецца формула прагнозу сьвіных цэнаў на бліжэйшую будучыню.

Каб адказаць на пытаньне, ці існуе пагоджанасьць у дынаміцы паміж мясцоваю цаною на жывых сьвіней і іхняй цаною на канцавым рынку збыту, я скарыстаў дадзеныя Справаздач Палтаўскага Земства, дзе за параўнальна вялікі пэрыяд (прыблізна з 1890 г.) ёсьць ня толькі


Дыяграма № 6
Вываз жыв. сьвін. з Горадзенск. губ.
Цана жыв. сьвін. ў Бэрліне - сярэд. да 15 м. ў %% ад ураўню
(IX + XI + XII + I + II ....... + XII)
150
140
130
120
110
100
90
80
70
60
1893 94 95 96 97 98 99 900 01 02 03 04 05 06 07 08 09 10 11 12 13
1893 3-4 4-5 5-6 6-7 7-8 8-9 9-0 0-1 1-2 2-3 3-4 4-5 5-6 6-7 7-8 8-9 9-10 10-11 11-12 12-13

сярэдня-губэрнскія, але і сярэдня-павятовыя рынкавыя цэны на жывых сьвіней, прычым ня толькі сярэдня-гадавыя, але і па кварталах, нават часткова па месяцох. Напрамак чыгункавых перавозак паказаў, што жывыя сьвіньні вывозіліся з Палтаўшчыны галоўным чынам у Лібаву, значыцца, трэба думаць, прызначаліся ў пераважнасьці на ангельскі рынак. Гэта якраз давала падставу ўзяць са збору Таварных Цэнаў дынаміку цэнаў на сьвініну ў Лёндане, як асноўным канцавым рынку збыту, і супаставіць з дынамікаю мясцовых цэнаў на жывыя сьвіньні ў Палтаўскай губэрні.

На дыяграме № 8 перш за ўсё можна ўбачыць, што ў той час, як агульны ўзровень цэнаў на сьвініну ў Лёндане за азначаны пэрыяд быў амаль стацыянарным, агульны ўзровень мясцовых цэнаў на жывых сьвіней Палтаўшчыны паказвае імклівісты ўздым. Такую самую тэндэнцыю выявілі і амэрыканскія цэны, узятыя мною з памянёнае працы H. A. Wallace. Гэты ўздым цэнаў у раёнах вытворчасьці паказвае на той вялізарны стымул дзеля разьвіцьця сьвінагадоўлі на Палтаўшчыне, які стварыўся дзякуючы таму, што яна зьвязалася з сусьветным рынкам, а ня толькі з тае прычыны, што ўзрастала гушчыня насельніцтва і ў выніку гэтага выходзіў з роўнавагі працаспажывецкі балянс сялянскае сям'і.

Хай сабе гэты бурлівы ўздым мясцовых цэнаў на жывых сьвіней часткова зьвязан са зьменамі вагі і якасьці праданых сьвіней; я ня спыняюся падрабязьней на аналізе ўзроўню цэнаў, бо ў дадзеным выпадку ня гэты аналіз уяўляе для мяне асноўную цікавасьць [1]).

Калі зьмена ўзроўню мясцовых цэнаў на жывых сьвіней і іхніх цэнаў на канцавым рынку збыту ідзе няўзгоднена, дык штогодныя зьмены паказваюць поўнае супаданьне. Прычым, мы бачым ізноў правільную цыклёвасьць. Гэта кажа на карысьць зробленага намі дапушчэньня, што мясцовыя цэны на жывых сьвіней на Беларусі мяняліся з году ў год узгоднена з цэнамі на жывых сьвіней у Бэрліне. З гэтага ізноў-жа выходзіць, што, па-першае, супаданьне крывых чыгункавых перавозак сьвіней у Беларусі з крывымі цэнаў на сьвіньні ў Бэрліне ня ёсьць выпадковае, або толькі зьявішчы спадарожныя адно аднаму, а што яны ўзаемазьвязаны; па-другое, паколькі верна, што мясцовыя цэны на сьвіней у Беларусі мяняліся таксама, як і чыгункавыя перавозкі іх, значыцца ў апошняй можа адлюстроўвацца ня толькі зьмена аб'ёму таварнае масы, але і памеры вытворчасьці пад уплывам мясцовых цэнаў. Відавочна, што ў нормальных рынкавых умовах штогодняя зьмена гандлёвых выдаткаў і прыбыткаў не парушае тожсамасьці ў руху мясцовых цэнаў і цэнаў на канцавым рынку збыту. Такім чынам, наўрад ці меўшае месца супаданьне дынамікі мясцовых цэнаў Палтаўшчыны з цэнамі ў Лёндане пры аналёгічных умовах ня мела-б месца для Беларусі і Бэрліну.

З другога боку, гэтая дыяграма паказвае на тое, што правільная цыклёвасьць у дынаміцы сьвінога рынку мае месца ня толькі ў адносінах Нямеччыны і зьвязаных з ёю Польшчы і Беларусі, але і ў адносінах Англіі і Амэрыкі; значыцца, павінны быць нейкія агульныя ўмовы, якія вызначаюць правільную цыклёвасьць сусьветнага рынку прадуктаў сьвінагадоўлі. Перш чым перайсьці да аналізу гэтых умоў,

---

[1]) На прыкладзе, галоўным чынам, Палтаўскае губэрні, я мяркую зьвярнуцца да больш падрабязнага аналізу ўплыву рынкавых каньюнктур на дынаміку сьвінагадоўлі ў спэцыяльным артыкуле для зборніку, які мяркуюць выдаць пад рэдакцыяй прафэсара Н. Д. Кондратьева—Аб уплывах рынкавых каньюнктур на дынаміку розных галінаў сельскае гаспадаркі.


Дыяграма №8.
Сярэд. гадов. цана шт. жыв. сьвін. (ў рубл.) ў Кабеляк. пав. Палтаў. г.
" " " " " " " " " сярэднягубэр. ў Палтаўск. г.
" " " мяса сьв. 1-га сорту (ў рубл. запуд) ў Лёндоне.
Цана ў долярах за 100 фунтаў ў кукурузна-сьвінаводн. раёне Амэрыкі.
Амэрыка
Лёндон
Палтаўшчына
1889 1890 91 92 93 94 95 96 97 98 99 900 01 02 03 04 05 06 07 08 09 10 11 12 13 14

неабходна коратка спыніцца на дынаміцы сьвінагадоўлі Палтаўшчыны. Пры чым ізноў-жа паўтараю, што дадзенымі па Палтаўскай губэрні ды іншымі, я карыстаюся пастолькі, пакольки гэта неабходна дзеля высьвятленьня дынамікі сьвінагадоўлі на Беларусі.

Але Палтаўшчына ў адносінах разьвіцьця сьвінагадоўлі зьяўляецца далёка неаднастайнай. Пасьля 1890 году ў ёй пракладзена шмат новых чыгунак, якія ўцягвалі ў вытворчасьць прадуктаў сьвінагадоўлі ўсё новыя і новыя раёны, што ў значнай меры зацямняе пагубэрнскую дынаміку сьвінагадоўлі пад уплывам рынкавых умоў. Апрача таго, неабходна было ўзяць у падлік таксама вываз прадуктаў сьвінагадоўлі. З гэтай прычыны я ўзяў Кабелякскі павет, адзін з самых сьвінагадоўчых паветаў Палтаўшчыны; праз яго ўжо ў 1890 годзе была пракладзена чыгунка і склад чыгуначных станцыяў, да якіх цягацеў павет, увесь час заставаўся нязьменным. Каб зрабіць працу прасьцей, быў узят грузазварот жывых сьвіней толькі аднае станцыі Кабелякі, зьмешчанай амаль у цэнтры павету і якая была асноўнай станцыяй губэрні ў вадносінах адпраўкі сьвіней.

Перш за ўсё, ізноў можна ўбачыць (дыягр. № 9) выразна выяўленую цыклёвасьць у вывазе жывых сьвіней і яе сувязь з цыклёвасьцю мясцовых цэнаў кормных сьвіней, якія, як мы ўжо бачылі, поўнасьцю вызначаліся цэнамі Ангельскага рынку. Але, з другога боку, таксама выразна выяўлена залежнасьць вывазу сьвіней ад цэнаў прадуктаў, якія зьяўляюцца асноўнымі харчамі для сьвіней у дадзеным раёне. З гэтай прычыны, як і трэба было чакаць, суадносіны паміж цаною харчовае адзінкі і цаною прадуктаў вызначаюць аб'ём сьвінагадоўлі. Гэтае палажэньне зьяўляецца верным і ў адносінах да Нямеччыны. Значыцца, яго хутчэй за ўсё трэба прызнаць верным і ў адносінах да Беларусі.

Пастараемся цяпер сформуляваць тлумачэньне цыклёвасьці ў разьвіцьці рынкавае сьвінагадоўлі на Беларусі. Мы констатавалі супаданьне чыгункавых перавозак сьвіней у Беларусі, з аднаго боку, з ураджаямі бульбы, а з другога—з цэнамі на прадукты сьвінагадоўлі ў Нямеччыне. Ураджай бульбы робіць уплыў як на агульныя памеры сьвіногa статку, гэтак і на памеры выкармліваньня тым, што гаспадары маюць, то большы, то меншы, запас асноўнага сьвінога харчу, у сувязі з чым мяняецца расцэнка яго, як аднаго з элемэнтаў вытворчых выдаткаў. Цэны нямецкага рынку, вызначаючы мясцовыя цэны жывых сьвіней на Беларусі, рабілі ўплыў як на памеры рынкавасьці, гэтак і на памеры выкармліваньня і агульныя памеры статку, што проста або ўкосна адлюстроўвалася ў чыгункавых перавозках.

Вядома, ўзгодненая зьмена крывое перавозак з крывою ўраджаю бульбы і крывою цэнаў на прадукты сьвінагадоўлі на нямецкім рынку мажліва толькі пры ўмове, што дзьве апошнія крывыя мяняюцца даволі ўзгоднена паміж сабою. Толькі дзякуючы гэтаму, чыгункавыя перавозкі сьвіней у Беларусі даюць выразна выяўленую правільную цыклёвасьць. Але, з другога боку, узьнікае таксама пытаньне аб узаемасувязі гэтых зьяў.

З тае прычыны, што ўвозныя прадукты сьвінагадоўлі ў тэй агульнай масе гэтых прадуктаў, што спажывалася нямецкім рынкам, складалі нязначную долю (1—4 проц.) [1]), трэба прызнаць толькі з аднаго боку залежнасьць паміж перавозкамі сьвіней у Беларусі і цэнамі на

[1]) „Рэзюмуючы, можна сказаць, увоз замежнага сьвінога мяса, сала і жывых сьвіней у Нямеччыну да вайны быў у да таго нязначных колькасьцях, што ён ня мог мець значнага ўплыву на стварэньне цэнаў у Нямеччыне" (стар. 27, памянёная праца Нямецкага Каньюнктурнага Інстытуту).

Дыяграма № 9. Кабелякскі павет Палтаўскай губ.



сьвіньні ў Нямеччыне, г. зн., што апошнія вызначалі першыя, а не наадварот. Відавочна таксама, што ніякае простае сувязі паміж ураджаем бульбы ў Беларусі і цэнамі на прадукты сьвінагадоўлі на нямецкім рынку быць ня можа. Значыцца, калі іхняе супаданьне не выпадковае, дык застаецца толькі дыпусьціць, што яны абодва зьвязаны непасрэдна або пасрэдна з якою-небудзь умоваю, якая іх вызначае. Самым вярнейшым мне ўяўляецца наступнае дапушчэньне. Цыклёвасьць Нямецкага рынку прадуктаў сьвінагадоўлі зьвязана з ураджаем бульбы ў Нямеччыне, які вагаўся пад уплывам адных і тых самых мэтэаралёгічных умоў даволі ўзгоднена з ураджаямі бульбы на Беларусі.

Прывядзём толькі некаторыя фактычныя меркаваньні на карысьць зробленага дапушчэньня, бо падрабязны аналіз завёў-бы вельмі далёка і патрабаваў-бы вялікае і дакладнае статыстычнае працы. Што ўраджаі бульбы на Беларусі і ў Нямеччыне вагаліся даволі ўзгоднена, пацьвярджаецца тым фактам, што гады вельмі дрэнных ураджаяў бульбы ў Нямеччыне, 1896, 1897, 1904 і 1911, зьяўляюцца гадамі са зьменшанымі ўраджаямі бульбы ў Гарадзеншчыне, і наадварот, гады з павялічанымі ўраджаямі бульбы ў Нямеччыне, 1895, 1901, 1905 і 1912 г. г., зьяўляюцца гадамі павялічэньня ўраджаяў і ў Гарадзеншчыне.

Ваганьні-ж ураджаяў бульбы, асабліва яе вострыя адхіленьні ад узроўню, вярней за ўсё знаходзяцца ў залежнасьці ад колькасьці вопадзі на працягу траўню, чэрвеню і ліпню. Сапраўды, гады вялікіх неўраджаяў бульбы ў Меншчыне ў 1894, 1899, 1903 і 1906 г. г. характарызуюцца па дадзеных мэтэаралёгічнай станцыі ў Васілевічах вялікім лішкам вопадзі ў траўні, чэрвені і ліпені.

Аналёгічнае становішча вызначаюць амэрыканскія дасьледчыкі ў адносінах кукурузы і сьвіней [1]). «Ваганьне цэнаў на кукурузу вакол нормальных адносін паміж імі і агульным узроўнем цэнаў абумоўлівалася, галоўным чынам, ваганьнем памераў збору, а гэтае, у сваю чаргу, амаль цалкам вызначалася характарам надвор'я на працягу 6 летніх месяцаў» (стар. 238). «Статыстычны матар'ял паказвае, што цэны на кукурузу ў сьнежані на фэрмах Злучаных Штатаў, пад уплывам памераў ураджаю, вагаліся ўгару і ўніз наступным чынам: зьмяншэньне збору на 20 проц. ніжэй нормальнага павялічвае цэны на 30 проц. вышэй нормальных, значыцца, зьмяншэньне ўраджаю толькі на 10 проц. павялічвае цэны на 15 проц., а павялічэньне збору на 10 проц. вышэй нормальнага зьмяншае цэны прыблізна на 8 проц. ніжэй нормальных. Адваротная залежнасьць паміж сярэднім ураджаем кукурузы з акру і цаною выяўляецца, прыблізна, каэфіцыэнтам корэляцыі ў 0,8» (стар. 240). «Дзеля мэтаў прараканьня, цэны на кукурузу зьяўляюцца лепшым баромэтрам будучых цэнаў на сьвіньні, чымся цэны на сьвіньні, як баромэтр будучых цэнаў на кукурузу» (стар. 237). «Становішча сьвінагадоўлі рэдка робіць уплыў на кукурузу; часьцей кіруе кукуруза, а сьвіньні сьледуюць за ёю» (стар. 242). «Кукурузава-сьвіныя цыклі могуць быць каротка апісаны наступным чынам: пачнем, дапусьцім, з таго, што невялікі ўраджай кукурузы і цана на яе вялікая і што фэрмэры знаходзяць стратнымператвараць кукурузу ў сьвіное мяса, бо гэта дае менш нормальнага прыбытку на капітал. У выніку гэтага яны скарачаюць гадоўлю; прыблізна праз 18 месяцаў сьвінагадоўля скарачаецца, у выніку чаго цэны на прадукты сьвінагадоўлі ўздымаюцца. Калі няма неўраджаю куку-

[1]) Гл. памянёную працу H. A. Wallace.

рузы, цэны на прадукты сьвінагадоўлі ў адносінах да цэнаў на кукурузу становяцца значна большымі. Фэрмэры ізноў пачынаюць пашыраць гадоўлю сьвіней, у выніку чаго, прыблізна праз 18 месяцаў, мы маем першапачатковае становішча» (стар. 242).

Суадносіны паміж цэнамі на кукурузу і на сьвіньні зьяўляюцца лепшым паказальнікам аб'ёму сьвінагадоўлі ў наступным годзе. Але, з другога боку, самыя цэны на сьвіньні вызначаюцца аб'ёмам сьвінагадоўлі. З гэтай прычыны, ведаючы сувязь паміж усімі гэтымі велічынямі, можна пабудаваць формулу прагнозу ня толькі аб'ёму сьвінагадоўлі, але і цэнаў на прадукты сьвінагадоўлі.

Цяпер застаецца яшчэ формуляваць агульныя ўмовы цыклёвасьці рынку прадуктаў сьвінагадоўлі і мэханізм гэтае цыклёвасьці. Раскладом задачу. Перш за ўсё пастараемся высьветліць тыя агульныя акалічнасьці, якія вызначаюць хвалявіднае, а не просталінейнае разьвіцьцё сьвінагадоўлі. Пасьля неабходна адшукаць акалічнасьці, якія вызначаюць даўжыню цыклю. І, нарэшце, умовы, якія вызначаюць крызісавы характар гэтых цыкляў, г. зн. што яны не выяўляюць правільна сімэтрычных хваляў, разьмешчаных угару і ўніз ад узроўню, а даюць больш плынную ніжэйшую хвалю і больш войструю вышыню (характэрная дэталь, якая паказвае на аналёгічную прыроду гэтых цыкляў з агульнагаспадарчымі цыклямі).

Няўхілінасьць хвалявіднага, а не просталінейнага руху відавочна, паколькі дапасаваньне паміж сабою попыту і прапановы адбываецца стыхійна, як той казаў,—у сьляпую, вобмацкам; прычым, умовы, якія вызначаюць як памеры попыту, гэтак і памеры прапановы, безупынна мяняюцца, і ў большасьці выпадкаў ня роўнамерна, а штуршкамі. Толькі ў строга стацыянарнай або плянавай народнай гаспадарцы мажліва поўнае дапасаваньне попыту да прапановы, а, значыцца, і просталінейнае разьвіцьцё. Ва ўмовах-жа рынкавае гаспадаркі, якая стыхійна разьвіваецца, жаданьне ўсіх прадпрыёмцаў максімальна выкарыстаць высокую рынкавую каньюнктуру няўхільна прыводзіць да адноснае перавытворчасьці ў дадзенай галіне. Складаныя пытаньні аб магчымасьцях і падставах агульнае перавытворчасьці тутака ня маюць месца, бо відавочна, што паасобная галіна ў народнай гаспадарцы, напрыклад, сьвінагадоўля, ня можа пашырацца бязьмежна. Адносная перавытворчасьць прадуктаў сьвінагадоўлі можа быць выклікана таксама акалічнасьцямі, якія знаходзяцца і на баку попыту гэтых прадуктаў.

Даўжыня цыклю, перш за ўсё, знаходзіцца ў сувязі з тэхнічнымі ўмовамі, якія вызначаюць даўжыню пэрыяду вытворчасьці дадзенага прадукту. У дадзеным выпадку 3-4-гадовая даўжыня цыклю тлумачыцца тым, што сьвіньні паступаюць на рынак прыблізна ва ўзросьце 1—1½ гадоў плюс каля 4 мес. пароснасьці сьвіньні. Значыцца, вынікі чыннасьці гаспадароў могуць выявіцца ў перагібе хвалі ўгару або ўніз толькі праз гэты тэрмін, які можа быць крыху модыфікаваны выпадковымі акалічнасьцямі, напрыклад, ураджаем.

Але пры наяўнасьці толькі памянёных акалічнасьцяй цыклёвасьць была-б роўнамерна плыннаю. Войстрасьць-жа перагібаў крывое і самы размах (вышыня) хваляў знаходзяцца ў сувязі часткова з нахілам прадпрыёмцаў у пэрыяд уздыму каньюнктуры ўяўляць яе яшчэ больш спрыяльнаю і, наадварот, у пэрыяд зьніжэньня—яшчэ горшай, чымся яна ёсьць у рэчаіснасьці. Гэтую рысу Петражыцкі назваў оптымістычнаю і пэсімістычнаю надбаўкаю. Больш важным момантам зьяўляюцца выпадковыя акалічнасьці. У дадзеным выпадку гэта будзе ўраджай прадуктаў, якія зьяўляюцца асноўнымі харчамі для сьвіней. Усё-ж

неабходна падкрэсьліць, што завесьці цыклёвасьць рынку прадуктаў сьвінагадоўлі толькі да ваганьняў ураджаю нельга. Бяз іншых памянёных акалічнасьцяй, пад уплывам толькі ваганьняў ураджаяў, гэтая цыклёвасьць ня мела-б такога правільнага характару. Ваганьне ўраджаяў толькі з аднаго боку ўскладняе, відазьмяняе, правільную роўнамернасьць цыкляў, а з другога боку робіць гэтыя цыклі асабліва пукатымі і з войстрымі перагібамі крывое.

Папярэдні характар гэтае працы вызваляе мяне ад абавязку даць, у сувязі з паказанымі акалічнасьцямі, вычэрпальнае канкрэтна-гістарычнае апісаньне цыклёвасьці рынкавае сьвінагадоўлі ў Беларусі на фоне дынамікі агульнагаспадарчых умоў, таксама як і раней я адмовіўся ад шмат якіх падрабязнасьцяй. Зьвязана гэта ў значнай меры і з недахопам адпаведных статыстычных матар'ялаў. Гэтымі меркаваньнямі я хачу мотываваць таксама і тое, чаму я не раблю спробы пабудаваць формулу прагнозу аб'ёму рынкавае сьвінагадоўлі на Беларусі.

Ва ўмовах плянавага гаспадараньня пабудаваць прагноз яшчэ цяжэй і рызыкоўней, чымся ва ўмовах гаспадаркі, якая стыхійна разьвіваецца, бо ў першым менш адносна ўстойлівых законамернасьцяй, якія стыхійна складаюцца, але аб якіх можна даведацца, а больш адвольнага, мэтавага ўмешваньня, характар і вынікі якога прадбачыць надзвычайна цяжка. Значыцца, гаспадараньне, якому больш за ўсё патрэбен прагноз, стаіць і перад найвялікшымі цяжкасьцямі пры пабудове правільнага прагнозу. Адно бязумоўна, што чым лепш будуць вывучаны ўмовы разьвіцьця тое ці іншае галіны гаспадаркі, чым больш будуць пашырацца магчымасьці прагнозу яе далейшага разьвіцьця, значыцца, тым дапасаваней да гэтых умоў, г. зн., тым роўнамерней здолее ісьці разьвіцьцё гэтае галіны гаспадаркі. У гэтым-жа напрамку будзе дзейнічаць і тая акалічнасьць, што значэньне «знадворных» адносна выпадковых акалічнасьцяй, як неўраджаі, будзе ўсё меншаць, па меры таго, як гэтыя акалічнасьці будуць рабіцца ўсё менш выпадковымі, г. зн. больш зразумелымі, разумеючы выпадковасьць, як незразумелую неабходнасьць.

*Дадатак 1.*

| №№ па парадку | ПРОЗЬВІШЧА | ПАСЕЛІШЧА | Аддегл. ад Слуцку (у км.) | ХАРАКТАРЫСТЫКА СЯМ'І: Удзел у каапэр.: Якое | Удзел у каапэр.: Год паст. | Удзел у каапэр.: Сума ўзнос. у руб. | Работнікі: м. | Работнікі: ж. | Поўработнікі: м. | Поўработнікі: ж. | Дзяцей і старэйш., якія працавалі ў гаспад. | Непрацаздольных | Усяго душ сям'і: м. | Усяго душ сям'і: ж. | Усяго душ сям'і: Разам | Едакоў у пераводзе на даросл. мужчын. | Работнікаў у пераводзе на даросл. муж. | Лік дзён-едакоў не харчав. ў гас-цы | Лік дзён нанятых падзённа і зьдзельна: м. | Лік дзён нанятых падзённа і зьдзельна: ж. | Лік харчаваньня іх у гаспадарцы | Аддадзены раб. сілы (дні): м. | Аддадзены раб. сілы (дні): ж. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| 1 | Лагун. Д. М.. | Казловічы (хутары) | 5 | — | — | — | 1 | — | 1 | — | — | 2 | 4 | — | 4 | 2,4 | 1,8 | — | — | 27 | 11,2 | — | — |
| 2 | Трафімов. Г. П. | „ (хутары) | 5 | п/о Кр. | 1925 | 12 | 2 | 1 | — | — | 2 | 2 | 4 | 4 | 8 | 5,1 | 3,6 | 6,0 | — | 4 | 3,2 | 24 | — |
| 3 | Трафімов. М. П. | „ (хутары) | 5 | Кр. | 1924 | 6 | 3 | 3 | 1 | — | — | 3 | 6 | 4 | 10 | 7,6 | 6,2 | 268 | 17 | 5 | 14,0 | 11 | 2 |
| 4 | Жаўрыд Ф. Ф. | в. М. Сьліўка | 8 | Кр. | 1926 | 6 | 4 | 3 | 1 | — | — | — | 5 | 3 | 8 | 6,9 | 6,9 | 670 | 3 | — | — | 52 | 1 |
| 5 | Вішнеўскі А. К. | „ | 8 | — | — | — | 2 | 2 | 1 | — | 1 | — | 3 | 3 | 6 | 4,9 | 4,8 | 460 | 14 | 11 | 22,8 | 10 | — |
| 6 | Забродскі М. В. | в. Ужа . . | 20 | п/о | 1924 | 3,5 | 2 | 1 | — | — | 2 | — | 3 | 2 | 5 | 4,2 | 4,2 | 371 | 1 | 3 | 3,4 | 6 | — |
| 7 | Арлоўскі М. В. | „ . . . | 20 | — | — | — | 1 | 2 | 1 | 1 | — | — | 2 | 3 | 5 | 4,0 | 4,0 | 150 | — | — | — | 20 | 22 |
| 8 | Забродскі А. С. | „ . . . | 20 | п/о | 1922 | 3,0 | 1 | 1 | 1 | — | 1 | 2 | 5 | 1 | 6 | 3,7 | 3,1 | — | — | 29 | 6,4 | 155 | 20 |
| 9 | Забродскі А. П. | „ . . . | 20 | п/о і м. арт. | 1922 1927 | 13,0 | 1 | 1 | — | — | 1 | 4 | 2 | 5 | 7 | 3,5 | 2,4 | — | — | 6 | 4,5 | 53,5 | — |
| 10 | Кіеня Д. А. . | с. Семежава . | 35 | п/о Кр. | 1925 | 11,5 | 3 | 2 | — | — | — | 3 | 3 | 5 | 8 | 5,8 | 4,6 | 365 | — | 11 | 8,0 | 13 | — |
| 11 | Макуцэвіч С. А. | „ . | 35 | п/о | 1921 | 5,0 | 1 | 2 | — | 1 | 1 | — | 2 | 3 | 5 | 4,0 | 4,0 | 2,0 | — | — | — | 31 | 10 |
| | | Разам . | — | — | — | 60,0 | 21 | 18 | 6 | 2 | 8 | 16 | 39 | 33 | 72 | 52,1 | 45,6 | 2292 | 34 | 96 | 73,8 | 375,5 | 55 |

| №№ па парадку | ЗЕМЛЕКАРЫСТАНЬНЕ (у гэктарах) | | | | | | | | | | | | | РАЗЬМЕРКАВАНЬНЕ РАЛЬЛІ (у гэктарах) | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Сядзіба | | | | | Сенажаць | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | Усяго | У тым ліку пад гародамі і садамі | Лік дрэваў у садзе: Яблынь | Лік дрэваў у садзе: Ігруш | Ральля | Усяго | У тым ліку балотныя | Выган | Усяе зямлі с.-г. прызначэньня | Лес і хмызьняк | Нягожая | Усяго ў арэнду сенажаці | Усяго зямлі ў карыстаньні | Зім. жыта | Зім. пшаніца | Авёс | Ячмень | Бульба | Віка | Канюшына пасеву 1925 г. | Лён | Інш. ярына | Усяго пасеву | Незанят. папар |
| | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 | 35 | 36 | 37 | 38 | 39 | 40 | 41 | 42 | 43 | 44 | 45 | 46 | 47 | 48 |
| 1 | 0,27 | 0,11 | 10 | 18 | 3,01 | 1,64 | — | 1,09 | 6,01 | — | — | — | 6,01 | 0,82 | 0,19 | 0,73 | — | 0.27 | — | 0,99 | — | 0,01 | 3,01 | — |
| 2 | 0,27 | 0,11 | 7 | 5 | 3,55 | 2,74 | 0,55 | 1,64 | 8,20 | — | — | — | 8.20 | 0,98 | 0.11 | 0,82 | — | 0,55 | 0,27 | 0,55 | 0,16 | 0,11 | 3,55 | — |
| 3 | 0,27 | 0,07 | — | — | 7,11 | 7,98 | 2,52 | 2,19 | 17.55 | — | — | — | 17,55 | 1.91 | 0,27 | 1,64 | 0,27 | 0,55 | — | 2,19 | 0,16 | 0,12 | 7,11 | — |
| 4 | 0,22 | 0,11 | 5 | 10 | 6,44 | 2,74 | 2,19 | 2,19 | 11,59 | 1,09 | — | 1,64 | 14,32 | 1,64 | 0,27 | 1,91 | 0,11 | 0,76 | — | 0,33 | 0,27 | 0,06 | 5,35 | 1,09 |
| 5 | 0,24 | 0,15 | 50 | 25 | 6,01 | 3.83 | 1,64 | — | 10,08 | 2,19 | — | — | 12,27 | 1,62 | 0,22 | 1,62 | — | 0,74 | — | 0,50 | 0,17 | 0,05 | 4,92 | 1,09 |
| 6 | 0,26 | 0,09 | — | — | 6,01 | 3,61 | 1,64 | 1,09 | 10.97 | — | — | — | 10,97 | 1,64 | 0,13 | 0,96 | 0,44 | 1,09 | 0,13 | — | 0,14 | 0,55 | 5,08 | 0,93 |
| 7 | 0,10 | 0,06 | — | — | 6,77 | 3,83 | 3,28 | 1,09 | 11,79 | — | — | — | 11,79 | 2,19 | 0,19 | 1,42 | 0,33 | 0,82 | 0,55 | — | 0,17 | 0,39 | 6.06 | 0,71 |
| 8 | 0,27 | 0,16 | 7 | 4 | 9,72 | 3.28 | 1,64 | 0.55 | 13,82 | — | — | — | 13,82 | 2,19 | 0,16 | 2,19 | 0,44 | 1,09 | 0,22 | 0,33 | 0,27 | 0,64 | 7,53 | 2,19 |
| 9 | 0,27 | 0,15 | 6 | 14 | 8,21 | 1,09 | — | 0,55 | 10,12 | — | — | 1,09 | 11,21 | 1,64 | 0,27 | 1,09 | 0,49 | 1,09 | — | 1,25 | 0,11 | 0,63 | 6,57 | 1,64 |
| 10 | 0,13 | 0,06 | 14 | 77 | 7,11 | 1,53 | — | 1,64 | 10,41 | — | — | 1,64 | 12.05 | 2,19 | 0,17 | 1,36 | 1,09 | 0,82 | — | 0,82 | 0,11 | 0,13 | 6,69 | 0,42 |
| 11 | 0,15 | 0,12 | — | — | 4,08 | 0.27 | 0,27 | 1,75 | 6,25 | — | — | 2,19 | 8,44 | 1.36 | 0.11 | 0,82 | 1,33 | 0,68 | — | 0,33 | 0,14 | 0,09 | 3,86 | 0,22 |
| | 2,45 | 1,19 | 99 | 83 | 68,02 | 32,54 | 13,73 | 13,78 | 116,79 | 3,28 | — | 6,56 | 126,63 | 18.18 | 2,09 | 14,56 | 3,50 | 8,46 | 1,17 | 7,29 | 1,70 | 2.78 | 59,73 | 8,29 |

| №№ па парадку | КОЛЬКАСЬЦЬ УГНАЕНЬНЯ (у цэнтнэрах) | | | | | | | | | ЛІК У ПАЧАТКУ БЮДЖЭТНАГА ГОДУ | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Вывезена гною пад: | | | | | | Мінэральныя | | | Коні | | | |
| | Зімовае | Бульбу | Ячмень | Інш. ярыну | Гарод | Разам | Назва | Колькасьць | Пад якую культуру | Рабочых | Ад 1 году да рабоч. узрост. | Жарабят да 1 году | Усяго |
| | 49 | 50 | 51 | 52 | 53 | 54 | 55 | 56 | 57 | 58 | 59 | 60 | 61 |
| 1 | 197 | 131 | — | — | — | 328 | — | — | — | 1 | 1 | — | 2 |
| 2 | 153 | 93 | — | — | — | 246 | томас-шлак | 1,3 | авёс | 1 | 1 | 1 | 3 |
| 3 | 480 | 98 | — | 27 | 51 | 656 | — | — | — | 2 | — | — | 2 |
| 4 | 369 | 130 | — | — | 49 | 548 | попел | 0,5 | з ім | 3 | — | — | 3 |
| 5 | 287 | 205 | — | — | 41 | 533 | — | — | — | 1 | 1 | — | 2 |
| 6 | 155 | 269 | 103 | 27 | 12 | 566 | — | — | — | 2 | 1 | 1 | 4 |
| 7 | 218 | 92 | 75 | — | 17 | 402 | — | — | — | 2 | — | — | 2 |
| 8 | 197 | 246 | 61 | 45 | 16 | 565 | — | — | — | 2 | 1 | — | 3 |
| 9 | 197 | 229 | 49 | 59 | 16 | 550 | — | — | — | 2 | — | — | 2 |
| 10 | 106 | 205 | 328 | 74 | — | 713 | — | — | — | 3 | — | — | 3 |
| 11 | 82 | 98 | 66 | — | 49 | 295 | — | — | — | 2 | — | — | 2 |
| | 2441 | 1796 | 682 | 232 | 251 | 5402 | томасшл.<br>попел | 1,3<br>0,5 | — | 21 | 5 | 2 | 28 |

| №№ па парадку | Быдла | | | | | Авечкі | | | Сьвіньні | | | | Усяго галоў жывёлы | Птушкі | | | | Пчолы | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Бугаёў старш. 1 году | Кароў | Цёлкі і бычкі старэй году | Цялятаў да году | Усяго галоў | Дарослых | Ягнят | Усяго галоў | Дарослых | Падсвінкаў | Парасят | Усяго галоў | | Курэй | Качак | Гусей | Разам | Рамавых | Калод | Разам |
| | 62 | 63 | 64 | 65 | 66 | 67 | 68 | 69 | 70 | 71 | 72 | 73 | 74 | 75 | 76 | 77 | 78 | 79 | 80 | 81 |
| 1 | — | 2 | — | — | 2 | 5 | — | 5 | 3 | 1 | — | 4 | 13 | 6 | — | — | 6 | — | — | — |
| 2 | — | 2 | — | 1 | 3 | 4 | 3 | 7 | 3 | 5 | — | 8 | 21 | 8 | — | — | 8 | — | — | — |
| 3 | — | 4 | 2 | 1 | 7 | 4 | 3 | 7 | 5 | 4 | 12 | 21 | 37 | 2 | — | — | 2 | — | — | — |
| 4 | — | 3 | 3 | — | 6 | 4 | 4 | 8 | 4 | 3 | — | 7 | 24 | 4 | — | — | 4 | — | — | — |
| 5 | — | 3 | 2 | — | 5 | 4 | 4 | 8 | 2 | 3 | 14 | 19 | 34 | 5 | 2 | — | 7 | — | 8 | 8 |
| 6 | — | 2 | 1 | — | 3 | 5 | 7 | 12 | 1 | — | 4 | 5 | 24 | 12 | — | — | 12 | — | — | — |
| 7 | — | 2 | 1 | 2 | 5 | 5 | 4 | 9 | 2 | 1 | 4 | 7 | 23 | 5 | — | — | 5 | — | — | — |
| 8 | — | 3 | 2 | — | 5 | 5 | 6 | 11 | 5 | 2 | 4 | 11 | 30 | 6 | — | — | 6 | — | — | — |
| 9 | — | 2 | 2 | — | 4 | 5 | 4 | 9 | 3 | — | 8 | 11 | 26 | 6 | — | — | 6 | — | — | — |
| 10 | 1 | 3 | 1 | 1 | 6 | 3 | 3 | 6 | 3 | — | — | 3 | 18 | 3 | 2 | 6 | 11 | 9 | — | 9 |
| 11 | — | 2 | — | 2 | 4 | 3 | 3 | 6 | 2 | — | — | 2 | 14 | 5 | — | — | 5 | — | — | — |
| | 1 | 28 | 14 | 7 | 50 | 47 | 41 | 88 | 33 | 19 | 46 | 98 | 264 | 62 | 4 | 6 | 72 | 9 | 8 | 17 |

## КАПІТАЛЫ ГАСПАДАРКІ Ў ПАЧАТКУ БЮДЖЭТНАГА ГОДУ (у рублях)

| №№ па парадку | Жывёла | | | | | | | | | Гаспадарч. буд. | | Няжывы інвэнт. | | | | | | Запасы | | | | | | Усіх капіталаў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Коні | | Быдла | | Сьвіньні | Авечкі | Птушкі | Пчолы | Усяго | Усі | У тым ліку хлявы для жывёлы | Машын і прылад. | | | Транспортн. інвэнтар | Інш. інвэнтар | Разам | Натур. дзеля с.-г. ужытку | | | Грошы і вартыя паперы | Абвязкі (—) і правы (+) гаспадаркі | Усяго | |
| | Усі | У т. ліку рабочыя | Усяго | У т. ліку кароў | | | | | | | | Усі | У т. ліку малатарні і векі | У т. ліку сячкарні | | | | С.-гаспадарч. | Лясныя матар. | Гной | | | | |
| | 82 | 83 | 84 | 85 | 86 | 87 | 88 | 89 | 90 | 91 | 92 | 93 | 94 | 95 | 96 | 97 | 98 | 99 | 100 | 101 | 102 | 103 | 104 | 105 |
| 1 | 400 | 200 | 150 | 150 | 100 | 30 | 6 | — | 686 | 730,8 | 143,6 | 17,9 | — | — | 103,6 | 11,3 | 132,7 | 650,6 | 221,5 | — | 167 | — | 1039,1 | 2588,6 |
| 2 | 435 | 250 | 120 | 110 | 140 | 22 | 8 | — | 725 | 601,8 | 215,0 | 21,3 | — | — | 108,5 | 38,9 | 168,7 | 543,2 | 330,0 | — | 150 | +10 | 1033,2 | 2528,8 |
| 3 | 600 | 600 | 405 | 280 | 434 | 28 | 2 | — | 1469 | 777,0 | 161,6 | 335,5 | 174,1 | — | 172,6 | 230,3 | 738,4 | 826,4 | 40,0 | 22,5 | 15 | + 5 | 908,9 | 3893,2 |
| 4 | 500 | 500 | 305 | 250 | 140 | 20 | 2 | — | 967 | 178,0 | 73,0 | 140,4 | 78,3 | 32,1 | 158,5 | 151,7 | 450,5 | 478,2 | 188,0 | — | 120 | + 5 | 791,2 | 2386,7 |
| 5 | 230 | 150 | 230 | 155 | 185 | 38 | 6,5 | 64 | 753,5 | 978,1 | 129,5 | 55,0 | — | 21,8 | 106,7 | 31,3 | 193,0 | 311,6 | 85,8 | 12,5 | 200 | — | 609,9 | 2534,4 |
| 6 | 230 | 160 | 180 | 150 | 56 | 61 | 7,2 | — | 534,2 | 859,9 | 316,7 | 51,5 | — | — | 111,4 | 14,9 | 177,7 | 349,5 | — | — | — | + 3 | 352,5 | 1924,2 |
| 7 | 320 | 320 | 187 | 135 | 79 | 28 | 3,5 | — | 617,5 | 600,3 | 240,8 | 44,3 | — | 21,4 | 77,3 | 36,1 | 157,7 | 327,2 | — | — | 320 | — | 647,2 | 2022,8 |
| 8 | 600 | 500 | 285 | 229 | 221 | 47 | 3,6 | — | 1156 | 1388,2 | 516,7 | 238,7 | 117,4 | 48,3 | 184,3 | 41,8 | 464,8 | 391,2 | 87,0 | — | 55 | + 3 | 536,2 | 3545,1 |
| 9 | 450 | 450 | 200 | 140 | 114 | 34 | 3,0 | — | 801 | 669,6 | 208,3 | 573,8 | 479,0 | 52,5 | 135,9 | 19,0 | 728,6 | 359,5 | 11,0 | 2,0 | — | +13 | 385,5 | 2584,7 |
| 10 | 540 | 540 | 167 | 90 | 95 | 21 | 15,5 | 90 | 928,5 | 447,8 | 104,7 | 87,2 | 8,6 | 42,4 | 74,4 | 115,4 | 277,1 | 340,2 | 16,0 | 1,3 | 100 | +10 | 467,5 | 2120,9 |
| 11 | 290 | 290 | 109 | 95 | 100 | 20 | 5,0 | — | 524 | 862,9 | 220,9 | 37,6 | — | — | 134,0 | 55,2 | 226,7 | 234,7 | 60,0 | — | 200 | + 5 | 499,7 | 2113,2 |
| | 4595 | 3960 | 2338 | 1784 | 1664 | 349 | 61,7 | 154 | 9161,7 | 8094,4 | 2330,2 | 1603,2 | 426,4 | 218,5 | 1367,2 | 745,9 | 3715,9 | 4812,3 | 1039,3 | 38,3 | 1327 | +54 | 7270,9 | 28243,6 |

ЗЬМЕНЫ Ў КАШТОЎНАСЬЦІ БУДЫНКАЎ, НЯЖЫВОГА ІНВЭНТАРУ І ЗАПАСАЎ ПАД КАНЕЦ ГОДУ (у рубл.)

| №№ па парадку | Будынкі | | | | | Няжывы інвэнтар | | | | | | | Запасы | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Кошт усіх гаспадарчых будынкаў у пачатку году | Сума амартызацыі | Кошт рамонту і пастаўл. новых (+) згарэла і інш. (—) | Кошт іх пад канец году | Зьмены павяліч. (+), зьмяншыць (—) | Кошт усяго няжывого інвэнтару ў пачатку году | Сума амартызацыі | Рамонт | Прыбыла (куплена, зроблена самімі) | Убыла (прададзена, сапсавалася і г. д.) | Кошт пад канец году | Зьмены павяліч. (+), зьменш. (—) | Зьмены с.-г. запасаў: павяліч. (+), зьменш. (—) | Зьмены запасаў лясных матэр.: павяліч. (+); зьменш. (—) | Зьмены кошту жывёлы: павяліч. (+), зьменш. (—) | Зьмены грошай павяліч. (+), зьмяншш. (—) | Зьмены ўсіх капіталаў: павяліч. (+), зьмяншш. (—) |
| | 106 | 107 | 108 | 109 | 110 | 111 | 112 | 113 | 114 | 115 | 116 | 117 | 118 | 119 | 120 | 121 | 122 |
| 1 | 730,8 | 29,8 | — | 701,0 | — 29,8 | 132,7 | 18,2 | 0,7 | 91,4 | — | 206,6 | + 73,9 | — 92,6 | 0 | + 146,0 | — 60,2 | + 37,3 |
| 2 | 601,8 | 31,8 | + 500,0 | 1070,0 | + 468,2 | 168,7 | 18,4 | — | 94,0 | — | 244,3 | + 75,6 | — 41,9 | — 256,0 | — 78,0 | — 144,2 | + 23,7 |
| 3 | 777,0 | 32,0 | — | 745,0 | — 32,0 | 738,4 | 58,1 | 11,3 | — | — | 691,5 | — 46,9 | — 169,2 | — 10,0 | + 227,0 | + 1,6 | — 29,5 |
| 4 | 178,0 | 8,0 | + 180,0 | 350,0 | + 172,0 | 450,5 | 44,2 | — | 5,0 | 2,2 | 409,1 | — 41,4 | — 4,0 | + 68,0 | + 199,0 | — 105,6 | + 288,0 |
| 5 | 978,1 | 48,1 | — | 930,0 | — 48,1 | 193,0 | 25,9 | — | 65,5 | 3,4 | 229,2 | — 36,2 | + 45,4 | — 9,5 | + 132,0 | — 38,5 | + 117,5 |
| 6 | 859,9 | 39,9 | — | 820,0 | — 39,9 | 177,7 | 20,9 | — | 0,3 | 2,1 | 155,0 | — 22,7 | + 110,1 | + 7,3 | + 152,0 | + 4,0 | + 210,9 |
| 7 | 600,3 | 20,3 | — | 580,0 | — 20,3 | 157,7 | 25,3 | 0,3 | 33,0 | — | 165,7 | + 8,0 | + 6,6 | + 2,5 | + 51,0 | — 267,3 | — 219,6 |
| 8 | 1388,2 | 38,2 | + 200,0 | 1550,0 | + 161,8 | 464,8 | 51,8 | 8,5 | 104,5 | — | 526,0 | + 61,2 | — 84,6 | — 54,0 | + 138,0 | — 92,7 | + 129,8 |
| 9 | 669,6 | 19,6 | + 55,0 | 750,0 | + 35,4 | 728,6 | 52,3 | 3,0 | 16,7 | 2,0 | 694,0 | — 34,6 | — 87,6 | + 5,0 | + 51,0 | + 133,7 | + 98,4 |
| 10 | 447,8 | 17,8 | — | 430,0 | — 17,8 | 277,1 | 34,2 | 13,0 | 77,5 | — | 334,0 | + 56,3 | + 9,4 | + 1,0 | + 104,0 | + 125,5 | + 278,4 |
| 11 | 862,9 | 27,9 | — | 835,0 | — 29,9 | 226,7 | 22,1 | 2,0 | 6,8 | — | 213,3 | — 13,4 | — 42,2 | — 5,0 | + 131,0 | — 63,6 | — 23,1 |
| | 8094,4 | 313,4 | + 930,0 | 7084,0 | + 619,8 | 3715,9 | 371,4 | 38,8 | 494,7 | 9,7 | 3868,1 | + 152,2 | — 350,6 | — 250,7 | + 1253,0 | — 508,1 | + 911,8 |

## СТРАЧАНА РАБОЧЫХ ДЗЁН У ПЕРАВОДЗЕ НА РАБ. МУЖЧЫНУ (1 дзень=10 гадзінам)

| №№ па парадку | Жыта | | Авёс | | Лён | | Бульба | | Іншыя паляв. культуры | | Усяго ральніцтва | | Сенажаць | | Агульны догляд жывёлы | | Коні | | Быдла | | Авечкі | | Сьвіньні | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Усяго | У тым ліку мужчын | Усяго | У тым ліку мужчын | Усяго | У тым ліку мужчын | Усяго | У тым ліку мужчын | Усяго | У тым ліку мужчын | Усяго | У тым ліку мужчын | Усяго | У тым ліку мужчын | Усяго | У тым ліку мужчын | Усяго | У тым ліку мужчын | Усяго | У тым ліку мужчын | Усяго | У тым ліку мужчын | Усяго | У тым ліку мужчын |
| | 123 | 124 | 125 | 126 | 127 | 128 | 129 | 130 | 131 | 132 | 133 | 134 | 135 | 136 | 137 | 138 | 139 | 140 | 141 | 142 | 143 | 144 | 145 | 146 |
| 1 | 52,8 | 44,8 | 46,9 | 39,7 | — | — | 36,0 | 17,4 | 6,1 | 4,5 | 141,8 | 106,4 | 56,6 | 56,6 | — | — | 90,1 | 90,1 | 141,3 | 141,3 | 21,2 | 21,2 | 146,0 | 146,0 |
| 2 | 47,6 | 33,2 | 42,2 | 25,0 | 19,9 | 2,3 | 42,4 | 22,8 | 16,0 | 16,0 | 164,1 | 99,3 | 50.3 | 50,0 | 3,5 | 3,5 | 38,2 | 38,2 | 212,1 | 161,7 | 10,0 | 10,0 | 111,2 | 36,5 |
| 3 | 74,0 | 49,5 | 46,3 | 28,8 | 40,1 | 1,1 | 38,8 | 30,8 | 36,7 | 19,0 | 235,9 | 129,2 | 89,5 | 69,9 | — | — | 22,7 | 22,7 | 367,8 | 190,1 | 7,5 | 1,1 | 70,2 | 2,4 |
| 4 | 140,5 | 92,6 | 53,0 | 21,0 | 42,0 | 5,1 | 91,1 | 54,6 | 35,0 | 20,9 | 361,6 | 194,2 | 69,4 | 66,5 | — | — | 93,0 | 93,0 | 222,0 | 60,0 | 33,2 | 20,0 | 241,2 | — |
| 5 | 92,1 | 65,7 | 40,3 | 24,5 | 23,4 | 4,6 | 48,8 | 46,4 | 21,5 | 13,3 | 226,1 | 154,5 | 90,2 | 84,6 | — | — | 74,3 | 74,3 | 148,1 | 95,3 | 5,1 | 3,3 | 208,9 | 17,7 |
| 6 | 97,9 | 84,1 | 43,2 | 36,0 | 25,2 | 6,4 | 111,5 | 73,5 | 75,4 | 59,4 | 353,2 | 259,4 | 52,0 | 41,2 | — | — | 320,4 | 130,8 | 119,7 | 60,5 | 18,3 | 12,0 | 146,0 | 1,0 |
| 7 | 73,0 | 26,9 | 41,0 | 25,0 | 32,6 | 9,0 | 39,9 | 19,5 | 76,3 | 62,4 | 262,8 | 142,8 | 39,0 | 25,0 | — | — | 79,5 | 79,5 | 201,1 | 30,0 | 11,1 | 4,0 | 113,6 | — |
| 8 | 85,3 | 47,4 | 61,9 | 43,9 | 28,8 | 3,3 | 68,8 | 33,0 | 45,5 | 31,3 | 288,3 | 158,9 | 178,9 | 32,1 | 12,5 | 12,5 | 182,0 | 149,0 | 181,0 | 100,0 | 34,0 | 30,0 | 209,8 | 20,0 |
| 9 | 108,7 | 79,2 | 33,3 | 13,7 | 12,8 | 2,0 | 55,1 | 29,1 | 49,1 | 29,3 | 259,0 | 153,3 | 16,2 | 10,7 | 19,9 | 13,4 | 98,0 | 98,0 | 222,7 | 72,6 | 20,0 | 20,0 | 103,6 | — |
| 10 | 134,2 | 113,8 | 43,0 | 27,0 | 63,5 | 7,0 | 52,2 | 29,1 | 109,2 | 85,4 | 402,1 | 262,3 | 16,7 | 9,5 | 61,2 | 42,0 | 109,5 | 109,5 | 162,2 | 68,3 | 18,8 | 10,0 | 88,0 | — |
| 11 | 87,3 | 72,6 | 42,2 | 33,1 | 22,9 | 21,2 | 28,8 | 16,7 | 49,7 | 33,9 | 230,9 | 177,5 | 79,8 | 62,4 | 9,0 | 6,8 | 69,5 | 69,5 | 66,6 | 20,0 | 5,0 | 5,0 | 55,6 | — |
| | 989.4 | 709,8 | 493,3 | 317,7 | 311,2 | 62,0 | 611,4 | 372,9 | 420,5 | 375,4 | 2925,8 | 1837,8 | 738,6 | 508,5 | 106,1 | 78,2 | 1177,2 | 954,6 | 2044,6 | 999,8 | 184,2 | 136,6 | 1494,1 | 223,6 |

